№ 2 (264) 11 студзеня 2002 г.

# НАША НІВА +тэлепраграма

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

## «ГОЛАС ДУШЫ» задушаны Лукашэнкам

## DRANG NACH OSTEN
Апарат МЗС скарочаны, штат аддзелаў Азіі, Афрыкі і СНД вырас

## СЛАВАМІР АДАМОВІЧ
Беларусь праз 100 гадоў

ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

418 гадоў са зьмены календара

# Новы год па-праваслаўнаму

У 7207 г. ад стварэньня сьвету расейскі цар Пётар І выдаў загад лічыць наступны год 1700-м ад Нараджэньня Хрыстовага. Расея перайшла на юліянскі каляндар у 1700 г., а на грыгарыянскі толькі ў 1918 г. Беларусы апярэдзілі ўсходняга суседа на некалькі стагодзьдзяў.

Вялікае Княства, як і Карона Польская, ужо ў Сярэднявеччы карысталася юліянскім календаром, створаным пры Юлію Цэзару. Але той каляндар быў недакладны, і ў 1582 г. ягонае адставаньне ад астранамічнага склала 10 дзён. Папа Рымскі Грыгор XIII у лютым 1582 г. "дадаў" гэтыя 10 дзён і адмысловай булай загадаў каталікам карыстацца новым — грыгарыянскім — календаром. Каталікі Рэчы Паспалітай перайшлі на новы каляндар каля 1584 г., пры каралю і вялікім князю Сьцяпану Батуру. Супраць новаўвядзеньня выступілі праваслаўныя, і Батура сваімі прывілеямі ад 1584 г., 1585 г., 1586 г. дазволіў ім і надалей карыстацца старым календаром: ВКЛ толькі адбілася ад маскоўскай навалы і кароль шукаў нацыянальнага адзінства перадусім. А пры Жыгімонту IV Вазу ў 1592 г. быў выдадзены загад, які забараняў сьвецкім уладам Рэчы Паспалітай умешвацца ў справы праваслаўных. Апошнія не пакідалі ў спакоі толькі езуіты: два стагодзьдзі паміж езуітамі і праваслаўнымі трывала зацятая палеміка, які каляндар правільны.

Пасьля далучэньня беларускіх земляў да Расеі афіцыйна быў вернуты юліянскі стыль, але каталікі працягвалі жыць па сваім календары. Таму можна па-рознаму вызначаць тую ці іншую дату: пачатак вайны 1812 г. (12 ці 24 чэрвеня), пакараньне сьмерцю Каліноўскага (10 ці 22 сакавіка), нараджэньне Купалы (25 чэрвеня ці 7 ліпеня). Тая ж "Наша Ніва" падавала ў выходных дадзеных дзьве лічбы. Вось № 2 за 1912 г.: 13 (26) студзеня 1912 г.

У 1918 г. Ленін скіраваў савецкую дзяржаву на грыгарыянскі стыль. Праваслаўная царква дагэтуль карыстаецца юліянскім. Цікава назіраць, як у строгі пост шырока адзначаецца Новы год (1 студзеня), праз шэсьць дзён — Раство, а пасьля яшчэ і "стары новы год".

Эдвард Людовіч




Затрыманы дырэктар МТЗ М.Лявонаў (на здымку). Зачыненая каталіцкая праграма радыё "Голас душы". Русіфікаваны першы канал радыё. Новага кіраўніка кансультацыйна-назіральнай групы АБСЭ не пускаюць у Беларусь. Адліга скончылася, спадарове.

# Прэміі Клешчуку й Баразьне

*камэнтар рэдакцыі*

Сярод ляўрэатаў прэзыдэнцкай прэміі за 2001 год — даўнія аўтары "НН" фатограф Анатоль Кляшчук і мастацтвазнаўца Міхал Баразна. Ня ведаем, віншаваць іх з такім прызам ці шкадаваць.

Ад прэміі ніхто зь ляўрэатаў не адмовіўся. А то ж — мільён рублёў, шасьцьсот даляраў. Гэта ж болей за дзяржаўную прэмію. Прэміі недзяржаўныя звычайна ўвогуле сымбалічныя. А тут грошы, за якія можна добра жыць — а значыць, і працаваць — з паўгоду.

Улада фліртуе з інтэлігенцыяй. Дударава, леташняга ляўрэата прэміі лукашэнкаўскай, сёлета вылучылі на прэмію саюзнае дзяржавы. Відаць, ён ізноў не адмовіцца. Раз дзеячы культуры прымаюць прэміі з рук Лукашэнкі, значыць, прызнаюць яго прэзыдэнтам. Лукашэнку можна павіншаваць. Дабіўся! Калі Дудараў прыме прэмію ад саюзнай дзяржавы, значыць, прызнае саюзную дзяржаву. Кожны выбірае сам.

Пішучы пра леташнюю выставу Клешчука, "НН" раіла дзяржаве даць фатографу дзяржаўную прэмію — гелікоптэр для перамяшчэньня па рэспубліцы. Далі 600 даляраў. Гэта цана дзьвюх гадзінаў палёту на гелікоптэры.

А ў прынцыпе, гэта Лукашэнкава дробная пыха — рабіць свае прэміі большымі за купалаўскія. Пагатоў што грошы на "прэзыдэнцкія прэміі" зароблены рукамі кожнага з нас.

# У люстэрку самагубстваў



**А ці добра мы жывем? "Сьмешнае пытаньне"— скажуць пэсымісты. "Вядома, добра!"— скажа БТ. "А вунь тыя — яшчэ горш", — знойдуцца аптымісты. Але ёсьць рэчы, якія сьведчаць пра нашае жыцьцё лепш за эканамічныя разьлікі ды суб'ектыўныя назіраньні. Гэта звычайная сьмерць і асабліва сьмерць па ўласнай волі, ці па-навуковаму — суіцыд. Узровень самагубстваў залежыць ад нацыянальных, кліматычных і біялягічных асаблівасьцяў. Рэкардсмэны тут вугорцы, даволі высокі ўзровень і ў краінах Скандынавіі. Сярод многіх прычынаў, што ўплываюць на рост колькасьці суіцыдаў, на першым месцы стаяць сацыяльныя.**

Працяг на старонцы 4.

# ПЕЦЯРБУРГ
## горад беларусаў

Санкт-Пецярбург рыхтуецца да 300-годзьдзя. Суседнія краіны віншуюць другую расейскую сталіцу. Напрыклад, фіны зьбіраюцца па-суседзку падараваць гораду станцыю ачысткі каналізацыі. Гэта падарунак і самім сабе, бо 5,5-мільённы горад будзе зьліваць шмат менш свайго неачышчанага "дабра" ў Фінскую затоку. Практычныя латышы падораць конны помнік Пятру І, які стаяў у Рызе з даваенных часоў, і пазбавяцца тым самым яшчэ адной адзнакі расейскай прысутнасьці ў іхнім краі.

Да сьвятаў Пецярбург паднаўляюць. На дамбе, якая бароніць горад ад паводак, і на размытым падземнай ракой кавалку мэтро праца ідзе нават уначы. Але найбольш кідаюцца ў вочы рэстаўраваныя коні Клота на Анічкавым мосьце (шляхетнай зялёнай пацінparam на іх ужо няма), новая набярэжная каля Смольнага (з прыгожай каванай агароджай), замошчаныя наборным гранітным брукам тратуары на Неўскім.

Падсьвятлілі Петрапаўлаўскую крэпасьць, самыя значныя будынкі ў цэнтры і масты церазь Няву. Адрамантавалі Растральныя калёны і ўсю стрэлку Васілеўскага вострава. Пуцін любіць прымаць замежных гасьцей у сваім родным горадзе, і цяпер архітэктары б'юцца за заказ на перабудову аднаго з занядбаных царскіх палацаў (Канстанцінаўскага) пад Марскую рэзыдэнцыю прэзыдэнта. А грандыёзны праект палацу для адміністрацыі расейска-беларускага саюзу на Васілеўскім вострове перасталі абмяркоўваць пасьля захаду зоркі Паўла Барадзіна.

У красавіку 2001 г. скончыўся тэрмін знаходжаньня ў Санкт-Пецярбургу першага афіцыйнага прадстаўніка Беларусі. Прафэсар Уладзімер Рудзянкоў адпрацаваў пяць гадоў, але так і не атрымаў статусу консула — ён лічыўся кіраўніком аддзяленьня пасольства Беларусі ў Расейскай Фэдэрацыі. Уладкаваў свой офіс ва ўтульнай і добра прыхаванай (пад арку направа) кватэры на набярэжнай Рабэсп'ера 8/46, недалёка ад Таўрычаскага палацу. Самай заўважнай культурнай акцыяй, зладжанай раднікам летась, былі выступы салістаў менскай Опэры ў Эрмітажным тэатры. Сьпявалі яны расейскія рамансы ды італійскія арыі. З траўня 2001 г. абавязкі консула Беларусі ў Пецярбургу выконвае Васіль Шаладонаў. Ён добра валодае расейскай мовай, але гаворыць па-беларуску. Шаладонаў дапамог студэнтам-беларусам Санкт-Пецярбурскай кансэрваторыі адстаяць правы на свабоднае абранне прафэсараў і на пражываньне ў інтэрнаце для замежных студэнтаў (дагэтуль беларусаў сялілі разам з расейцамі ў малакамфортным і аддаленым ад навучальнага корпусу інтэрнаце, а аплату бралі, як з замежнікаў). Гэтым ды яшчэ асабістай прысутнасьцю на навуковай канфэрэнцыі "Санкт-Пецярбург і беларуская культура" новы консул выклікаў павагу ў мясцовай беларускай інтэлігенцыі. Згаданая канфэрэнцыя (дзявятая па ліку) прайшла ў чэрвені 2001 г. і была арганізаваная Санкт-Пецярбурская асацыяцыяй беларусістаў разам з Расейскай нацыянальнай бібліятэкай. Яна была прысьвечаная памяці Міколы Ермаловіча. У адрозьненьне ад папярэдніх канфэрэнцыяў,

*Консул Беларусі ў Пецярбургу — Васіль Шаладонаў. Ён добра валодае расейскай мовай, але гаворыць па-беларуску*



Працяг на старонцы 5.

**З Новага году "НН" выходзіць на 16 старонках з тэлепраграмай. Дык падпісвайся!**

## навіны гаспадарскія

**ТРЫ НОВЫЯ СТАНЦЫІ МЭТРО** — "Каменную горку", "Кунцаўшчыну" і "Ракаўскую" — плянуюць адкрыць на захадзе Менску ў 2003 г. Адпаведна, удзьмецца кошт кватэраў у тых раёнах. А сёлета да цягнікоў мэтро дададуць яшчэ па адным вагоне.

**ПАДВЫСІЛІСЯ КАМАНДЗІРОВАЧНЫЯ** ў межах Беларусі. Кампэнсацыя за кожныя суткі павялічылася з 2500 да 3500 руб., за аднадзённую камандзіроўку — з 1250 да 1750 руб., за ноч на прыватнай кватэры — з 750 да 1050 руб.

**ІЛЬГОТНЫЯ КРЭДЫТЫ** на мэблю і бытавую тэхніку могуць атрымаць выпускнікі дзяржаўных навучальных установаў, што самахоць паедуць працаваць у чарнобыльскія раёны. Раней крэдыты давалі толькі тым, хто ехаў туды па адмысловым разьмеркаваньні.

**НЯМЕЦКІЯ МАРКІ НА ЭЎРА** беларускія камэрцыйныя банкі будуць мяняць толькі да 15 лютага. "Беларусбанк" хоча скончыць гэтыя апэрацыі ўжо да 15 студзеня — на 10 дзён раней, чым плянавай. Прысьпешваньне банкі тлумачаць тым, што трэба да сакавіка адвезьці маркі ў Нямеччыну ды памяняць.

**ПАДВЫСЦІЦЦА МЫТА** на ўвоз у Беларусь шкла. Зараз збольшага шкло вязуць з Польшчы, з-за чаго за апошнія два гады цана на яго зьнізілася на 40%. Ад гэтага пацярпелі беларускія вытворцы.

**МІНФІН СТАНЕ ГАРАНТАМ КРЭДЫТАЎ**, што бяруць беларускія прадпрыемствы ў Сусьветным валютным фондзе. Гэтак разьлічваюць прыцягнуць у краіну новыя інвэстыцыі.

**КАЛЯ 3,5 ТЫС. ФІРМАЎ** у Беларусі створаныя з удзелам замежнага капіталу. Іхны абвешчаны статутны фонд каля 800 млн. даляраў, а доля замежнага інвэстара ў ім — каля 500 млн. даляраў. Большая частка прадпрыемстваў (55,4%) месьціцца ў сталіцы. На Менскую вобласьць прыпадае 12,4%, на Гомельскую — 10,7%, на Віцебскую — 7,1%, на Берасьцейскую — 5,4%, на Магілёўскую — 5,1%, на Гарадзенскую — 3,9%. Самымі буйнымі краінамі-інвэстарамі зьяўляюцца ЗША (17,1%), Нямеччына (16,2%), Нідэрлянды (13,4%), Вялікая Брытанія (6,6%), Кіпр (6,1%), Аўстрыя (3,8%).

Найбольшыя сумесныя прадпрыемствы займаюцца будаўніцтвам, вытворчасьцю электраізалятараў, выдавецкай справай і паліграфічнымі паслугамі, дрэваапрацоўкай і вытворчасьцю прадуктаў харчаваньня.

**З ПРЫБЫТКУ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ** у бюджэт Менскай вобласьці цяпер будуць адлічаць 1,5% на рамонт грамадзкага транспарту і 3,5% на разьвіцьцё сацыяльнай сфэры.

**ПАДАРАЖЭЛІ НА 4% ЦЫГАРЭТЫ** Гарадзенскай тытунёвай фабрыкі. А менскі "Тытунь-Інвэст" падвысіў цэны на 6%. Так што "Карона" будзе каштаваць ня менш за 464 рублі.

**БЕЛАРУСКІ ЭНЭРГАБЛЁК НА РАСЕЙСКАЙ АЭС** — пад Смаленскам, Курскам або Цьвер'ю — хочуць збудаваць нашыя ўрадоўцы. Грошы яны спадзяюцца ўзяць з сугольнага бюджэту Беларусі й Расеі. Але паколькі апошні збольшага сымбалічны, далей за напаўныя пляны справа пакуль не ідзе. Між тым доля імпартовай электрычнасьці застаецца вялікай. Летась Беларусь купляла 25,3% ад усіх энэрганосьбітаў: 19,2% у Расеі і 6,1% у Літве. Запазычанасьць за іх цягам 2001 г. вырасла з 23,5 да 27 млн. даляраў.

**З КРАДЗЯЖОМ ПАЛІВА** ў саўгасах і калгасах Берасьцейшчыны змагаюцца арыгінальна. Аблыжканам патрабуе, каб гаспадары, што маюць трактары ды грузавікі, бралі квітанцыі на аўтазапраўках, дзе набываюць бэнзын ці салярку.

**КІРАЎНІК НАЦБАНКУ ПРАКАПОВІЧ** паабяцаў, што пры канцы 2002 г. даляр не перакрочыць мяжы 1860 рублёў.

**Сяржук Іваноўскі**



# Завальнюк не здаецца

**У сетцы вяшчаньня "Радыё-1" з Новага году адсутнічае праграма "Голас душы", што трансьлявала ў жывым этэры сьвятую імшу з Чырвонага касьцёлу. Чыноўнікі Белтэлерадыё тлумачаць закрыцьцё нізкім рэйтынгам — ніхто, маўляў, "Голас душы" ня слухаў. Ад 6 студзеня частка сьцяны за алтаром Чырвонага касьцёлу, дзе месьціўся лягатып праграмы, зацягнутая чорнай тканінай з выявай шасьці бліскучых сэрцаў, што сымбалізуюць абласныя цэнтры, дзе яна прымалася. Праграму айца Завальнюка, пробашча Чырвонага касьцёлу, зачыняюць ужо ў другі раз. Першы раз, за Замяталіна, яе мусілі адчыніць наноў пасьля таго, як на радыё перадалі 30 тысяч подпісаў, сабраных у яе падтрымку. Цяпер, за Латыпава-Князева, ці што паможа? Айцец Завальнюк не здаецца і заклікае ўсіх хрысьціянаў Беларусі падтрымаць аднаўленьне радыёпраграмы.**

## лісты ў рэдакцыю

### Калядны падарунак

Незвычайны падарунак беларускім хрысьціянам вырашылі зрабіць улады пад сьвята Божага Нараджэньня - зачынілі "Голас душы". Белтэлерадыёкампанія пазбаўляе наш народ такой патрэбнай духоўнай падтрымкі. Карысьць радыёперадачы відавочная - гэта клопат аб хворых і тых, хто знаходзіцца ў зьняволеньні й фізычна ня можа наведваць храмы. Апошні этэр "Голасу душы" мы пачулі 30 сьнежня. Трэба, каб яе аднавілі!

**Аляксей Каляда, Кунцаўшчына**

### Дапамажыце, добрыя людзі!

Я — інвалід зь дзяцінства. Маці й бацька памерлі. У мяне няма сродкаў на пакупку самага неабходнага: ежы, вопраткі, лекаў. Хаця й сорамна пра гэта прасіць, але прашу: дапамажыце мне, добрыя людзі, і вышліце для мяне паношаную вопратку й абутак (памер вопраткі 52, абутку летняга 42-43, зімовага 44, шапак — 59).

**Мелюх Антон, вул.Камсамольская, дом 7. в.Багданаўка, Лунінецкі раён, Берасьцейская вобласьць, 225658.**

### На асобнай старонцы

Калі ўсё ж такі друкуеце праграму, то зрабіце, як "Пагоня" рабіла, на асобнай старонцы, каб можна было без шкадаваньня выкінуць, бо я зьбіраю "НН" у падшыўку. На халеру мне ў падшыўцы тая праграма? Беларусь зьмяняецца — няхай і "Наша Ніва" зьмяняецца, але ў лепшы бок.

Творчых посьпехаў Вам, шчасьця, здароўя і ўсяго найлепшага.

**Пятро Дырында, Вялікае Сяло (Сьвіслаччына)**

### Ніякіх праграмаў!

Я катэгарычна супраць разьмяшчэньня праграмы тэлебачаньня ў Вашай газэце. Навошта? Цяперака ў кожнай газэце ёсьць гэтая праграма. Таму калі яна камусьці патрэбная, ён яе знойдзе. "НН" не таго кшталту газэта, каб выкідаць цэлы аркуш на гэтую справу. Лепш разьмясьціць тамака якую-небудзь размову з чалавекам, надрукаваць цікавыя лісты чытачоў. Будзе больш карысьці ўсім. Таму, калі ў Вас ёсьць магчымасьць, улічыце і мой голас. Ніякіх праграмаў!

**Сяржук, Менск**

### Каляднае пасланьне айца Івана (Спасюка)

Паважаныя браты, сёстры, любыя сэрцу беларусы!

Напярэдадні Вялікага сьвята Нараджэньня Хрыстовага дазвольце павіншаваць вас і вашых блізкіх з гэтым сьвятам.

Сёньня нашыя малітвы радасныя і перадсьвяточныя. Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква моліцца, каб Гоcпад сагрэў цяплом нашыя дамы, умацаваў нашае здароўе, вылячыў нашыя спустошаныя душы. Няхай з Нараджэньнем Хрыстовым у душы кожнага з нас народзіцца любоў і мір - царкоўны, нацыянальны й сямейны. Сапраўды, хто мае ў душы любоў, той сам робіцца чалавекам праўды і справядлівасьці. На жаль, у наш час людзі зьбіраюць матэрыяльныя багацьці, а не духоўныя спажыткі. Нават хрысьціянін, што прыняў сьвяты хрост і даў зарок жыць па запаветах Божых, часта не выконвае свайго прызначэньня. Нараджэньне Хрыстова дае магчымасьць бачыць Бога ў сьвятле дабрыні, мудрасьці і вечнасьці. Няхай Госпад схіліць нас да хрысьціянскай любові, еднасьці й міру. На гэтым шляху няхай Бэтлеемская зорка асьветліць наш розум. У гэтыя перадсьвяточныя дні Нараджэньня Хрыстова сардэчна вітаю Вас, дарагія браты й сёстры, зь Вялікім сьвятам і Новым 2002 годам.

Віншую са сьвятам усіх нашых землякоў-беларусаў, па ўсім сьвеце раскіданых. Ад шчырага сэрца вітаю з Нараджэньнем Хрыстовым нашага прэзыдэнта Аляксандра Лукашенку і малітоўна прашу ў Бога яму дапамогі, каб ён апраўдаў давер беларускага народу й вывеў беларускую дзяржаву на эўрапейскі шлях разьвіцьця. Віншую са сьвятам урад, усіх правіцеляў нашых і Беларускае войска.

Праслаўляючы Нараджэньне Хрыстова, дзякуйма Яму за ўсе ягоныя добрыя дзеі, за радасьць і смутак. Няхай Госпад будзе літасьцівы да нас у выпрабаваньнях нашай веры і любові і праняce міма нас чашу гневу Свайго за грахі і беззаконьні нашыя.

Няхай дабраславеньне Божае перабывае зь Беларусяй і народам яе.

Ласка Госпада Ісуса Хрыста няхай будзе з усімі намі.

Хрыстос нарадзіўся!

Слаўма яго!

**Пратаярэй Ян Спасюк**

**З Новага году «НН» выходзіць па пятніцах. З наступнага тыдня ў Менску ў шапіках гэты пятнічны нумар можна будзе купіць ужо з абеду чацьвярга. Перапрашаем за накладкі з дастаўкай газэты ў іншыя гарады. Віна ў тым «Белпошты», яны абяцаюцца паправіцца з наступнага тыдня.**

### Беларускія дыплёмы прызнаныя ў Эўропе

Беларусь далучылася да Канвэнцыі аб прызнаньні дыплёмаў аб вышэйшай адукацыі ў эўрапейскім рэгіёне, падпісанай у 1997 г. у Лісабоне. Дакумэнт дае беларусам новыя магчымасьці для атрыманьня адукацыі ды працы за мяжою. На сёньня Канвэнцыю падпісалі 50 дзяржаваў.

### Нарадзіўся ў кашулі

**Амаль неверагоднае здарылася вечарам 4 студзеня на дарозе Чысьць—Плябань ля вёскі Ракуцёўшчына (Маладачаншчына).** Чалавек, які ляжаў на праезнай частцы, трапіў паміж колаў рэйсавага аўтобусу "Краснае—Ільля" і не атрымаў значных пашкоджаньняў. Аўтобус рухаўся з хуткасьцю 50--55 км/г. Насустрач ехаў "Опэль", які асьляпіў кіроўцу аўтобусу бліжнім сьвятлом фараў. З правага боку ляжаў нейкі прадмет, прысыпаны сьнегам. Гэта быў 41-гадовы п'яны мужчына. Потым спыталіся, ці баліць яму што. Ён адказаў, што не. А пасьля даў тлумачэньні работнікам ДАІ. Ён выпіў у Чысьці бутэльку віна і ішоў па дарозе дадому. Пасьля ўпаў і заснуў. Прачнуўся толькі пасьля таго, як пабываў пад коламі аўтобуса.

**Паводле "Рэгіянальнай газэты"**

### Чорныя на белым

**У лясным масыве паблізу памежпераходу "Каменны Лог" Ашмянская раёну пагранічнікі затрымалі васьмёх афраазіятаў.** Іхны шлях ляжаў у эўрапейскія краіны. Напярэдзе ў няпрошаных гасьцей дэпартацыя.

### Адкуль кампакты?

**Адзін жыхар Астравеччыны, пакладўшы ў сумку больш за 6000 кампакт-дыскаў, хацеў нелегальна патрапіць у Літву.** Злавіў яго паблізу вёскі Прэны памежны нарад. Калі пачалі разьбірацца, выявілася, што кампакты кантрафактнага паходжаньня. Цяпер у кантрабандыста хочуць даведацца, адкуль гэткая прадукцыя трапляе ў нашу краіну.

**Мар'ян Вянгроўскі, Астравец**

### Затрымалі за абразы

**За два дні да Новага году на Юравецкім рынку ў Беластоку паліцыянты затрымалі жыхара Беларусі Андрэя В.** У яго ным фальксвагене знайшлі 16 абразоў XIX ст, якія ён нелегальна перавёз цераз мяжу. Яшчэ небараку давядзецца тлумачыць, адкуль у ягонай кішэні ўзялася фальшывая банкнота ў 200 злотых.

**www.pahonia.promedia.minsk.by**

## з усей краіны

### Пяцідзёнкі ня будзе

**Не пасьпелі школы Берасьцейшчыны перайсьці на пяцідзёнку,** пра якую пісала "НН" у мінулым нумары, як зь Міністэрства адукацыі прыйшоў загад прыпыніць экспэрымэнт да пачатку новага навучальнага году.

### Зьбіраюць подпісы за Рахманька

**Больш за тысячу подпісаў сабралі на Баранавіцкай філіі Беларускай чыгункі ў абарону былога міністра Віктара Рахманька.** Цяпер подпісныя лісты накіруюць ці прэзыдэнту асабіста, ці прэм'ер-міністру. Падпісаліся нават манахі Жыровіцкага мужчынскага кляштару.

**Руслан Равяка, Баранавічы**

### Крычаву вернуты герб

**Крычаўскі райвыканкам зацьвердзіў герб Крычава,** падораны яму яшчэ ў 1653 г. каралём Янам Казімірам: у чырвоным полі залаты каталіцкі крыж і срэбны меч. У першай палове 80-х у якасьці герба была зацьверджаная выява комінаў мясцовага цэмэнтнага заводу. Пры канцы 80-х іх зьмяніў палац князя Пацёмкіна, якому падаравала Крычаў у канцы XVIII ст. расейская імпэратрыца Кацярына II. Зараз справядлівасьць адноўленая. Новы герб ужо зьявіўся на першай старонцы раёнкі "Ленінскі кліч".

**Андрэй Кузьмін, Крычаў**

### Мамы розныя бываюць

**Жудасны выпадак адбыўся ў Астравецкай раённай бальніцы.** 23-гадовая мясцовая жыхарка знаходзілася на лячэньні з двума дзеткамі. Яна не паведаміла лекарам, што цяжарная трэцім, а тыя і не заўважылі. Жанчына нарадзіла неданошанае дзіця і, як непатрэбную рэч, выкінула на сьметнік. Міліцыя разьбірае гэты факт. Але людзкая дэградацыя відавочная і бязь сьледзтва.

### Таварняком у Літву

**Незвычайны спосаб трапіць у Літву выбраў 14-гадовы жыхар Украіны і ягоная 19-гадовая сяброўка.** Яны паехалі туды са станцыі Маладэчна на счапным прыстасаваньні таварнага цягніка. У Гудагаі "салодкую парачку" заўважылі памежнікі. Юны турыст з абмаражэньнямі рук і ног апынуўся ў бальніцы, ягоная сяброўка — у судзе.

**М.В., Астравец**

### Самазванец у рызе

**Суд Кастрычніцкага раёну Менску даў Аляксандру Сяргейчыку, жыхару Івацэвіччыны, 7,5 гадоў турмы за "махлярства ў асабліва вялікіх памерах".** Сяргейчык зьявіўся неяк у менскім НДІ траўматалёгіі і артапэдыі ў сьвятарскай рызе і прапанаваў паслугі па выганьні духаў з кабінэтаў супрацоўнікаў. Пасыпаліся замовы. Сьвятар лячыў ад сурокy, выганяў з кватэраў чартоў, нават грашовыя банкноты ачышчаў ад "злога". Зь цягам часу супрацоўнікі НДІ заўважылі, што малітвы не дапамагаюць, і зьвярнуліся ў пракуратуру.

**Паводле *Белорусской газеты***

### На "Гомсельмашы" загінуў рабочы

**Пазаўчора ў досьледным цэху спэцыялізаванага канструктарскага бюро "Гомсельмашу" загінуў 40-гадовы рабочы.** Крысо верхняй вопраткі (на прадпрыемстве вельмі халодна) трапіла ў барабан апрацоўчага станка і пацягнула за сабой чалавека.

### Гомель уводзіць мыта

**Шэсьць памежных з Украінай раёнаў Гомельшчыны ўводзяць мытны збор.** Пераехаць беларускую мяжу на легкавіку будзе каштаваць 5 даляраў, на грузавіку — 10 даляраў. Мыт дасьць дадатковыя грошы раённым бюджэтам. А старшыня Гомельскага аблсавету Валеры Сяліцкі расцаніў увядзеньне мыту адмоўна: "Гэта не па-эўрапейску, не па-сучаснаму".

**Э.Л.**

**Дзяржава не стамляецца рэфармаваць Міністэрства замежных справаў. Указам прэзыдэнта ад 26 верасьня частка функцыяў МЗС у галіне замежнаэканамічнай дзейнасьці перададзеная міністэрствам эканомікі й гандлю. Туды ж перавялі і частку пэрсаналу МЗС, што займалася гэтымі пытаньнямі. У выніку пераводу ў іншыя міністэрствы і скарачэньня ў цэнтральным апараце МЗС стала на 61 супрацоўніка меней – цяпер там працуюць 349 чалавек.**

у Міністэрстве замежных справаў

# Drang nach Osten

Значна зьменшыліся дэпартамэнты, адказныя за эўрапейскія справы. Супрацоўнікаў адтуль "перакінулі" на Азію, Афрыку, СНД альбо скарацілі. Зьменшылі і колькасьць структурных частак міністэрства — іх стала 25 замест ранейшых 34. Праўда, утварыліся тры новыя дэпартамэнты: Кардынацыі замежнаэканамічнай дзейнасьці, Эўропы і эўрапейскай інтэграцыі, Арганізацыйнай работы і дакумэнтацыі. Менш стала і намесьнікаў у Хвастова — чатыры замест колішніх сямі.

Мінулы год быў ня дужа ўдалы для Міністэрства замежных справаў. Замежнагандлёвы абарот істотна скараціўся. Менавіта гэта падштурхоўвала да зьменаў. Чамусьці палічылі, што найбольш пэрспэктываў для росту мае афрыканскі і азіяцкі кірунак.

За 9 месяцаў 2001 г. таваразварот з краінамі Азіі і Афрыкі склаў толькі 566 млн. даляраў ЗША (гэта на 104 млн. даляраў, або на 16%, менш, чым у 2000 г.). Наш экспарт на гэтыя два кантынэнты склаў 403 млн. даляраў і паменшыўся ў параўнаньні з 2000 г. на 43 млн. (або на 10%), а імпарт паменшыўся на 61 млн. (27%) і склаў 163 млн. даляраў.

У той самы час станоўчае сальда замежнага гандлю з усходнімі краінамі склала 240 млн. даляраў, павялічыўшыся ў параўнаньні з 2000 г. на 18 млн. (або 8%). Доля краінаў Азіі (безь дзяржаваў СНД і Турэччыны) і Афрыкі ў таваразвароце Беларусі з замежжам складае 11,7%: 14,5% у экспарце й 7,7% — у імпарце. Зьніжэньне паказьнікаў беларускага тавараабароту з Усходам спрычыненае шэрагам чыньнікаў. Па-першае, зьмяншэньнем экспарту калійных угнаеньняў у Кітай, Віетнам, Японію і ПАР. Па-другое, зьніжэньнем попыту на аўтадарожную тэхніку і прадукцыю буйнога машынабудаваньня ў Віетнаме. Па-трэцяе, ростам канкурэнцыі з боку мясцовых вытворцаў, буйных заходніх кампаніяў і транснацыянальных карпарацыяў.

Зь іншага боку, значна ажывіўся наш экспарт у ААЭ, Індыю, Ірак, Эгіпэт і Іран, пашырыўся гандаль з Ізраілем і ПАР. Беларусы арганізоўваюць супольную вытворчасьць колавых цягачоў у Кітаі, ствараюць зборачныя лініі па вытворчасьці матацыклаў у Віетнаме (хутка, відаць, і ў Віетнаме, як цяпер у Паўночнай Карэі, слова "Мінск" будзе сынонімам слова "матацыкл"), будуюць супольныя прадпрыемствы па вытворчасьці "МАЗаў" і "МТЗ" у Эгіпце. У краіны Азіі і Афрыкі мы можам прадаваць грузавікі, абсталяваньне для нафтаздабыўной і перапрацоўчай прамысловасьці, трактары, іншую сельскагаспадарчую тэхніку, высокадакладныя прыборы, радыётэхніку й электроніку, оптыку, лядоўні, будматэрыялы і прадукты дрэваапрацоўкі.

У МЗС аптымістычна ацэньваюць пэрспэктывы беларускіх стасункаў з Усходам ды абяцаюць разьвіваць супрацоўніцтва з краінамі Азіі і Афрыкі — як праз кантакты з пэўнымі краінамі, так і ў рамках міжнародных арганізацыяў. Дасягненьні ўжо ёсьць — у 2001 г. Беларусь атрымала статус назіральніка ў Лізе арабскіх дзяржаў.

У афраазіяцкім рэгіёне 91 дзяржава. Беларусь мае зараз дыпляматычныя стасункі з 59-цю. Каб гандаль ішоў байчэй, трэба мець больш прадстаўніцтваў у розных краінах, лічаць у беларускім МЗС. Летась нашая краіна ўсталявала дыпляматычныя стасункі з Маляві, Бэнінам, Чадам, Наўру, Сан-Тамэ і Прынсыпі ды Сэйшэльскімі астравамі. Сёлета беларускі МЗС плянуе наладзіць дыпляматычныя стасункі з Тога, Лібэрыяй, Сэнэгалам, Самалі, Руандай, Гамбіяй, Маўрытаніяй, Сіера-Леонэ і Рэспублікай Конга. У рэгіёне 13 беларускіх пасольстваў: у Кітаі, Віетнаме, Эгіпце, Ізраілі, Індыі, Іраку, Іране, Паўднёвай Карэі, Лібіі, ААЭ, Сырыі, ПАР, Японіі. У Менску ёсьць пасольствы КНР, Індыі, Іраку, Ірану, Японіі, гандлёвае прадстаўніцтва КНДР.

Нашае МЗС шукае партнэраў і ў Лацінскай Амэрыцы. Аб'ём нашага таваразвароту зь ёй за 10 месяцаў мінулага году склаў 245 млн. даляраў. Усьлед за пасольствамі ў Аргентыне і на Кубе месяц таму адчынілася Генэральнае консульства Беларусі ў Рыё-дэ-Жанэйра. Аб'ём гандлю паміж Беларусяй і Бразыліяй за 10 месяцаў 2001 г. перавысіў 130 мільёнаў даляраў (53% ад агульнага таваразвароту з Лацінскай Амэрыкай). У параўнаньні зь мінулым годам ён павялічыўся на 32%, прычым вырас як экспарт, так і імпарт.

**Язапат Змысла**

будучыня беларускай апазыцыі

# За нашу і вашу чарку і скварку!

**Калі я надоечы патэлефанаваў знаёмаму і, між іншым, даведаўся, што ён зьбіраецца на чарговы сэмінар па выбарах, я толькі з павагі да кадэбістаў, якія маўкліва прысутнічалі пры размове, стрымаўся, каб не мацюкнуцца. Я сказаў яму, што сёньня мара пра выбары ў Беларусі — гэта мара акварыюмнай рыбкі пра свабоду, якую яна бачыць праз шкло. Калі не лічыць прэзыдэнцкіх выбараў 1994 г., *беларусы цэлае XX ст. ніводнага разу ня бачылі нармалёвых выбараў*. Ці ж гэта не трагедыя народу?! Ці ж выпадкова слова "выбары" стала выцясьняцца словам "галасаваньне" — зьнікала само разуменьне выбараў як "выбару".**

Ні пра якія "чэсныя" выбары нам, беларускім нацыяналістам, марыць не даводзіцца. Рэжым нас не дапусьціць на гарматны стрэл ня тое што да дэпутацтва, нават да просьценькіх выбарчых камісіяў. Ужо ў 1995 г. апазыцыянэраў вышчыпалі як дзеўка бровы - каму не хапіла да перамогі 10 галасоў, каму 15. Пра якія "выбары" можна казаць, калі мясцовая ўлада сваёю пасадаю - чытай сваім кашальком - адказвае за тое, каб ніводзін чужы не прайшоў.

Сёньня кожны начальнік, юрыдычна ня маючы прыватнай уласнасьці, мае ў няпоснае кармленьне хто завод, хто кантору, хто пасаду. Ім перадзел улады абсалютна не патрэбны. Яны згадзіліся б на тое, што завецца "дэмакратычная гульня", але як прайграюць, з чаго карміцца? Таму найлепшы варыянт - акапацца жалезабэтонным бункерам і нікога не падпускаць. Рэжыму гэта гарантуе пажыцьцёвае існаваньне праз салідарызацыю клану агульнай кармавой базай. Як толькі хтосьці зь іхняга клану нашкодзіць, адразу дэманстрацыйна адхіляецца часова ці назусім ад магчымасьці дарма эксплюатаваць народ - хто ад заводу, хто ад чыгункі, хто ад пасады. Ня думаю, што кожны, хто сёньня слугуе рэжыму з-за магчымасьці карміцца з агульных ночваў, і слугуе, і корміцца з задавальненьнем. Але што і як тамака? Бункер...

Бачачы маразм нашага існаваньня, апазыцыянэры як сьлед ня выведалі, як і што, хутчэй памчалі насустрач сьветлай будучыні, думаючы, што і народ папрэцца за імі. Дый атрымалі адзіноту бегуна-маратонца і ў лыч. Нам найперш трэба дасьледаваць Беларусь, тады і можна нешта плянаваць. Апазыцыя робіць усё хаатычна, хапаецца. Прыкладна гэтак я сказаў майму знаёмаму. Ён параіў мне пачытаць арыкул Алеся Чобата ў "НН".

Я прачытаў. Карысны артыкул. Дзякуй хоць палякам, што яны нас вывучаюць. Хоць найлепей, каб гэтым займаліся мы самі. На маё вялікае перакананьне, беларускую фармальную апазыцыю трэба паважаць і падказваць ёй, а не рабіць зь яе хлопчыка для біцьця. У нас на ўсіх адзін лупцоўшчык - Лукаш.

Беларускую фармальную апазыцыю вінавацяць у слабасьці і неэфэктыўнасьці. Згодны. Але, спадарове, пакажыце мне "правільную" апазыцыю на абшарах былой імпэрыі ліха. (Пакінем убаку балтыйскія краіны, гэта асобнае пытаньне.) Усюды пры ўладзе кадэбісцка-дыктатарскія рэжымы. Дзе больш жорсткія, дзе менш.

Дый скуль было ўзяцца "правільнай" апазыцыі, правільным палітычным лідэрам, калі ў нас наагул не было аніякага палітычнага жыцьця? Я сам, прадукт каляніяльнай савецкай школы, спазнаў гісторыю Бацькаўшчыны толькі ў сорак гадоў і быў шакаваны яе багацьцем і трагізмам. У 70-я мяне цягалі на гутаркі ў КГБ толькі за тое, што я быў сынам баптыстаў і настаўнікам замежнай мовы. Проста так, як яны казалі, для прафіляктыкі. На мяне трацілісе грошы і высілкі сэксотаў - яны самі мне прызнаваліся. І на каго? На простага бяскрыўднага настаўніка. Што казаць пра магчымасьці нейкай аганізаванай апазыцыі! Зараз мы амаль у тым самым стане. Існаваньне апазыцыі сёньня - гэта несумненнае дасягненьне нашай нацыі, як бы мы ні характарызавалі яе. З царства рабства адразу скочыць у царства свабоды не ўдалося нікому. Я разумею адчай добрага нацыяналіста, які бачыць, як электрычка часу сыходзіць, а мы так і засталіся з клункамі праблемаў на пэроне.

Дык што ж рабіць? У якім месцы рваць заганнае кола? На маю думку, трэба грунутоўна *cognoscere se ipsum*, знайсьці моцныя бакі ў сябе і слабыя ў рэжыму і працягваць бурыць. А тое, што час і абставіны на нашым баку, не падлягае сумненьню. Трэба апазыцыйна размнажацца.

Трэба дасьледаваць рэжым, ягоны апарат, дасьледаваць розныя пласты грамадзтва (уяўляеце кнігу кшталту "Жыцьцё на мінным полі. Таямніцы шклоўска-менскага двара"!), трэба, урэшце, мець нейкі фармальны плян дзеяньняў на паўгоду, на год.

Расказваў мне прыяцель, які служыў у войску ў Горадні, хлопцы-летувісы, пазнаўшы ў ім свайго, антыкамуніста, запрашалі да сябе: "Прыяжджай, Саша, мы камуністам кожны тыдзень гадасьці робім". Прыйшоў час - і гэты штодзённы трэнінг прывёў летувісаў да волі. Нам ёсьць дзе трэніравацца, халера на яго!

Не адмаўляючыся ад выбарчай барацьбы, трэба актыўней падымаць ральлю на новых лядах. Улетку на канікулах не павінна быць безнаглядных падлеткаў у гаражох. Падрастаючаму пакаленьню - асаблівую партыйную ўвагу. І тады мы скуем чалавека новага тыпу, *Himmeldonnerwetter*!

Я пагаджуся са сп.Чобатам: "Скажы мне, якая ў цябе апазыцыя, і я скажу, які ты".

Калі ёсьць грошы, дык мо ня варта цалкам марнаваць іх на перадвыбарную макулятуру дзеля віртуальных выбараў? Лепей пусьціць іх на стварэньне й падтрымку якаснай прэсы, пераклад і друк разумных кніжак, складаньне і выданьне слоўнікаў - нічога ж няма! - напісаньне і выданьне праўдзівай гісторыі Бацькаўшчыны, друкаваньне вынікаў сацыяльных дасьледаваньняў, стварэньне беларускіх фільмаў, набыцьцё бяскрыўдных балёнчыкаў з фарбаю. Усё для маладога пакаленьня! Чым бы дзіця ні цешылася, абы для дэмакратыі. Вось тады і будзе ў нас файная апазыцыя.

**Niccolo Insegnante-Contadino**

навіны за тыдзень

## Машкевіч прыняў жонак зьніклых

**Учора пасол Польшчы ў Беларусі Марыюш Машкевіч прыняў жонак зьніклых беларускіх палітыкаў.** Яны перадалі ліст да Аляксандра Квасьнеўскага, у якім просяць польскага прэзыдэнта ўзьняць на сустрэчы з Пуціным пытаньне пра зьнікненьне ў Беларусі вядомых людзей.

**Паводле "Ю.С.ньюс"**

## Менскага карэспандэнта НТВ могуць пазбавіць акрэдытацыі

**Беларусь перадала ноту пратэсту расейскаму МЗС у сувязі з асьвятленьнем на НТВ арышту Міхаіла Лявонава.** Карэспандэнт Павал Селін быў выкліканы ў МЗС, дзе яму былі выказаныя прэтэнзіі. Супрацоўнік прэсавай службы запатрабаваў ад карэспандэнта прабачэньняў "за зьнявагу народу Беларусі і ейнага прэзыдэнта". Селін параўнаў арышты бізнэсоўцаў у Беларусі з фабуляй дэтэктыву Агаты Крысьці "Дзесяць негрыцянятаў". Маўляў, усе 15 дэклараваных прэзыдэнтам арыштаў ідуць па сьпісе.

## Хвастоў ляціць да Кадафі

**Дэлегацыя МЗС на чале зь міністрам Міхаілам Хвастовым 15—19 студзеня наведае Лібію,** дзе адбудзецца першае пасяджэньне беларуска-лібійскай камісіі па эканамічным, гандлёвым і навукова-тэхнічным супрацоўніцтве.

## Уніяцкі сьвятар наведаў дысыдэнтаў

**Пазаўчора Генадзя Самойленку і Ўладзімера Малея, што адбываюць 15 сутак арышту ў ізалятары Ленінскага РУУС Берасьця за ўдзел у "ланцугу неабыякавых людзей",** наведаў грэка-каталіцкі сьвятар — перадаў ім духоўную і сьвецкую літаратуру, а таксама калядны пірог. У камэры ён разам са зьняволенымі памаліўся.

## Філарэт піша па-беларуску

**Мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт папрасіў, каб ягоныя пасланьні нават у расейскамоўных газэтах друкаваліся выключна па-беларуску.** Вось "Народная воля" надрукавала "Каляднае пасланьне", а *Советская Белоруссия* "Раждзжэственское пасланьне". А нібыта дзьвюхмоўная "Рэспубліка" не паслухалася Філарэта і зграшыла — надрукавала ягонае віншаваньне па-расейску.

**Э.Л.**

пацярпелыя за Беларусь

Завочна аштрафаваныя на 50 мінімальных заробкаў (за хуліганства) чатыры ўдзельнікі Маршу Свабоды 17 кастрычніка 1999 году – Герман Сушкевіч, Глеб Догіль, Андрэй Валабуеў, Антон Лазараў, якія зараз знаходзяцца ў Польшчы, дзе атрымалі статус палітычных уцекачоў. У Берасьці пазбаўлены пасады кіраўнік дзяржаўнай насеннай інспэкцыі ў Берасьцейскім раёне Георгі Руцкі, які зьяўляецца старшынём гарадзкой арганізацыі БСДП "Народная Грамада". Гомельскі суд вырашыў сканфіскаваць на карысьць дзяржавы кампутарную тэхніку незалежнай арганізацыі "Гарт", на якую не было належных дакумэнтаў. Кіраўнік арганізацыі Сяргей Адзінец аштрафаваны на мільён рублёў. Яны зьбіраюцца падаваць апэляцыю ў суд. За ўдзел у акцыі "ланцуг неабыякавых людзей", што прайшла 9 сьнежня ў Берасьці, Сяргей Алексяевіч, Раіса Антанюк, Васіль Барболін, Мікалай Казімірчык, Сяргей Казлоў, Альжбэта Карпюк, Марыя Клімовіч, Міхаіл Мікалаюк, Паліна Панасюк пакараныя штрафам 20 мінімальных заробкаў. Уладзімер Малей і Генадзь Самойленка атрымалі 15 сутак адміністрацыйнага арышту. Магілёўскі суд пастанавіў сканфіскаваць на карысьць дзяржавы аргтэхніку абласной філіі Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Кіраўнік Магілёўскай абласной арганізацыі АГП Віктар Шанцаў аштрафаваны на 100 мінімалак.

# Беларусь у люстэрку самагубстваў

Статыстыка самагубстваў у Беларусі паказвае, што найбольш іх было ў 1987—88 г., а пасьля — у сярэдзіне 90-х. Цяпер захоўваецца стабільна высокі паказьнік — 35 выпадкаў на 100 тыс. чалавек. За 1987—96 г. колькасьць суіцыдаў вырасла амаль у два разы, што можна патлумачыць станам грамадзтва: з аднаго боку вялікія надзеі, энтузіязм і нават эўфарыя канца 80-х, а з другога — расчараваньне і дэпрэсія сярэдзіны 90-х, вяршыняй якой быў другі рэфэрэндум. Калі ўлічыць, што эканамічны спад пасьля 96-га быў пераадолены, пік той тлумачыцца, бадай, толькі палітычнымі падзеямі. Сьведчыць пра гэта і найбольшы ўзровень суіцыдаў у той год сярод мужчын, бо менавіта яны, а не жанчыны, мацней заангажаваныя ў палітыку. Увогуле, беларускія мужчыны робяць сабе сьмерць у 6 разоў часьцей за жанчынаў, на што ёсьць розныя прычыны. Па-першае, мужчыны менш інтэграваныя ў грамадзтва, менш абцяжараныя дзецьмі, бацькамі ды іншымі сваяцкімі абавязкамі, лягчэй зьмяняюць працу й месца жыхарства, хутчэй могуць згубіць сацыяльны статус. Па-другое, яны часьцей злоўжываюць алькаголем, а гэта вельмі істотны фактар суіцыдальнай актыўнасьці. Па-трэцяе, мужчыны — больш рухомая і агрэсіўная частка грамадзтва, а паколькі сярод беларусаў распаўсюджаны інтравэртыўны тып, то часта гэтая агрэсія скіроўваецца ня вонкі, а на сябе. Залежыць узровень самагубстваў і ад веку: сярод мужчынаў найбольш самагубцаў у веку 50—59 гадоў, сярод жанчынаў — у асяродзьдзі тых, каму за 70. Апошняе сьведчыць пра большы

Мал. 1. Дынаміка суіцыдаў у Беларусі.




прагматызм нашых жанчынаў, для якіх суіцыд часта замяняе сабой эўтаназію — выратаваньне ад такой невылечнай "хваробы", як самотная старасьць.

Рознымі спосабамі сыходзяць з жыцьця: моцны пол часьцей вешаецца, страляецца, рэжацца, слабы — аддае перавагу атручваньню і падзеньню з вышыні. Вядома, вялікая частка самагубстваў зьдзяйсьняецца псыхічна хворымі, аднак спэцыялісты лічаць, што ў Беларусі прыкметнага росту псыхічных захворваньняў у 90-х не адбылося. Назіраўся толькі пад'ём наркаманіі і алькагалізацыі, што ў значнай меры і паўплывала на суіцыдальную актыўнасьць.

Яшчэ ў мінулым стагодзьдзі было даказана, што эканамічная і псыхапаталягічная дэпрэсіі (а разам з тым і рост суіцыдаў) у любым грамадзтве ўзаемазьвязаныя. Выклікаюць суіцыды і такія зьявы, як пачуцьцё безнадзейнасьці, бездапаможнасьці і няшчасьця, імпульсіўнасьць, накапленьне агрэсіі і зварот яе супраць сябе (па схеме "пачуцьцё віны — самапакараньне"), зьбядненьне міжасабовых адносінаў і сьвету каштоўнасьцяў, а таксама ранняя страта бацькоў, выхаваньне ва ўмовах маральнага гнёту, фізычнага і сэксуальнага гвалту. Сёньня ў Беларусі ўсё гэта мае тэндэнцыю да пашырэньня, што таксама не дазваляе будаваць задужа аптымістычных прагнозаў.

Самагубствы — бяда ня толькі беларуская. Па іх колькасьці сярод краінаў былога СССР мы стаім (зьвесткі 1998 г.) на пятым месцы пасьля Расеі і краінаў Балтыі.

На пытаньне "Як мы жывем?" тыя тры з паловай тысячы чалавек, што добраахвотна сышлі з жыцьця за мінулы год, ужо адказалі. Але ў 10 разоў больш людзей, якія спрабавалі зрабіць гэты фатальны крок (на шчасьце, пакуль няўдала), могуць яшчэ нешта зьмяніць і паправіць у сваім жыцьці. Нехта з іх, напэўна, ёсьць і побач з вамі. Будзьце ўважлівыя, цярплівыя і добразычлівыя, ня дайце парвацца той апошняй нітачцы, што трымае іх у гэтым сьвеце і, магчыма, знаходзіцца ў вашых руках.

**Васіль Аўраменка, Магілёў**




## Дзевяцёх зь дзесяці ратуюць

**Беларусь разам з Вугоршчынай, Прыбалтыкай, Скандынавіяй ды Расеяй уваходзіць у групу краінаў са звышвысокай колькасьцю суіцыдаў. Штогод у нас спрабуюць самахоць пайсьці з жыцьця каля 30 тыс. чалавек. Атрымліваецца не ва ўсіх — на адзін завершаны суіцыд прыпадае 8—9 незавершаных. Мэдыкі называюць няўдалыя спробы загубіць сябе парасуіцыдамі. Кожны сёмы выратаваны самагубца зноўку паўтарае тое самае. Як сьведчыць статыстыка, штогод у нас зьдзяйсьняецца прыкладна на 200 спробаў самагубства болей. У беларускай структуры сьмяротнасьці гібель ад самазабойстваў знаходзіцца ўжо на трэцім месцы, пасьля сардэчна-сасудзістых і ракавых захворваньняў. Кожны трэці з тых, хто ляжыць у беларускіх больніцах пасьля сур'ёзных атручэньняў — няўдалы самагубца. Нават калі ахвотных у гэткі спосаб разьвітацца з жыцьцём адкачваюць, шмат хто зь іх застаецца інвалідам — зь язвай страўніка ці цырозам пячонкі. Найбольш схільныя да парасуіцыдаў людзі да 30 гадоў. Часта гэта дэманстрацыйнае эпатажнае самазабойства — у адказ на адмову бацькоў купіць матацыкл ці магнітафон або з-за нешчасьлівага каханьня. Паводле статыстыкі, жанчыны чыняць парасуіцыды ўдвая часьцей, чым мужчыны. Больш за ўсё парасуіцыднікаў сярод рабочых, навучэнцаў ПТВ і тэхнікумаў, а таксама сярод беспрацоўных, найменш — сярод асобаў з вышэйшай адукацыяй і інвалідаў.**

**Ігнат Чакацкі**

# Гісторыя самагубстваў

*Чарвякоў, Жылуновіч, Адамовіч, Галадзед, Ігнатоўскі — усе бацькі БССР скончылі жыцьцё самагубствам*

**У Беларусі XVII—XIX ст. людзі баяліся суіцыду, баяліся граху, баяліся быць пахаваным за могілкамі, не як усе. Трэ было мець грамадзянскі запал Ігната Грыневіцкага, які ведаў, на што ішоў, кідаючы бомбу ў цара Аляксандра ў адплату за Кастуся Каліноўскага.**

20 красавіка 1910 г. зрабіў сабе сьмерць беларускі публіцыст, крытык, "нашанівец" Сяргей Палуян. Яму не было і 20-ці.

У пачатку 20-х добраахвотна разьвітаўся з жыцьцём адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстаньня Юльлян Сасноўскі. Змучыла яго нішчымнае жыцьцё ў Заходняй Беларусі.

Забівалі сябе нават сьвятары. У 1928 г. за прапаганду беларускай мовы ў касьцёле пазбавілі парафіі кс.Францішка Рамейку, які служыў у Шарашове (Дзісеншчына). Тры гады ксёндз безвынікова спрабаваў аднавіцца, аднак кіраўніцтва Віленскай дыяцэзіі было непахіснае. 16 чэрвеня 1931 г. Рамейка прыехаў у Вільню, у госьці да а.Адама Станкевіча. Таго не было ў хаце, і гаспадыня прапанавала пачакаць яго ў кабінэце. Рамейка знайшоў там рэвальвэр і застрэліўся. Пахавалі 46-гадовага ксяндза на віленскіх Бэрнардынскіх могілках.

У савецкай Беларусі самагубстваў было больш, бо ў Бога тут ня верылі. 7 траўня 1925 г. у менскай турме зрабіў сабе сьмерць тэрарыст-эсэр Барыс Савінкаў.

У 1929 г. спрабаваў скончыць жыцьцё самагубствам Янка Купала, якому "шылі" кіраўніцтва "Саюзам вызваленьня Беларусі". Паэта адратавалі. Усевалад Ігнатоўскі тады казаў Купалу: "Табе Янка, трэба жыць, ты ў нас адзін". Сам Ігнатоўскі застрэліўся 4 лютага 1931 г. у сябе ў хаце пасьля чарговага допыту ў НКВД. Сьледам за ім зрабілі сабе сьмерць амаль усе бацькі БССР. 11 красавіка 1937 г. у Магілёўскай псыхіятрычнай лякарні скончыў жыцьцё самагубствам рэпрэсаваны Цішка Гартны (Зьміцер Жылуновіч). 16 чэрвеня 1937 г. падчас 16-га зьезду КП(б)Б першы сакратар Васіль Шарангович абвінавачваў старшыню ЦВК БССР Алеся Чарвякова ў шкодніцтве. Чарвякоў пайшоў у свой кабінэт, сеў за рабочы стол і застрэліўся. У цягніку Ўладзівасток—Масква 22 красавіка 1937 г. застрэліўся былы старшыня СНК БССР Язэп Адамовіч, дырэктар цукразаводу на Камчатцы. Адамовіча нечакана выклікалі ў Маскву. Ён цудоўна разумеў, што выклік азначае расстрэл.

Ня вытрымаўшы допытаў, 21 чэрвеня 1937 г. выкінуўся з акна 5-га паверху будынку НКВД Мікалай Галадзед, старшыня СНК БССР у 1927—1937 г.

У 1946 г. у менскай турме скончыў жыцьцё самагубствам доктар філязофіі Францішак Грышкевіч, апошні дырэктар Віленскай беларускай гімназіі.

У жніўні 1955 г. на хутары пад Паставамі застрэліўся апошні беларускі партызан Аўген Жыхар, каб ня здацца чэкістам.

У 1981 г. студэнты-філёзафы БДУ зьбіралі подпісы за акадэмічныя свабоды на ўнівэрсытэце. Пад лістом падпісаліся каля 50 чалавек. Кіраўніцтва факультэту расцаніла гэта як нефармальны бунт. Арганізатараў акцыі выключылі з унівэрсытэту. Студэнт А.Малашчук пасьля няўдалых спробаў узнавіцца скончыў жыцьцё самагубствам, выкінуўшыся з вакна 6-га паверху галоўнага корпусу БДУ. На акт суіцыду ён паклікаў знаёмых і сяброў.

28 жніўня 1961 г. у францускім горадзе Кане выкінуўся з вакна 5 паверху пісьменьнік і рэдактар часопісу "Бярозка" Ўсевалад Краўчанка, які быў у Францыі ў складзе дэлегацыі беларускіх пісьменьнікаў. Прычыны ягонага самагубства невядомыя.

24 студзеня 1952 г. у Мэльбурне (Аўстралія) пайшоў з жыцьця Сьцяпан Шнэк (псэўд. Янка Нясьцерпны), палкоўнік БКА. Перад гэтым ён зьбіў жонку, якая ў цяжкім стане трапіла ў шпіталь. Ад сораму, відаць, Сьцяпан Шнэк павесіўся.

Шмат якія сьмерці ахутаныя таямніцай. Ці па сваёй волі зваліўся ў лесьвічны пралёт Янка Купала? Самахоць ці выпадкова забіўся паэт Рыгор Семашкевіч, якога знайшлі ўранку пад уласным бальконам (1982)? Ці была самагубствам сьмерць паэткі Яўгеніі Янішчыц (1988)? А літаратуразнаўцу Міколу Прашковіча (1982), мастака Лявона Баразну (1972) зьнішчыла КДБ ці няшчасныя выпадкі? На гэтыя пытаньні цяжка адказаць адназначна. Адказы некалі знойдуцца ў архівах сакрэтных службаў.

**Э.Л.**

## навіны за тыдзень

### "Літвінам" не далі прытулку ў Польшчы

**Віктар Нагнібяда і Андрэй Юцкевіч не атрымалі ад уладаў Польшчы статусу палітычных уцекачоў.** Яны лічаць прычынай гэтага сваю актыўную палітычную дзейнасьць у Польшчы, накіраваную на абарону правоў беларускіх палітэмігрантаў. Віктар Нагнібяда — заснавальнік Зьвязу беларускіх палітычных уцекачоў. Прадстаўнікі Польскага Хельсынскага фонду правоў чалавека абвяргаюць абвінавачаньні ў неаб'ектыўнасьці польскіх уладаў. Паводле інфармацыі "НН", Нагнібяду і Юшкевіча падазраюць у сувязях зь беларускімі і расейскімі спэцслужбамі.

Тым часам былы намесьнік дырэктара МАЗу Аляксандар Якаўлеў, які выехаў у Польшчу ў лістападзе 2000-га, папрасіў там палітычнага прытулку. Зрабіць гэта Якаўлева змусіў зварот беларускай пракуратуры, якая патрабуе ад польскіх уладаў выдаць яго.

### Меншасьцям – менш

**Польшча пляную скараціць выдаткі на падтрымку нацыянальных меншасьцяў з 6 да 1,7 млн. даляраў.** Прадстаўнікі мясцовых арганізацыяў беларусаў, украінцаў, немцаў, славакаў і літоўцаў падпісалі адмысловы зварот, у якім пратэстуюць супраць зьмяншэньня фінансаваньня. Рашэньне мае быць канчаткова прынятае за месяц.

### Рэвізія ў "Сібуры"

**Генэральная пракуратура Расеі правяла 8 студзеня рэвізію ў офісах нафтагазавай кампаніі "Сібур".** Паводле неафіцыйнай інфармацыі, рэвізія была ініцыяваная канцэрнам "Газпром". Фармальна "Сібур" — даччыная кампанія "Газпрому" і адна зь "сямейных" фірмаў, заснаваных сваякамі былых мэнэджэраў канцэрну з каманды Рэма Вяхірава. Сярод арыштаваных падчас рэвізіі — адзін з кіраўнікоў "Газпрому" В.Шарамет.

### Прэм'ер Эстоніі падаў у адстаўку

**Прэм'ер-міністар Эстоніі Март Лаар 8 студзеня падаў у адстаўку разам з усім урадам.** Прычынай гэтага стаў распад урадавай кааліцыі: Партыя рэформаў, якая туды ўваходзіла, перайшла на бок апазыцыйнай Партыі цэнтру. Прэзыдэнт Арнольд Руйтэль, які мае 14 дзён на прызначэньне новага прэм'ера, папрасіў урад Лаара часова выконваць ранейшыя абавязкі.

### Расейцы застаюцца на Кубе

**Насуперак ранейшым паведамленьням, Расея не пачне 15 студзеня вывозіць абсталяваньне са сваёй былой радыёлякацыйнай станцыі на Кубе.** Апэрацыя адкладзеная на няпэўны час праз нястачу сродкаў.

### Малдаване супраць дзьвюхмоўя

**У сераду ў Кішынэве адбылася акцыя пратэсту супраць наданьня расейскай мове статусу дзяржаўнай.** Каля 2 тыс. малдаўскіх настаўнікаў і вучняў. скандавалі лёзунгі "Не — расейскай мове!", "Не — русіфікацыі!", "Мы арыентуемся на Эўропу". Тым часам у школах Малдовы з новага году ўведзенае абавязковае вывучэньне расейскай мовы.

### Доля аксумскага абэліску

**Этыёпія зьвярнулася да Італіі з патрабаваньнем вярнуць знакаміты Аксумскі абэліск, вывезены з краіны ў 30-я XX ст., у часе італійскае агрэсіі.** Яму каля 3 тыс. год, ён быў знойдзены ў горадзе Аксум на поўначы Этыёпіі. Абэліск уваходзіць у сьпіс культурных помнікаў ЮНЭСКА.

### "Руды" чысьціць сьнег

**Польская армія зьбіраецца прадаць камунальным службам кра-**

ны танкі савецкай вытворчасьці Т-55, якія будуць карысныя пры расчыстцы сьнежных заносаў, барацьбе з паводкамі й пажарамі. Кожны танк абыйдзецца камунальшчыкам у 8 тыс. даляраў.

## Не жаночая справа

**У Вялікай Брытаніі жанчынам па-ранейшаму не дазваляюць служыць на падводных лодках.** Абгрунтоўваюць гэта клопатам пра здароўе нашчадкаў, бо ўмовы жыцьця на субмарынах могуць шкодзіць разьвіцьцю плоду. А сродкаў выяўленьня цяжарнасьці на самых раньніх стадыях пакуль не існуе.

## Павялічаныя квоты на адстрэл кенгуру

**Урад Аўстраліі павялічыў нарматывы адстрэлу кенгуру на паўтара мільёна асобін.** Прычына — празьмернае павелічэньне іхнае папуляцыі. Тым ня менш, многія аўстралійцы лічаць гэта неапраўдана жорсткай мерай.

## Замест "Інтурысту" пабудуюць "Хілтан"

**У хуткім часе закрыецца маскоўскі "Інтурыст".** 22-павярховы будынак гатэлю будзе разабраны, а на тым месцы пабудуюць новую гасьцініцу "Хілтан", якая будзе адпавядаць амэрыканскім стандартам. Цяперашні "Інтурыст" дысгармануе з навакольнай забудовай. Новы будзе месьць усяго 12 паверхаў, аднак карысная плошча будынку павялічыцца. Каштуе праект за 130 млн. даляраў.

## Палова прыбалтаў — за Эўразьвяз

**Паводле віленскага тыднёвіка "Вяйдас", за ўваходжаньне ў Эўразьвяз сёньня гатовыя прагаласаваць 53% літоўцаў, 47% латышоў і 38% эстонцаў.** Каб дасягнуць сярэдняга ўзроўню жыцьця краінаў ЭЗ, Літве спатрэбіцца 31 год, Латвіі — 27, Эстоніі — 19. Літва па гэтым паказьніку апынулася паміж Баўгарыяй і Турэччынай.

## На Балканах сьвяткуюць, страляюць, страйкуюць

**На Раство ўпершыню зазванілі 49 званоў на саборы Сьв.Савы, што будуецца ў сэрбскай сталіцы з 1936 г. і павінен стаць самым вялікім праваслаўным храмам у сьвеце.** Будаўніцтва прыпынялася падчас другой сусьветнай вайны і на пачатку 90-х, але да 2004 г. бажніца мае быць завершаная. Урачыстую літургію ў гэтай царкве правіў галава Сэрбскай праваслаўнай царквы патрыярх Павал. Прэзыдэнта Каштуніцы ў царкве не было, толькі прэм'ер Джынджыч. Кажуць, што нават у царкве Каштуніца з Джынджычам ня могуць трываць адзін аднаго.

Не замірыліся на Каляды й чарнагорцы. У Сьвяты вечар паміж прыхільнікамі Сэрбскай і Чарнагорскай праваслаўных цэркваў адбылося колькі боек з выкарыстаньнем агнястрэльнай зброі. Усе іхныя ўдзельнікі засталіся жывыя і здаровыя. У гістарычнай сталіцы Чарнагорыі Цэціне вялікія аддзелы паліцыі ўсю ноч пільнавалі, каб натоўпы прыхільнікаў дзьвюх цэркваў не дацягнуліся адны да адных.

Чарнагорскую праваслаўную царкву, скасаваную ў 1920 г. сэрбскім каралём Аляксандрам, аднавілі на пачатку 90-х. Дагэтуль яе не прызнала ніводная кананічная праваслаўная царква. У мінулым годзе чарнагорскі ўрад урачыста правы абедзьвюх цэркваў. Сэрбская царква ў Чарнагорыі заклікае да захаваньня фэдэрацыі з Сэрбіяй, Чарнагорская — да незалежнасьці.

А колькі сотняў супрацоўнікоў нядаўна ліквідаваных "у рамках рэструктурызацыі фінансавай сфэры" чатырох сэрбскіх банкаў Каляды сьвяткавалі на працоўных месцах. Яны зачыніліся ў банках і запатрабавалі, каб улада скасавала рашэньне аб ліквідацыі.

**Сяргей Рак**

Працяг са старонкі 1.

гэтым разам не было нікога зь Беларусі — толькі расейскія і польскія дасьледчыкі. Даклад аб разьвіцьці беларусістыкі ў Санкт-Пецярбургу зрабіў старшыня БГКТ Валянцін Грыцкевіч. Прафэсар Антон Міраповіч зь Беластоцкага ўнівэрсытэту распавядаў пра стан і статус беларускіх праваслаўных арганізацыяў у Польшчы. Цэлы блёк дакладаў быў прысьвечаны гістарычным беларускім кнігазборам — бібліятэцы бэнэдыктынак у Слоніме ў XVII—XIX ст. (Яланта Гвёзьдзік з Катавіц), бібліятэцы лютэранскіх канонікаў у Вільні ў XVII—XIX ст. (Івона Пятшкевіч з Кракава), бібліятэкам удзельнікаў паўстаньня 1831 г. (Ліля Коўкель з Кракава), кнігазборам Жаготы Анацэвіча і Віктара Каліноўскага (Эдвард Ружыцкі з Катавіц). Статыстыку выданьняў расейскамоўных газэтаў у беларускіх губэрнях у XIX — пачатку XX ст. зрабіла Марыя Лукоўская.

### ПРЭСА

Пецярбурская прэса ў 2001 г. згадвала пра Беларусь прыкладна раз на месяц. Часьцей за іншых рабіў гэта рэгіянальны выпуск газэты *Коммерсантъ*. Пісаў ён пра тое, што *"БАЛТОНЭКСИМ-банк"* зьбіраецца ўкладаць грошы ў "БелАЗ"; пра піцерскую кампанію *"Метроком"*, якая выйграла тэндэр на прадастаўленьне "Белтэлекаму" каналу доступу да Інтэрнэту; пра стварэньне на матэматычным факультэце Санкт-Пецярбурскага ўнівэрсытэту расейска-беларускага адукацыйнага цэнтру; пра губэрнатара Якаўлева, які браў удзел у выбарчай кампаніі Лукашэнкі. Газэта чыноўнікаў і пэнсіянэраў *Санкт-Петербургские ведомости* цешыла сваіх чытачоў нататкамі "Ў супрацоўніцтве — добрыя пэрспэктывы" і інтэрвію са старшынём "Расейска-беларускага брацтва" Варанцовым. Газэта *Смена* на беларускую тэматыку наскочыла двойчы. Першы артыкул зваўся "Пяты "Гепард" рыхтуецца да наскоку на Беларусь" — пра тое, што на Сьвірскай вэрфі будуецца карабель для беларускіх памежных войскаў, другі — "МАЗы" падрыхтаваліся да наскоку" — аб сумеснай вытворчасьці аўтобусаў Кіраўскім заводам і МАЗам. *Невское время* паведаміла, што Мэталічны завод выйграў тэндэр на пастаўку ў Беларусь гідраэнэргетычнага абсталяваньня, а *Вечерний Петербург* радаваўся за Анатоля Ярмоленку, які "пад "фанэру" свой голас не хавае". Абласная газэта *Вести* паведамляла пра візыт губэрнатара вобласьці Валер'я Сердзюкова на радзіму, у Гомельскую вобласьць. Вось, бадай, і ўсё, што пісалі пра Беларусь у Пецярбургу.

> *Пуцін любіць прымаць замежных гасьцей у сваім родным горадзе, і цяпер архітэктары б'юцца за заказ на перабудову аднаго з занядбаных царскіх палацаў (Канстанцінаўскага) пад Марскую рэзыдэнцыю прэзыдэнта.*

### МАСТАЦТВА І КНІЖКІ

У верасьні 2001-га выдавецтва *"Петербургское востоковедение"* выдала кнігу *"Праздничная культура в городах России и Белоруссии XVII в."*. У манаграфіі дасьледуецца ўплыў старабеларускай культуры на мастацкае жыцьцё Маскоўскай дзяржавы XVII ст. Асноўная мэта працы — рэканструкцыя афіцыйнай сьвяточнай культуры ў гарадах Расеі і Вялікага Княства на фоне этнічнай гісторыі расейскага і беларускага народаў. Аўтар — Андрэй Катлярчук — ва ўступе згадаў добрым словам сваіх бабулю і дзеда, што жылі ў Тураве. Сам ён нарадзіўся ў Чачэніі, вучыўся ў Бранску, дысэртацыю абараняў у Пецярбургу, а цяпер жыве ў Стакгольме. Кніга выйшла ў прэстыжнай сэрыі *"Slavica Petropolitana"*.

Гісторык-беларус Анатоль Разумаў сваё пяцідзесяцігодзьдзе адзначыў выданьнем чацьвертага тому кнігі *"Ленинградский мартиролог"*, у якой зьмешчаныя кароткія біяграмы асобаў, расстраляных органамі НКВД па Ленінградзе й Ленінградзкай вобласьці ў сьнежні 1937 г. Сярод іх было 2097 выхадцаў зь беларускіх земляў.


АЛЯКСАНДАР КІТАЕЎ

# ПЕЦЯРБУРГ горад беларусаў

### ДУХОЎНАЕ І ПЛОЦЕВАЕ

У лістападзе 2001 г. у касьцёле Ўсьпеньня Прачыстае Панны Марыі, што на Першай Чырвонаармейскай вуліцы, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч урачыста высьвяціў у прасьвітары беларускага паэта, дыякана Сяргея Сурыновіча з Івенцу. Цырымонія была трошку экзатычная, бо ля алтара стаялі два вазоны зь вялікімі пальмамі, а ў служэньні арцыбіскупу дапапагаў ксёндз-афрыканец. Служыць малады сьвятар будзе ў Пермі. На ўспамін аб урачыстасьці піцерскія беларусы сфатаграфаваліся зь ім і падаравалі яму копію беларускага каталіцкага малітоўніка, выдадзенага ў 1835 г.

### БЕЛАРУСКІЯ КРАМЫ

У абліччы Пецярбургу зьвыклай зьявай сталіся крамы з назвамі "Беларускі абутак", "Беларускія шпалеры", "Беларускія халадзільнікі". Робячы рамонты, гаспадары з ахвотай купляюць замест дарагой італійскай ці гішпанскай кафлі таньнейшую і добрую беларускую. Што праўда, лідзкае піва й менская ды берасьцейская гарэлка амаль зьніклі з продажу. На піцерскі рынак зрэдку прарываюцца беларускія харчы. Спакаваныя і названыя яны часам вельмі экзатычна. Прыкладам, купляе піцерскі абыватаць сыр *"Северный"*, на этыкетцы намаляваныя горы з асьнежанымі вяршынямі. А маленькімі літарамі побач напісана, што сыр зроблены ў Навагрудку Гарадзенскай вобласьці. Загадкавая і таямнічая палітыка назваў у беларускіх вытворцаў. Асабліва "дастае" іхная моўная сарамяжлівасьць — ніводнага табе беларускага слова. Між тым, мова дапамагла б стварыць у расейскіх пакупнікоў устойлівыя назвы-стэрэатыпы. І вышэсьць беларускую прадукцыю зь піцерскага рынку было б ня так лёгка.

### МУЗЫКА

У сьнежні Саюз кампазытараў і дагэтуль невядомы "Санкт-Пецярбурскі саюз беларусаў" арганізавалі канцэрт музыкаўінструмэнталістаў зь сяла Страхава і народных сьпявачак зь вёскі Адвержычы. У асабняку на Малой Марской сабралася багемная публіка. Вясковыя музыкі ніякавата пачуваліся ў залі з паркетам і шыкоўнай мэбляй, побач з малахітавым камінам.

У сьнежні Эгару Мацыеўскаму — кампазытару й этнографу, гісторыку й калекцыянэру музычных інструмэнтаў — споўнілася 60 гадоў. Украінец і патрыёт Украіны, дзеяч польскага культурнага руху, адзін з сузаснавальнікаў Беларускага грамадзка-культурнага таварыства ў Пецярбургу, Эгар Мацыеўскі — сапраўды чалавек з культурнай прасторы даўняй Рэчы Паспалітай. Сваёй працай і творчасьцю ён сьведчыць, што прастора гэтая існуе і што Пецярбург ёсьць ейнай часткай. Значнай падзеяй стаўся цыкль яго ных песьняў на вершы Максіма Багдановіча. Бібліяграфія надрукаваных вучоным працаў мае 122 пазыцыі, пад ягоным кіраўніцтвам абаронена 20 дысэртацыяў. У гонар Эгара Мацыеўскага 17—19 сьнежня прайшла міжнародная навуковая канфэрэнцыя. Увесь першы дзень занялі віншаваньні: казахі падаравалі вышыты золатам чапак, марыйцы — дудку, асацыяцыя званарскага мастацтва — званочак мінулага стагодзьдзя. Ад беларусаў Мацыеўскага віншавалі Валянцін Грыцкевіч і Мікола Нікалаеў. Пасьля канфэрэнцыі адбыўся канцэрт: творы Эгара Мацыеўскага выконвалі тры харавыя калектывы й артысты пецярбурскіх тэатраў "Паўлінава пяро" і Марыінскага. Беларускія творы выконваў барытон Лявон Габрусёнак — сола і дуэтам з Марынай Фурман.

Маладая кампазытарка, студэнтка Санкт-Пецярбурскай кансэрваторыі Ірына Базылёва ў 2001 г. запісала 9 песень для альбому "Пецярбурскі сшытак". Частка тэкстаў там на царкоўнаславянскай мове — гэта такі сабе ілюстрацыйны матэрыял да ейнай працы па расшыфроўцы рукапісных беларускіх сьпеўных кніг Эрмалоаў. Стылёва сюды ж трапляе й "Ойча наш" ужо па-беларуску (пераклад з царкоўнаславянскай Рыгора Барадуліна). Астатнія песьні напісаныя на словы беларускіх паэтаў: "Да Нёмна" й "Дзень добры" Адама Міцкевіча, "Перапісчык" ды "Псалтыр" Максіма Багдановіча, "Асьнежаная Літва" Алега Лойкі, *"Bardzo proszę"* Віктара Шведа. Песьні выконваюцца ў суправаджэньні гітары й скрыпкі. Сёлета альбом "Пецярбурскі сшытак" змогуць пачуць мэляманы й аматары старажытнай музычнай культуры.

### СЬВЕЦКАЯ ХРОНІКА

У сьнежні 2001-га ва Ўнівэрсытэце культуры атрымала дыплём музэязнаўца Маргарыта Пярова — пляменьніца Лявона Луцкевіча і цётка Данчыка. Гэта яе другая вышэйшая адукацыя. Дачка Максіма Гарэцкага Галіна Максімаўна (мае 80 год) перадала ў Беларусь частку бацькавай спадчыны: сотні фатаздымкаў, лістоў, аўтографаў. Галіна Максімаўна жыве адна, у аднапакаёвай кватэры на праспэкце Бальшавікоў — тых бальшавікоў, якія рэпрэсавалі ейнага бацьку, а яе яшчэ дзяўчынкай выслалі разам з маці ў Вятку.

Старшыня Беларускага грамадзка-культурнага таварыства Валянцін Грыцкевіч у 2001 г. браў удзел у працы Зьезду беларусаў сьвету і зьезду Таварыства беларускай мовы. Рэктара фінансаваэканамічнага інстытуту Лявона Тарасевіча (родам зь Беласточчыны) пераабралі сёлета на новы 5-гадовы тэрмін; доктар мэдычных навук Мікалай Гурын (родам з Наваградку) выдаў кнігу пра тэхніку апэрацыяў па выдаленьні апэндыксу; прафэсара, палкоўніка мэдыцыны Міхася Ханевіча (родам зь Любчы) перавялі з Санкт-Пецярбургу ў Маскву на генэральскую пасаду начальніка катэдры ваенна-палявой і ваенна-марской хірургіі Інстытуту ўдасканаленьня пры Галоўным ваенна-мэдычным упраўленьні Расейскіх узброеных сілаў. У ліпені на 3-м Зьезьдзе беларусаў сьвету адбылася прэзэнтацыя кніг піцерскага пісьменьніка Анатоля Кірвеля "Мармуровы воўк", "Адзінка вымярэньня" і "Вакансія". А ў 10-м нумары "Полымя" была ўжо на іх рэцэнзія Ніны Мацяш — апэратыўная рэакцыя, як на такія маленькія наклады.

Панарама жыцьця 95-тысячнага беларускага гораду (менавіта столькі беларусаў зараз жыве ў Пецярбургу) за цэлы год — справа для нас новая. Спадзяемся, што на 2002-і мы зможам зрабіць яе больш поўнай і разнастайнай.

> *У абліччы Пецярбургу зьвыклай зьявай сталіся крамы "Беларускі абутак", "Беларускія шпалеры", "Беларускія халадзільнікі".*

**Барон Брамбеус-2**

# Кажух і валёнкі для “бандыта” Луцкевіча, або Наша беларуская міталягема

**Прачытаўшы ў "НН" ад 19 лістапада гісторыю пра "кажух ад Купалы", я пляскаў у ладкі: рэч ясная, што мы маем справу з міталягемаю — нашаю, беларускаю міталягемаю. Праўда, я зьбіраўся пісаць пра сваё маленькае адкрыцьцё ў новым эсэ для часопісу "Arche", але вось 4 студзеня ў "НН" зьявіўся артыкул Ігара Лялькова, і маё перакананьне, што "кажух ад Купалы" – міталягема, яшчэ больш умацавалася.**

Міталягему трэба адрозьніваць ад міту. Напрыклад, многія шчыра верылі: пабачыўшы, што НКВД рыхтуе расправу з, бадай, апошнімі беларускімі пісьменьнікамі ў БССР, у тым ліку з Купалам і Коласам, першы сакратар ЦК КП(б)Б Панцеляймон Панамарэнка кінуўся да Сталіна. З ласкі "найлепшага друга савецкіх пісьменьнікаў" *ордэры* нечакана памянялі на *ордэны*. Многія верылі ў гэтую прыгожую казачку, а скептыкі казалі: "Вось каб паперку якую, дакумэнцік які на гэты конт пачытаць". З часам такі дакумэнт выявілі, прачыталі і жахнуліся: Панамарэнка насамрэч не ратаваў пісьменьнікаў, а капаў ім яму.

Гэта тыповы выпадак легенды, што пачала была набываць статус міту. Яе можна было пачуць з вуснаў дзясяткаў дзядзькоў і цётак, яе ўнесьмяроціў на пісьме Барыс Сачанка. Байка сталася б міталягемаю, калі б на той самы сюжэт апавядалі гісторыю з удзелам іншых асобаў (прыкладам, першага сакратара Гея і начальніка ГПУ БССР Рапапорта). А вось гісторыя з "кажухом ад Купалы" — тыповая міталягема. Бо я ўжо даўнавата чуў падобную гісторыю, якая нібыта адбывалася ў той самы час і ў тым самым горадзе, але не з Купалам ды Ўласавым, а з Купалам, Коласам ды Антонам Луцкевічам. Апавядаў яе на радыё "Свабода" прафэсар Мікола Іваноў.

Сюжэт такі: у 1940 г. Луцкевіч, трапіўшы па этапе зь Вільні ў Менск, адправіў з турмы на "волю" дзьве цыдулкі — Купалу ды Коласу. Колас адмаўчаўся, казаў Іваноў, а вось Купала передаў Луцкевічу ў астрог кажух і валёнкі.

Мне не ўдалося навязаць кантакт з д-рам Івановым, каб высьвятліць, на якіх дакумэнтах грунтуецца ягонае сьцьвярджэньне. Пачутае па радыё я апрабоўваў на дасьведчаных людзях. Што Колас адмаўчаўся, казалі мне, зразумела: трое дзяцей у чалавека было... Але й Купала ня мог перадаць кажушок ды валёнкі: збаяўся б. Хутчэй за ўсё гэта Купаліха зрабіла: яна была жанчына экспансіўная. Людзі ж, якія ў той час сядзелі, пыталіся ў мяне: як пісулька наагул магла трапіць на волю? Алоўкаў і паперы ў вязьняў не было, у перапоўненых камэрах стукачы... Але ўявім, працягвалі разважаць былыя зэкі, што пісулька трапіла да адрасата. Ці адважыліся б Купала ці Купаліха перадаць Луцкевічу кажух ды валёнкі? Не. Бо ў іх папыталіся б, адкуль, ад каго яны ведаюць, што Луцкевіч сядзіць менавіта ў гэтай турме. Калі б Купала ці Купаліха сказалі пра пісульку, вязьням і вохры менскіх "амэрыканкі" й "валадаркі" рэжым да гэтае падзеі здаўся б курортным...

Купала, Колас і Бядуля маглі хадайнічаць за Аляксандра Ўласава, бо мелі на руках "законны" ліст, але кажуха яму не перадавалі. За Луцкевіча яны наўрад ці хадайнічалі, бо я ня чуў ад сыноў прэм'ер-міністра БНР, каб хтосьці зь іх пісаў у Менск і прасіў дапамогі. Значыць, кажушка з валёнкамі Луцкевіч тым болей не мог атрымаць. Але легенды пра кажушкі хадзілі...

Цікава даведацца, як міт нараджаецца. У кожнае міталягемы ёсьць канкрэтныя аўтары. Шкада, няма сярод нас Генадзя Каханоўскага, які распавёў гісторыю пра кажух для Ўласава. Цяпер мы наўрад ці даведаемся, ад каго ён пачуў яе. Ня менш цікава даведацца, ад каго пачуў гісторыю пра кажушок і валёнкі для Луцкевіча прафэсар Іваноў. Каму гэтак хацелася прыхарошыць вобраз Купалы? Сумнеўна, каб Антон Луцкевіч, апынуўшыся ў менскім астрогу, зьвяртаўся да Купалы зь нейкаю просьбаю. Калі Беларускі музэй у Вільні атрымліваў "ЛіМ", дык ягоны дырэктар Луцкевіч ня мог не зьвярнуць увагі на Купалаў артыкул "Успаміны" ў нумары за 6—7 лістапада 1937 г. У тым артыкуле паэт назваў прэм'ер-міністра БНР і ягонага брата Івана "бандаю Луцкевічаў" ды параўнаў іх з царскаю цэнзураю: маўляў, і цэнзура, і "банда Луцкевічаў" хацелі трымаць ягоную, Купалаву песьню ў кратах. Наўрад ці мог Луцкевіч забыцца на гэты артыкул і не разумець, у якім стане знаходзіцца Купала, якога ён, Луцкевіч, назваў пракокам адраджэньня. Зрэшты, Луцкевіч і бяз гэтага артыкулу ведаў, што дзеецца ў БССР і зь людзьмі, і з норавамі.

Якуб Колас збэсьціў Аляксандра Ўласава значна пазьней, чым Купала братоў Луцкевічаў: па другой сусьветнай вайне — у аповесьці "На ростанях".

**Анатоль Сідарэвіч**

# Палітычная амнэзія

**У нумары "НН" ад 28 сьнежня быў надрукаваны артыкул Алеся Чобата "*Gloria Victis*, альбо ліст да Сямёна Домаша". Ня буду спрачацца з даволі супярэчлівымі ацэнкамі аўтарам цяперашняй палітычнай сытуацыі. Але лічу патрэбным выказацца адносна падзеяў беларускай гісторыі пачатку 90-х, якую сп.Чобат аздабляе сьцьвярджэньнямі, што не адпавядаюць фактам. Калі чытач, якому цяпер каля трыццаці, здольны параўнаць трактоўку аўтара з тым, што бачыў і чуў сам, дык маладзейшае пакаленьне можа ўспрыняць гісторыю паводле такіх скажоных інтэрпрэтацыяў, як падае сп.Чобат.**

Тое, пра што піша Чобат, мне давялося назіраць зблізку: з 1991 па 1996 г. я была парлямэнцкім карэспандэнтам газэты "Добры вечар", радыё "Рэха Масквы", а затым беларускай службы радыё "Свабода". Добра ведаю і пра дзейнасьць апазыцыі БНФ, якой Чобат прысьвяціў значную частку свайго артыкулу. Мой муж, Сяргей Навумчык, быў дэпутатам апазыцыі. Усё, пра што я буду пісаць ніжэй, грунтуецца ня толькі на ўласных успамінах, але і на дакумэнтах.

Дзеля зручнасьці, паспрабую пракамэнтаваць сьцьвярджэньні сп.Чобата паводле храналёгіі падзеяў.

1. Спадар Чобат піша, што "бойня пад тэлецэнтрам у Вільні ў студзені 1991 г., калі савецкія вайскоўцы забілі трынаццаць чалавек, пакінула беларусаў глыбока абыякавымі".

Насамрэч прыкметай тых дзён у Беларусі была менавіта неабыякавая рэакцыя людзей. Стыхійныя мітынгі ў падтрымку Літвы праходзілі ня толькі ў Менску, але і ў рэгіёнах. Зь Вярхоўнага Савету БССР у той тыдзень у Літву накіраваліся аж дзьве дэлегацыі: адна афіцыйная на чале зь Нілам Гілевічам, другая — ад апазыцыі БНФ. Апошняя прывезла ў парлямэнт Літвы ліст падтрымкі ад беларускіх дэпутатаў (літоўскія дэпутаты віталі яго стоячы). У ВС Беларусі тады ішлі тэлеграмы і рэзалюцыі зь мітынгаў — колькасьць удзельнікаў уражвала. Падтрымка, якую беларусы выказалі літоўскай дэмакратыі, была ніяк ня меншай за тую, што назіралася ў Расеі ці ва Ўкраіне. Вядома, "неабыякавасьць" выказала ня ўсё насельніцтва, але ўсё насельніцтва нідзе й ніколі актыўнасьці й не выяўляе. Дзеля прыкладу: сто тысячаў чалавек, якія ў "аксамітную рэвалюцыю" 1989 г. выйшлі на Вацлаўскае намесьце — гэта толькі дзясятая частка пражанаў і сотая — насельніцтва Чэхіі. Дадамо, што некалькі грамадзянаў Беларусі былі ўшанаваныя ўрадавымі ўзнагародамі Літвы за салідарнасьць зь літоўскай дэмакратыяй. Сярод іх — дэпутаты ад апазыцыі Барыс Гюнтар ды Ігар Пырх, першы рэдактар адноўленай "НН" Сяргей Дубавец.

Чобат піша, што апазыцыя БНФ зрабіла памылку, не паслухаўшы экссьпікера Дзямянцея і пачаўшы не з Канстытуцыі, а з рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах.

Пры ўсёй схалястычнай крытыцы быццам бы "амёбападобнага" насельніцтва Беларусі ды абраных ім дэпутатаў сп.Чобат зусім ня згадвае падзей жніўня-верасьня 1991 г., калі ў Беларусі была адноўленая незалежнасьць. А між тым гэта ключавы этап для разуменьня палітычных працэсаў, якія і зараз доўжацца ў Беларусі.

У гісторыі парлямэнтарызму гэта быў сапраўды ўнікальны выпадак, калі адна дзясятая частка дэпутатаў здолела дамагчыся сваіх мэтаў, якія, заўважым, дыямэтральна разыходзіліся з мэтамі большасьці (прыпыненьне дзейнасьці КПБ-КПСС, аднаўленьне незалежнасьці, наданьне бел-чырвона-беламу сьцягу і гербу "Пагоня" статусу дзяржаўных сымбаляў). Аднак гэта было б немагчыма без падтрымкі значнай часткі насельніцтва, і найперш — некалькіх дзясяткаў тысячаў людзей, што прыйшлі ў тыя дні да Дому ўраду. Была там і я. І для нас, хто быў тады на плошчы, незалежнасьць не звалілася зь неба — за яе даводзілася змагацца.

Адначасна з патрабаваньнем незалежнасьці апазыцыя БНФ на чале зь Зянонам Пазьняком вылучыла патрабаваньне новых выбараў (паводле натуральнай формулі "новая дзяржава — новы парлямэнт"). Альтэрнатыўным гэтаму патрабаваньню варыянтам была якраз прапанова Дзямянцея — прымаць Канстытуцыю. (Дарэчы, чым так не задаволены сп. Чобат? Парлямэнцкая большасьць прапанову Дзямянцея рэалізавала ў поўнай адпаведнасьці з уласным разуменьнем канстытуцыйнага працэсу.) Урэшце ў 1994 г. Вярхоўны Савет прыняў Канстытуцыю — з прэзыдэнцтвам. Супраць такога праекту Канстутуцыі выступала апазыцыя БНФ. Пазьняк тады заявіў, што ўвядзеньне прэзыдэнцтва можа прывесьці да дыктатуры.

Пасьля таго як увосень 1991 г. ВС адмовіўся праводзіць новыя выбары, апазыцыі заставаўся толькі адзін варыянт — рэфэрэндум за датэрміновыя выбары. У выніку такіх выбараў большасьць новага парлямэнту склалі б дэмакраты, і гісторыя Беларусі пайшла б у іншым кірунку. БНФ сабраў 442 тысячы подпісаў (дастаткова было 250 тыс.). Вярхоўны Савет быў абавязаны прызначыць рэфэрэндум — паводле закону. У тым, што большасьць дэпутатаў пайшла на парушэньне закону, наўрад ці варта вінаваціць дэпутацкую меншасьць.

Рэфэрэндум быў адзіным шанцам у той сытуацыі, і ягоная страта абярнулася для краіны трагедыяй. Тут упершыню і выявіліся фігуры беларускіх палітыкаў-цынікаў, якія пасьля прывялі да ўлады Лукашэнку. Адной з ключавых фігур выступаў Дзьмітры Булахаў.

Чобат піша: "Я чыста выпадкова сустрэў на прахадной Дому ўраду мастака Ўладзімера Крукоўскага. Аказваецца, гэта ён з брыгадай у тэмпе раз-два рыхтаваў *усю новую сымболіку*... І вось ужо два месяцы Крукоўскі, як шабашнік за старшынём калгасу, хадзіў за нашымі дэмакратычнымі і патрыятычнымі дэпутатамі, якія тую работу замаўлялі, і ня мог атрымаць ні рубля. Больш таго, яму празрыста ківалі, што за такую "сьвятую справу" ўвогуле грэх браць грошы..."

Дзяржаўная сымболіка сапраўды распрацоўвалася на замову дэпутатаў апазыцыі БНФ. Праца ішла некалькі месяцаў — і зусім ня ў тэмпе "раз-два". Што да аплаты, дэпутаты апазыцыі некалькі разоў зьвярталіся да кіраўніцтва ВС з просьбай аплаціць працу... Апазыцыя грашыма не распараджалася. Пазьняк жа не ўяўляў нават магчымым прыйсьці ў нейкую амбасаду і сказаць, да прыкладу: "Мы тут пішам Дэклярацыю аб сувэрэнітэце, дык дайце нам грант". А бізнэсоўцы апазыцыі практычна не дапамагалі. Яны супрацоўнічалі з уладамі. Яны не маглі прадбачыць, што праз колькі гадоў давядзецца прасіць прытулку за мяжой і сьцьвярджаць, што пасадзіць за краты іх хацелі не за фокусы з крэдытамі, а за дапамогу апазыцыі.

Чобат піша, што "ў 1994-м "нацыяналісты" і "дэмакраты", а таксама "наш Вячаслаў Францавіч" бяздарна прагледзелі новую сацыяльную клясу, *камсамольцаў сярэдняга зьвяна*", відавочна маючы на ўвазе найбольш яскравага прадстаўніка гэтай "клясы" — Лукашэнку.

У кастрычніку 1993 г., калі Лукашэнка выступіў у Джярждуме Расеі ад імя "клясы" супраць незалежнасьці, апазыцыя БНФ запатрабавала пазбавіць яго дэпутацкіх паўнамоцтваў. Калі б *гэтая* прапанова была прынятая падкантрольнай Кебічу парлямэнцкай большасьцю, не было б ні сумна вядомага "антыкарупцыйнага дакладу", ні ўдзелу Лукашэнкі ў прэзыдэнцкай кампаніі.

Аўтар піша: "Як толькі Лукашэнка раскапаў за сьпікерам нейкія неаплачаныя будматэрыялы, Шушкевіч паляцеў з нагрэтага месца. Пры поўнай усеагульнай *згодзе*".

Адстаўка Шушкевіча была зусім не аднадушнай. У 93-м байкотам з пакіданьнем залі паседжаньняў апазыцыі ўдавалася зрываць галасаваньні па адстаўцы Шушкевіча, якую ініцыявалі камуністы. У студзені 94-га ініцыятарамі адстаўкі Шушкевіча выступілі Лукашэнка, Булахаў, Ганчар, падтрымала іх і група на чале з Карпенкам. Дэпутаты БНФ, хоць і мелі прэтэнзіі да Шушкевіча, рабілі ўсё магчымае, каб прадухіліць чарговае галасаваньне аб даверы сьпікеру.

Наагул, зводзіць адстаўку Шушкевіча да абвінавачаньня ў нібыта "скрадзенай скрыні цьвікоў" — значыць спрашчаць сытуацыю. "Цьвікі" — гэта тое, што было для радыётрансьляцыі. А ключавым падаецца іншае абвінавачаньне, якое прагучала на зачыненым пасяджэньні ВС, але адразу стала вядомае нам, парлямэнцкім журналістам. На тым пасяджэньні Лукашэнка заявіў, што ўлады ЗША запатрабавалі выслаць за дзейнасьць, несумяшчальную з дыпляматычнай, дваіх супрацоўнікаў прадстаўніцтва Беларусі ў ААН. Гэтыя "дыпляматы" былі насамрэч афіцэрамі расейскай выведкі.

Дэпутат Лукашэнка лічыў, што Шушкевіч быў абавязаны ўзьняць тэму расейскіх выведнікаў падчас візыту Біла Клінтана ў Менск, які адбыўся за тыдзень да гэтага закрытага пасяджэньня. Дарэмна дэпутаты апазыцыі даводзілі, што расейскія — ня значыць "нашы". Менавіта пасьля гэтага была вынесеная прапанова аб даверы (альбо недаверы) Шушкевічу. Ужо ў той момант у дзеяньнях Лукашэнкі выразна выявіўся "расейскі фактар", замяшаны на інтарэсах спэцслужбаў.

Як апошні сродак, апазыцыянэры паспрабавалі сарваць кворум, не апускаючы бюлетэняў у урны. Адзін такі бюлетэнь захоўваецца ў нас дома — на ім Станіслаў Станіслававіч пазьней з удзячнасьцю расьпісаўся.

"Ляцелі ўдалеч першыя дні Незалежнасьці... *Ніхто ня ведаў, што зь ёй рабіць*". – сьцьвярджае Чобат.

Ня ведаю, дзе ў тыя гады быў сп.Чобат і што рабіў ён, але аднаўленьне Незалежнасьці было ўспрынята як сыгнал да дзеяньня творчай інтэлігенцыяй, навукоўцамі, прадпрымальнікамі, журналістамі і г.д. Менавіта тады паўстала большасьць прыватных прадпрыемстваў, я ўжо не кажу пра новыя газэты і часопісы, пры кнігадрук, калі ў сьвет было выдадзена тое, што раней зьявіцца ў друкаваным выглядзе ніяк не магло (на жаль, цяпер таксама).

І, нарэшце, вельмі добра ведала, што трэба рабіць з незалежнасьцю, апазыцыя БНФ на чале з Пазьняком. Менавіта яна прапанавала Вярхоўнаму Савету канцэпцыю разьвіцьця новай дзяржавы — у тым ліку ў сфэры эканомікі, фінансавай сыстэмы, міжнародных зносінаў. Сп.Чобат гэтага не адмаўляе, выяўляючы, праўда, арыгінальнае разуменьне палітычных тэрмінаў.

Ён піша: "Трыццаць апазыцыйных дэпутатаў, якія супраць трохсот астатніх, маюць толькі прыходзіць на галасаваньні і галасаваць "супраць". Трыбуну ж трэба выкарыстоўваць выключна для рэклямы і прапаганды. А наш БНФ мала таго што лез са сваімі трыццацьцю пальцамі ўсюды, ад міжнароднай палітыкі да лясной гаспадаркі, мала таго што бессэнсоўна дыскутаваў з вэтэранамі-маразматыкамі па праблемах кастрычніцкай рэвалюцыі, дык ён яшчэ праекты законаў пісаў невядома каму і навошта...А парлямэнцкую трыбуну ёсьць сэнс выкарыстоўваць, толькі *калі ёсьць скандал*".

Парлямэнт існуе дзеля прыняцьця законаў, гэта ягоная асноўная функцыя ва ўсе часы і ва ўсіх краінах. Дзеля скандалаў існуюць і2ншыя месцы, дый ніколі яшчэ скандалы (напрыклад, фінансавыя) палітыкаў не ўпрыгожвалі.

І тое, што яшчэ засталося ў Беларусі беларускага, — было закладзена пераважна тады, з 91-га да 93-га, і менавіта з дапамогай дэпутатаў БНФ. Так, камісія ВС па культуры й адукацыі на чале зь Нілам Гілевічам (намесьнікі — дэпутаты ад БНФ Алег Трусаў і Лявон Баршчэўскі, сярод сяброў — Лявон Дзейка, Яўген Цумараў) стварылі падмурак новай, беларускай сыстэмы адукацыі, дамагліся новых, праўдзівых падручнікаў гісторыі і літаратуры. Па іх вучылася моладзь, якая і сталася цяпер актыўнай сілай супраціву. Міжнародная камісія, на чале якой былі дэпутаты апазыцыі Пятро Садоўскі і Валянцін Голубеў, выпрацавала кірункі самастойнай замежнай палітыкі. Праекты законаў аб уласнасьці, банках і банкаўскай сыстэме, Зямельны кодэкс распарацоўваліся дэпутатамі апазыцыі БНФ Уладзімерам Заблоцкім, Юрасём Беленькім, Лявонам Зданевічам. Была прапанаваная канцэпцыя разьвіцьця сродкаў масавай інфармацыі.

Тыя больш як трыццаць законапраектаў і некалькі сотняў заканадаўчых прапановаў, падрыхтаваных дэпутатамі апазыцыі, стваралі прававы падмурак дэмакратычнай дзяржавы з цывілізаванымі рынкавымі адносінамі. Большасьць зь іх была адрынутая — але пэўныя палажэньні ўсё ж увайшлі ў заканадаўчую базу, на якой паўстала і самастойная фінансавая сыстэма, і беларускае войска, і памежная служба, і ўсё тое, без чаго немагчыма ўявіць незалежную краіну.

Можна казаць і пра тое, што ня здолела зрабіць апазыцыя БНФ. Аднак у цывілізаваным сьвеце прынята ацэньваць палітыкаў паводле вынікаў. Вынік жа дзейнасьці апазыцыі БНФ на чале з Пазьняком — стварэньне незалежнай Беларусі. Ніякім наступным "хвалям" апазыцыі не ўдалося пакуль і наблізіцца да такога палітычнага посьпеху.

І яшчэ я параіла б сп.Чобату не ацэньваць гэтак грэбліва беларусаў, паказваючы іх мала на што здольнымі. За пяць гадоў жыцьця ў ЗША на ўласныя вочы пераканалася, што беларусы, прыяжджаючы ў Нью-Ёрк часам з сотняй даляраў у кішэні, вельмі хутка ўладкоўваюць сваё жыцьцё ня горш (а часьцей і лепей) за палякаў, латышоў, габрэяў альбо расейцаў.

**Галіна Навумчык, Нью-Ёрк**

# Хроніка мінулага году ў фатаздымках “НН”




СТУДЗЕНЬ. Мірон сустрэў Новы год вывешваньнем сьцяга на віцебскай ЦЭЦ



Пачаў дзейнічаць новы Крымінальны кодэкс



Павал Жук: жыцьцё пад агнём. Супраць рэдактара “Нашай Свабоды” была ўзбуджаная крымінальная справа, пасьля таго як газэта назвала Лукашэнку хворым на “мазаічную псыхапатыю”



Саюзьніка Барадзіна, перасьледаванага швайцарскай юстыцыяй, суцяшае экспрэм’ер Ярмошын



ЛЮТЫ. Пасьля традыцыйнай Акцыі любові 14 лютага арыштоўваюць Паўла Севярынца



Памёр Масей Сяднёў



Сябры БПС прымаюць хрышчэньне. “Зубр”, “Край”, БПС... Цэлы год – ад выбараў да Курапатаў – назвы беларускіх радыкальных груповак былі ва ўсіх на слыху




Песьні з альбому “Я нарадзіўся тут” выходзяць на першыя пазыцыі ў гіт-парадах



Выйшла кніга Міхася Раманюка “Беларускія народныя крыжы”



САКАВІК. На Дзень Волі дэманстранты занялі курган пад помнікам гораду-герою



КРАСАВІК. “Пяцёрка” кандыдатаў сумавала ад пачатку



ТРАВЕНЬ. “НН” — 10 гадоў



ЛІПЕНЬ. Будслаў



ВЕРАСЕНЬ. Ганчарык прайграў



Амэрыканская трагедыя



Мілошавіч гатоў



Чэславу Мілашу — 90



Менск бяз Замкавай



Arena volat, mithus manet



ЖНІВЕНЬ. Айцу Надсану — 75



Памёр Уладзімер Адамчык



Начальнік сьледчага ізалятару Алкаеў пацьвердзіў замяшанасьць шэрагу высокіх дзяржаўных асобаў у забойствах апазыцыйных палітыкаў



Арыштаванаму на тры месяцы дысыдэнту Шчукіну насільна згалілі бараду



Падманулі Галю



Валянціне Палевіковай не ўдалося зрабіць Ганчарыка прэзыдэнтам



Перадвыбарная стратэгія Віка правалілася. Прэзыдэнцкія выбары не прайшлі дэмакратычна



Мікола Маркевіч, рэдактар забароненай “Пагоні”: яны пралічацца



КАСТРЫЧНІК. Вуглік



Беларуская АЭС за мяжою РБ



Акадэмік нумар адзін



ЛІСТАПАД. Курапаты: крыжы пад жвірам



СЬНЕЖАНЬ. Буш – пераможца



Памёр ксёндз Чарняўскі

ЗДЫМКІ АНАТОЛЯ КЛЕШЧУКА, УЛАДЗІМЕРА ШЛАПАКА, IREX-PROMEDIA, REUTERS, AP, SANA

*агляд музычнага году*

# Мода не памянялася

Увечары 7 студзеня Лукашэнка ўручыў прэміі "За духоўнае адраджэньне", прызначаныя Праваслаўнай царквой і Міністэрствам культуры, а таксама спэцыяльныя прэзыдэнцкія прэміі за творчыя дасягненьні ў мінулым годзе. Значную частку гэтых узнагародаў атрымалі музыкі — асобныя творцы і цэлыя калектывы.

Так, адну зь пяці прэміяў "За духоўнае адраджэньне" атрымала Ўзорная капэля хлопчыкаў і юнакоў Берасьцейскага абласнога палацу культуры прафсаюзаў. У ліпені 2000-га яна здабыла залаты мэдаль Сусьветнай харавой алімпіяды, што праходзіла ў аўстрыйскім горадзе Лінцы. Уганараваўшы берасьцейцаў залатым мэдалём, арганізатары даслалі Лукашэнку ліст-падзяку — ня ведалі, што капэля езьдзіла на Алімпіяду без усякае падтрымкі з боку Міністэрства культуры. Мабыць, міністэрскім чыноўнікам зрабілася сорамна, і яны вылучылі дзяцей на прэмію — мільён беларускіх рублёў.

Сярод ляўрэатаў таксама кампазытарка Галіна Гарэлава. Яе ўганаравалі за стварэньне канцэрту "Траецкія фрэскі" для дзьвюх трубаў і аркестру. Гэты твор у чарговы раз гучаў падчас адкрыцьця новага філярманічнага сэзону. Прыгожая п'еса!

Прэмію "за падрыхтоўку прафэсійных кадраў" атрымаў народны артыст Беларусі цымбаліст Яўген Гладкоў. Сярод ягоных вучаніц — легендарная цымбалістка Ангеліна Ткачова, якая зараз жыве й працуе ў Грэцыі, а таксама заслужаная артыстка Беларусі Ларыса Рыдлеўская. Прафэсар Гладкоў паўплываў на многіх нашых кампазытараў, якія цяпер з захапленьнем пішуць творы для цымбалаў — Віктара Войціка, Вячаслава Кузьняцова, Уладзімера Кур'яна, Уладзімера Каральчука і інш.

Андрэй Шпянёў — адзін зь вядучых артыстаў Дзяржаўнага канцэртнага аркестру Беларусі — таксама атрымаў прэмію. Згодна з афіцыйнай фармулёўкай — "за высокамастацкае аранжаваньне музычных твораў". Аднак акурат летась вызначыўся іншы аранжавальнік гэтага ж аркестру — гітарыст Уладзімер Ткачэнка, аўтар "Сымфоніі "Бітлз" і "Сымфоніі "Песьняроў". А Шпянёў аранжаваў архіўныя творы, якія прагучалі на пазалеташнім фэстывалі "Музы Нясьвіжу". Рэпэртуар гэтага фэсту складала кандыдатка мастацтвазнаўства Вольга Дадзіёмава, якая таксама атрымала прэмію за сваю кнігу "Нарысы па гісторыі музычнай культуры Беларусі".

У галіне мастацкай самадзейнасьці прэмію атрымаў Уладзімер Гарачаў — кіраўнік лідзкага ансамблю народнай музыкі "Калі ласка". Гэты калектыў вядомы ў колах спэцыялістаў, аднак звычайныя слухачы яго амаль ня ведаюць. Яўгену Раўтовічу, прафэсару Беларускага ўнівэрсытэту культуры, далі прэмію "за стварэньне ўласнай школы харавога выкананьня", пра якую, праўда, ніхто ня чуў.

Такі адбор ляўрэатаў відавочна адлюстроўвае прыхільнасьці наступніка Замяталіна — Івана Карэнды. А якія падзеі музычнага жыцьця засталіся па-за ўвагай прэзыдэнцкіх чыноўнікаў й не былі адзначаны прэміямі?

Сярод самых цікавых леташніх твораў называюць сымфонію Алега Хадоскі "Белая Русь", а таксама араторыю Зьмітра Смольскага *"Heretis"*, прысьвечаную памяці ахвяраў інквізыцыі. Гэта агромністы твор, з выкарыстаньнем архіўных дакумэнтаў на трох мовах: ангельскай, нямецкай і расейскай. Галоўныя дзейныя асобы — музыкі нямецкага мэтал-гурту *"Rage"*. Цяжкая музыка спалучаецца з мэлядэклямацыяй і традыцыйным гучаньнем сымфанічнага аркестру. Але гэты твор наўрад ці прагучыць у Беларускай філярмоніі: гастрольны графік *"Rage"* расьпісаны на гады наперад.

Філярмонія ўвогуле ня песьціць слухачоў новымі беларускімі творамі. Летась яны гучалі выключна ў рамках фэстаў. "Менская вясна 2001 — Эўрапейскія музычныя сустрэчы" адчынілася выкананьнем аркестравай фрэскі "Велікодныя званы", напісанай Людмілай Шлег да 2000-годзьдзя хрысьціянства. "Беларуская музычная восень" распачалася з сымфоніі-канцэрту "Радасьць" Андрэя Мдзівані. Абодва творы былі выкананыя дасканала, аднак ніводзін зь іх не зрабіў сапраўды моцнага ўражаньня. "Велікодныя званы" выявіліся гучнымі й экзальтаванымі, у стылі расейскіх постмадэрнісцкіх сымфоніяў пачатку 80-х XX ст. Сымфонія-канцэрт нагадвала саўндтрэк да галівудзкіх фільмаў: бесканфліктная музыка, скампанаваная часам выпадкова. Гэткае ўражаньне магло скласьціся з-за кантрасту з кантатай Сяргея Пракоф'ева "Сямёра іх" ("Халдэйскі заклён") на верш Бальмонта, якая прагучала ў той самы вечар. Гэты твор, у якім выразна чуваць сьмяротны поступ нованароджанай бальшавіцкае ўлады, ніколі раней не выконваўся ў Менску. Самае сьмешнае, што ў ананімнай рэцэнзіі, надрукаванай на сайце http://nacbibl.org.by, яна была названая "Сямёра казьлянятаў". На фоне гэтых "казьлянятаў" большасьць сучасных беларускіх твораў выглядаюць састарэлымі й вялымі.

Асабліва расчараваў "Адзінокі птах" Алега Залётнева на вершы Міцкевіча і Чачота — твор, прызначаны для філярмоніі, а не для опэрнага тэатру, хоць і названы чамусьці опэрай. Нават атмасфэра скандалу вакол прэм'еры ня здолела выратаваць дрэнна аркестраваную музыку Залётнева.


УЛАДЗІМЕР КАЗАНЕЎСКІ

Часам здаецца, што замежныя кампазытары лепей разумеюць душу беларускай паэзіі, чым самі беларусы. Гэткае ўражаньне склалася ў мяне пасьля нямецка-беларускай вечарыны "І вынайшаў я крылы — вось яны...", што адбылася 6 верасьня ў менскім касьцёле Сьв.Роха. Галоўнымі героямі імпрэзы былі Алесь Разанаў ды нямецкі кампазытар Ёган Готлаб фон Урохем, які выконваў свае творы на вершы паэта. Кампазытар дэклямаваў іх (па-нямецку), адначасова кранаючы струны раялю. Яшчэ ён вадзіў па струнах жалезным друком і раскідаў па іх шкляныя шарыкі. Гэта было дзіўна, часам нудна, аднак слухалася лепей за творы некаторых нашых кампазытараў, што цьвёрда трымаюцца музычнага стылю, распрацаванага яшчэ Анатолем Багатыровым.

Значна болей дзёрзкасьці ў камэрных творах сяброў Беларускага таварыства сучаснай музыкі. Яно зладзіла ў рамках "Беларускай музычнай восені" невялікі фэст, дзе гучалі творы 30—40-гадовых аўтараў. Крыху прэтэнцыёзныя містычныя экзэрсысы Ганны Кароткінай (гэтая энэргічная кампазытарка спрабуе адрадзіць "музычныя серады" ў Саюзе кампазытараў), мудрагелістыя музычныя шарады Зьмітра Лыбіна, эпатажныя, па-майстэрску выпісаныя творы Вячаслава Кузьняцова, элегантныя, добра абмысьленыя п'есы Аляксандра Літвіноўскага. Шкада, што летась мы не пачулі ніводнага твору Валер'я Воранава — гэты 30-гадовы кампазытар зьехаў на вучобу ў Кёльн. У сакавіку 2001-га ягоная п'еса для струннага аркестру *"Autumn music"* атрымала першую прэмію на Міжнародным конкурсе кампазытараў у Нямеччыне. А ў верасьні Воранаў перамог на кампазытарскім конкурсе ў Варшаве. Цяпер ён асыстэнт-стажор у электроннай студыі Вышэйшай школы музыкі Кёльну. Аднак ягоныя творы ў беларускіх канцэртных залях амаль не гучаць.

А Сяргей Картэс летась скончыў працу над чацьвертай сваёй опэрай. "Юбілей" паводле апавяданьня Антона Чэхава — першая беларуская камічная опэра, напісаная ў традыцыях Расіні. Яна мела вялікі посьпех на фэстывалі ў Салятурне (Швайцарыя). У лютым гэты спэктакль убачаць менскія гледачы. "Юбілей", як і ўсе ранейшыя опэры Картэса, напісаны на расейскі тэкст. Што праўда, цяпер кампазытар працуе над опэрай паводле аповесьці Ўладзімера Караткевіча "Ладзьдзя роспачы". Рыхтуецца да пастаноўкі і "Пані Ядзьвіга" Ўладзімера Солтана.

А пакуль з трыццаці опэраў, якія ідуць на сцэне Нацыянальнага тэатру, 19 — італійскія (18 зь іх гучаць на мове арыгіналу), адна нямецкая, адна француская, шэсьць расейскіх, дзьве беларускія... У сакавіку ў беларускай Опэры адбыўся фэст, прымеркаваны да 100-годзьдзя з дня сьмерці Джузэпэ Вэрдзі. Сёньня ў рэпэртуары нашае Опэры ажно 9 ягоных твораў, улучна з Рэквіемам. Няшмат якія тэатры сьвету могуць гэткім пахваліцца. З квіткамі на фэстывальныя канцэрты былі цяжкасьці, нягледзячы на адсутнасьць вядомых сьпевакоў-гастралёраў. Хоць славутыя землякі абмінаюць родны тэатар! Марыя Гулегіна сьпявае найбольш у нью-ёрскай *Metropolitan Opera*. А ейная вучаніца Ірына Гардзей — у спэктаклях "Баль-маскарад" і "Сіла лёсу" ў лёнданскім *Covent Garden*. Аднак нашая публіка й ня думала сумаваць, балазе Тамара Глаголева з Наталяй Рудневай сьпяваюць у свае найлепшыя дні ня горш.

А Вэрдзі — гэта заўжды Вэрдзі, асабліва для беларускага вуха, разьмілаванага ў пекных італійскіх мэлёдыях. Дзьве з трох леташніх прэм'ераў Нацыянальнага тэатру — гэта опэры Вэрдзі "Трубадур" і "Атэла". Трэцяя — "Барыс Гадуноў" у пастаноўцы Мікалая Пінігіна. Ён мусіў быць галоўнай падзеяй году, адна ва умовах панаваньня італійскае музыкі ў нашай Опэры ўкараніўся й эўрапейскі спосаб сьпяваньня, несумяшчальны з эстэтыкай Мусаргскага. І замест вернападданіцкага жэсту ў бок "старэйшага брата" атрымалася карыкатура.

У Філярмоніі летась не ставала сапраўдных падзеяў. Прыгадваецца хіба той студзеньскі вечар, калі Андрэй Паначэўны выконваў Другі фартэпіянны канцэрт Рахманінава. Гэта быў піянізм найвышэйшае кляссы, які нячаста даводзіцца чуць. Выступленьні іншых піяністаў былі ня гэткімі запамінальнымі. Дэбютны сольнік Аляксандра Музыкантава ў сакавіку быў далёкі ад дасканаласьці, хаця й сьведчыў пра выдатныя здольнасьці 17-гадовага ляўрэата. Расчараваў выступ Зьмітра Марозава на юбілейнай імпрэзе ягонай прафэсаркі Валянціны Рахленкі. Пяць гадоў таму Зьміцер эміграваў у Нямеччыну, вучыўся ў Кёльне, але ў параўнаньні зь беларускімі піяністамі — Андрэем Паначэўным, Андрэем Сікорскім, Юзафам Сяргеем, Юрасём Бліновым, Аляксандрам Музыкантавым — яму не стае прафэсіяналізму.

Ня дужа цікавымі былі й леташнія сымфанічныя імпрэзы. Мінулыя гады наш філярманічны аркестар ці не штотыдня частаваў менчукоў буйнымі сымфоніямі. Дырыжоры, якія працавалі з аркестрам, — П'ер Дамінік Панэл, Віктар Собалеў, Генадзь Праватораў — літаральна спаборнічалі ў колькасьці выкананых сымфоніяў Бруккнэра, Малера, Сыбэліюса і Шастаковіча. Кульмінацыяй была "Туранґаліла" Мэсыяна ў чэрвені 2000 г. Летась іх відавочна не ставала. Адчуваецца й нястача тэатралізацыі. Пасьля Мішы Каца, які ў ролі галоўнага дырыжора вычарпаў усе рэсурсы штукарства, дырыжоры, зрэшты, і вымушаныя паводзіць сябе на сцэне вельмі стрымана.

Выдатнае ўражаньне пакінуў канцэрт 23 лістапада, калі філярманічны аркестар пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава выконваў творы сучасных нідэрляндзкіх кампазытараў. Усё захапляла — і музыка, і выкананьне. Найчасьцей на канцэртах нашага сымфанічнага аркестру падабаецца нешта адно. Бываюць і выпадкі анэкдатычныя, калі якое-небудзь сола на трубе выклікае нястрыманы рогат нават у чыноўнікаў зь Міністэрства культуры. Слухаючы такое на канцэрце нашага галоўнага аркестру, разумееш, што ў калектыве насьпеў час для радыкальных пераменаў. Тут не абыдзешся касмэтычнайператасоўкай дырыжораў!

Замала падзеяў, замала адкрыцьцяў... Хіба што гастралёры прыяжджалі лепшыя, чым у мінулыя гады. Абышлося без хрыпатых вакалістаў з Масквы й Вены, састарэлых піяністаў ды іншых дзівосаў з кунсткамэры поп-клясыкі. У верасьні адбыўся цікавы канцэрт індыйскай клясычнай музыкі з удзелам цымбалісткі Ларысы Рыдлеўскай, у кастрычніку — канцэрт музыкі японскай. На Вялікдзень у Філярмоніі выступаў тэнар Сяргей Ларын, у сьнежні — расейскі Квартэт імя Барадзіна.

Зрухі ў бок беларушчыны ў нашай Опэры й Філярмоніі відавочныя. Год 2001-ы адзначыўся небывалай дагэтуль цікаўнасьцю да беларускай музыкі. Нават тэлеграфнае агенцтва БЕЛТА згадала ў сваёй стужцы навінаў пра 115-я ўгодкі Міколы Равенскага і 130-я ўгодкі Ўладзімера Тэраўскага. Яшчэ нядаўна імёны гэтых кампазытараў замоўчваліся, хоць Равенскі быў аўтарам першай беларускай опэры "Бранislава", а Тэраўскі — пачынальнікам харавога мастацтва ў Беларусі.

Зрухі ў бок беларускасьці назіраліся і ў неакадэмічных жанрах музыкі. Мінулы год можна было назваць годам Палянэзу. Усё першае паўгодзьдзе ў гіт-парадах *FM*-станцыяў упэўнена займаў першае месца Палянэз Агінскага з альбому "Я нарадзіўся тут". А 1 верасьня ў Маладэчне быў адкрыты помнік Міхалу Клеафасу Агінскаму. Значная частка сродкаў на яго была сабраная дабрачынным канцэртам, што прайшоў 17 лютага ў Філярмоніі. Гэта цалкам новая зьява ў беларускім музычным жыцьці, новы спосаб выяўленьня народнае любові й пашаны.

Новай сталася і тэндэнцыя да адраджэньня чаго-любя: беларускіх масавых песень 1920—70-х ("Я нарадзіўся тут"), рыцарскай лірыкі, якая існавала ці то ў сапраўднасьці, ці толькі ў фантазіях сучасных адраджэнцаў ("Легенды Вялікага Княства", сэнсацыйны "Стары Ольса"), беларускай капэлі пэрманэнтна і г.д. Дзяржаўны канцэртны аркестар у сваёй апошняй філярманічнай праграме, прымеркаванай да 15-х угодкаў, згадваў знаёмыя мэлёдыі "Бітлз" і "Песьняроў". Самі мулявінскія "Песьняры" амаль не гучаць у Менску, затое іхны канцэрт у Адэсе, шчодра аплачаны кіраўніцтвам тамтэйшай пякарні і заводу шампанскіх вінаў, стаўся для сантымэнтальных адэсітаў ледзь не галоўнай культурнай падзеяй году. А колішні гурт "Сузор'е" намагаўся адрадзіць сам сябе. 15 кастрычніка ў Менск прыляцеў з Чыкага прадусар Валянцін Пучынскі, які калісьці пісаў для гурту песьні. Цяпер ён працуе ў аддзеле мэнэджмэнту Чыкагскага сымфанічнага аркестру. Пучынскі наладзіў сэрыю канцэртаў "Сузор'я" ў аднайменнай кавярні, дзе гурт дэбютаваў у 1977 г.

Усе гэтыя настальгічныя экспэрымэнты падмацоўваюцца "мэйнстрымам" неакадэмічнай музыкі. Галоўнай плыньню у ёй застаецца фольк. Яшчэ год таму найлепшымі ў гэтым жанры былі "Крыві" зь вясельнымі песьнямі, запісанымі ў Касьцюковіцкім раёне. Але пасьля разводу з Вэранікай Зьміцер Вайцюшкевіч усё больш часу прысьвячае самастойным праектам. 6 сьнежня ў Тэатры юнага гледача адбылася прэзэнтацыя ягонага першага аўтарскага дыску "Цацачная крама". Тым часам месца "Крыві" пераймаюць іншыя калектывы. "Ліцьвіны" бліскуча выступілі летась у Доме культуры МТЗ. Цёплай сэнсацыяй стаўся альбом "Тэмпаральнасьць" — сумесны праект гуртоў "Ветах" і "Верас". Самі аўтары называюць свой кірунак "пост-фальклёрам", хоць нічога "пост-фальклёрнага" ў ім няма, а ёсьць спроба глыбокага пранікненьня ў таямніцы каляндарнага сьпеву і традыцыйных танцаў.

Вось такім быў 2001-ы — мітусьлівым, прасnаватым, перанасычаным другаснымі падзеямі. Але ён падарыў нам пэўнасьць, што беларуская музыка — як і мова, як і культура, як і незалежнасьць — нікуды ня зьнікне. Хоць вельмі яшчэ ня хутка азначэньне "беларуская" ў дачыненьні да яе з геаграфічнага канчаткова ператворыцца ў сутнаснае.

**Юлія Андрэева**




АЛЯКСАНДАР КУЛІК

# Калядны рок

## *агляд сцэнічных падзеяў Менску*

Канец сьнежня выдаўся досыць багатым на розныя музычныя імпрэзы. Камэрныя вечарыны ў клюбах чаргаваліся зь вялізнымі канцэртамі нашых рок-зорак. Усё зьмяшалася ў гукавую кашу, але сёе-тое ўсе ж засталося ў памяці.

Найперш, вядома, фэст беларускіх гітарыстаў, які праходзіў ужо трэці раз. Інтарэс да "Грыфаманіі" расьце з кожным годам, да яе выяўляюць цікавасьць як спонсары, так і простыя слухачы. Заля ДК МТЗ сёлета была перапоўненая. У хуткім часе дырэктару фэстывалю Юр'ю Рашэтнікаву трэба будзе арандаваць Палац спорту, каб задаволіць патрэбы аматараў гітарнай музыкі. Гралі ўдзельнікі фэсту ўсё — ад флямэнка да сьпід-мэталу. Асабліва зачараваў публіку "беларускі Блэкмар" Ігар Волкаў, які "бегаў" па грыфе адразу дзьвюма рукамі, ды мэтр Уладзімер Угольнік са сваім "Цяжкім блюзам". Крыху панэрваваў арганізатараў джазмэн Іван Барысаў, але ён давёў, што прафэсіянал здольны рабіць сваю справу ў любым стане ап'яненьня.

Яшчэ згадваецца сольны перадкалядны канцэрт Аляксея Шадзько з гуртам "Сястра", у які ўваходзяць музыканты з прэфіксам "супэр". Анцішын, Люты, Шавандо й Каліноўскі цешылі публіку сваім майстэрствам — па чарзе ды ўсе разам. Шадзько сьпяваў пра тое, як ён паляціць на Марс, як ён кахае Марусю і як разьнясецца па сьвеце ягоная песьня каханьня ды разьвітаньня. Даўно трэба ўзнагародзіць гэтага прадстаўніка крэольскай музыкі званьнем кшталту "беларускі кароль рок-баляды", бо лепшага за яго ў дадзеным напрамку не відаць і не чуваць. Калі б браў удзел у зборных фэстах, сьпяваў не для адной і той самай публікі ды рабіў тое, што патрабуюць законы шоў-бізнэсу, можа, нечым і адзначылі б. А Аляксей дае рэдкія сольныя канцэрты, сьпявае для сяброў, знаёмых і даўніх прыхільнікаў... за што яму насамрэч вялікі дзякуй.

А тым часам выплыла з памяці яшчэ адна музычная падзея — "*comeback KRIWI*". Сэнсацыі з гэтага ніхто рабіць ня стаў, таму месца абралі адмысловае (клюб "База"), рэклямы не зрабілі ды падвысілі цану квіткоў. Таму здолелі патрапіць туды адно толькі набліжаныя да гурту людзі — усіх назьбіралася каля 20—30 чалавек. "Крыві" сьпявалі старыя песьні, Вайцюшкевіч не на ўсю моц выканаў рэшту са свайго і абяцаў выступіць з "Цацачнай крамай" яшчэ раз, а "стрып-зорка" Піт Паўлаў прыканцы прадэманстраваў агаленую канечнасьць. Пад "Я нарадзіўся тут" танчыла нават служба аховы, а "Агу, вясна" перайначылі ў "Агу, зіма". Пасьля жывога выступленьня была дыскатэка — скакалі пад рэміксы песень "Крыві".

Між іншым, у сакавіку гурту будзе пяць год. Мо сьвяткаваньне адбудзецца ў больш даступным месцы.

Яшчэ прыгадваецца калядная вечарына ў ДК МТЗ, якой БМА адмыслова надала этна-фолькавае адценьне. Першымі калядавалі госьці з Магілёву — "Акруга вольнага мастацтва". Гурт грае надзвычай прыгожую й цікавую музыку (у Эўропе нешта падобнае гралі *"Jethro Tull"*). Адно што інтэрпрэтацыі "Рэчанькі" і "За туманам" у "АВМ" ня дужа атрымаліся: "За туманам", выкананая зычным мужчынскім басам, не ўспрымалася. *"Postscriptum"* выступілі як заўсёды ўдала: знайшлі яны свой стыль і наўрад ці калі ад яго адмовяцца. Апагеем стаўся "Палац", які выглядаў больш рокавым (пэўна, гітарыст "Крамы" Труханові́ч, які грае зь імі, прыкладаў намаганьні), больш сталым і нейкім узвышаным па-над усімі. Дарэчы, толькі іхная музыка прымусіла ўсю залю танчыць і сьпяваць старажытную "Стралу", новы гіт "Чужыя дзеўкі" ды забытую народную "Божа, мой, Божа". Прыканцы вядучы Аляксандар Памідораў засьпяваў свой "Цуд на Каляды".

Апрача ўсяго, адбылася пакуль што закрытая прэзэнтацыя наступнага супольнага праекту (на вершы Караткевіча), а двухдзённы канцэрт NRM, што таксама меўся адбыцца ў калядныя дні, улады забаранілі. Вольскі паабяцаў выступіць у лютым.

А 6 студзеня ў клюбе "Акварыюм" адбыўся канцэрт "Блюз на Раство". Хэдлайнэрамі былі "*Mojo blues*" — той самы гурт, дзе грае зараз колішні гітарыст "Рэю" ды "Крамы" Ільля Шэўчык.

**Сяргей Будкін**

### Гомельскі гіт-парад

**па выніках продажу за 2001 год**

**CD:**

1. "Я нарадзіўся тут"
2. "Легенды Вялікага Княства"
3. "Юр'я", альбом "Весначуха"
4. NRM, альбом "Тры чарапахі"

**Аўдыёкасэты:**

1. "Легенды Вялікага Княства"
2. NRM, альбом "Тры чарапахі"
3. "Я нарадзіўся тут"
4. С.Сокалаў-Воюш "Нефармальны беларус"

**Відэакасэты:**

1. "Звычайны прэзыдэнт"

2-4. "Глядыятар", "Дыназаўр", "Матрыца"

**Склаў Андрэй Бандарэнка**

**зьмены на дзяржрадыё**

# Гаворыць Менск

Цягам апошніх сямі гадоў першую праграму беларускага радыё ніякія адчувальныя рэформы не закраналі. За гэты час у Менску зьявілася некалькі новых *FM*-станцыяў, пабеларуску вяшчаюць Прага, Беласток, Вільня — паспольства займела рэальную магчымасьць выбару. Першы канал, як часта любяць паўтараць і самі яго супрацоўнікі, апынуўся "па-за канкурэнцыяй".

Але з прыходам новага кіраўніцтва на Беларускім радыё — значная рэформа. Ад 1 студзеня зьмянілася сама сетка вяшчаньня, "палягчэў" фармат, "Радыё-1" узяло курс на забаўляльнасьць, "папсовасьць". Наагул скасаваныя рэдакцыі (музычная, літаратурная і г.д.) — іхныя месцы займаюць часовыя творчыя групы.

Нібыта ёсьць грошы на сучасныя кампутары, пульты, мікрафоны. Будзе запраграмаваны адмысловы этэрны кампутар з музыкай у фармаце MP3 на 500 гадзінаў гучаньня. Бо цяпер у Доме радыё такое архаічнае абсталяваньне, якога, мусіць, ня знойдзеш нідзе ў сьвеце. На першы плян выходзіць моладзь, дэкляруецца нечуваная свабода рэпэртуару. Мяркуецца больш перадачаў весьці ў жывым этэры, запрашаць ды-джэяў, ставіць музыку на замову слухачоў. Гэта можа нанесьці адчувальны ўдар па беларускай мове — значна лепшай пакуль што на радыё, чым на тэлевізіі. Дагэтуль кожная перадача, што выходзіла ў запісе, папярэдне раздрукоўвалася ў трох асобніках, некалькі разоў вычытвалася — і хібаў у мове было мала. Да таго ж будзе ўхваляцца шырэйшае карыстаньне расейшчынай.

Амаль цалкам зьнікнуць з этэру акадэмічная музыка, літаратура, сур'ёзныя культурніцкія праграмы. Мяркуецца, што большасьць зь іх пяройдзе на другі канал радыё... А я ўсё мару пра *FM*-станцыю з клясычнай музыкай. Уявіце: навіны, курс даляра, прагноз надвор'я, рэкляма — усё як мае быць, але замест усялякіх *Hi-Fi*, Алсу ды Кіркорава — такія гіты, як Трэці канцэрт Рахманінава, Другая сымфонія Малера, рамансы Шумана ці арыі Вэрдзі... І чыстая беларуская мова. Калі яшчэ тое будзе на абноўленым дзяржаўным радыё.

**Віталь Стахіевіч**

**дыскаграфія**

# "Уваход да сябе"

### АЛЯКСЕЙ ШАДЗЬКО І ГУРТ "СЯСТРА". (P) 2001.

Мастакі Ўладзімер Цэсьлер ды Сяргей Войчанка аформілі гэты альбом з вытанчаным зьдзекам: усе, хто ўпершыню бярэ кампакт у рукі, шчыра вераць, што пад празрыстым плястыкам ляжыць білет на найбліжэйшы канцэрт Шадзька, насамрэч намаляваны на вокладцы.

Вход к себе

Группа "Сестра"

Гэтаксама можна "купіцца" і на музыку. Пасьля даволі лагоднага папярэдняга альбому Аляксей выдаў рэзкую, агрэсіўную праграму, у якой упершыню не ўжывае клявішных інструмэнтаў. Альбом ад гэтага ня страціў анічога, бо і гэтым разам зь ім запісваліся калі не "тузы" ад музыкі, дык "каралі" — дакладна: гітарыст Сяргей Анцішын, бубнач Кірыла Шавандо і новая "сястра" — басіст Аляксандар Каліноўскі. Гук стварала цэлая брыгада: Барыс Далгіх, Аляксей Зайцаў ды Андрэй Субоцін. І дамагліся "цукерачкі": гучыць альбом бездакорна!

Дый рэпэртуар сьведчыць пра тое, што Шадзько ўвайшоў менавіта ў свае дзьверы. Праграма збалянсаваная, роўная. Калі паспрабаваць вызначыць сярод гэтых гітоў супэргіт, я назваў бы "Раманс", які выпадае з агульнае стылістыкі альбому, цалкам адпавядаючы пазначанаму ў назьве жанру.

У альбоме ёсьць дзьве новыя вэрсіі вядомых ужо песень: "Бывай, мой хлопчык" і "Па калена ў нябёсах". Калі першая зь іх зьмянілася ў параўнаньні з арыгіналам нязначна, дык другая страціла тэмпавую арганізацыю, хоць яе мэлёдыя — яскравая і запамінальная. Правакацыйна гучыць "Калыханка". Дзецям слухаць яе ня варта, як ня варта й самому інтэлігентнаму Шадзьку надалей выстаўляць на публічнае слуханьне ня дужа нарматыўнае слоўца. Мог і "бі-біп" зрабіць, як у папярэднім альбоме.

"Анёл", "Малінавы сон", "Голыя рыбы", "Дай мне руку тваю" — усё гэта вартыя ўвагі моцныя песьні, якія даюць падставу сьцьвярджаць, што сёньня Аляксей Шадзько ў расейскамоўнай рок-музыцы Беларусі — безумоўны лідэр, які мог бы пры ўмове раскруткі паставіць на адпаведныя месцы многіх рок-выканаўцаў, якімі гэтак ганарыцца Расея.

**Замкнёны Слухач**

**дзе варта быць**

## Распродаж у "Кнігарні пісьменьніка"

**У "Кнігарні пісьменьніка" — распродаж кніг з выстаўнага цэнтру кнігагандлёвага прадпрыемства "Белкніга".** Тут можна набыць зборнікі вершаў вядомых і ня вельмі аўтараў, кнігі з сэрыяў "Першая кніга паэта", "Паэзія народаў СССР", празаічныя творы (асобныя тамы з выданьняў Алеся Адамовіча, Івана Навуменкі і інш.), мастацкія альбомы. Кошты на сёньняшні дзень сьмешныя: найчасьцей сустракаюцца лічбы каля 200 або 500 рублёў, самыя дарагія выданьні каштуюць тысячы са дзьве. А кніжак такіх вы больш нідзе ня знойдзеце.

## Калядныя сьпевы ў Катэдры

**13 студзеня, у нядзелю, у катэдральным касьцёле Найсьвяцейшай Панны Марыі** (пл.Свабоды, 9), адбудзецца прэзэнтацыя каляднага праекту музычнага таварыства "Ліра" "Сьвятая ноч" (сьпевы на Божае нараджэньне). Падчас прэзэнтацыі прагучаць традыцыйныя калядныя сьпевы ў выкананьні хору "Залатая горка" — "Ціхая ноч", "Як прыбеглі пастухі ў Бэтлеем", "Нарадзіўся нам Збавіцель", "Нова радасьць стала" і інш.

Пачатак а 15-й. Уваход вольны.

## У чым памылялася гісторыя



**У аўторак, 15 студзеня, Беларускі Калегіюм запрашае ўсіх ахвотных у Купалаўскую бібліятэку,** на лекцыю "Лёсавызначальныя памылкі нашай гісторыі". Разважаць пра памылкі будзе Ўладзімер Мацкевіч. Пачатак, як заўсёды, у 18.30.

## Палескі рок у Кобрыне

**У Кобрыне 12 студзеня распачнецца рок-фэст "Крок".** Гледачоў чакае 5 гадзінаў жывога гуку. Яны змогуць пачуць і ўбачыць 10 рок-гуртоў са Століна, Белаазёрску, Ганцавічаў, Бярозы, Берасьця, Кобрыня.

Рок-фэст будзе складацца зь дзьвюх частак. Першая — конкурс, у якім кожны гурт грае дзьве песьні. Другая частка — галя-канцэрт пераможцаў конкурсу і вядомага на Берасьцейшчыне рок-гурту "Сад".

Канцэрт адбудзецца ў кобрынскім Доме культуры. Пачатак а 14-й. Квіткі прадаюцца ў касе ДК, каштуюць 1000 рублёў.

Зь Менску ў Кобрынь можна трапіць цягніком "Менск-Берасьце", які адыходзіць у 18.56. На месцы будзеце ў 4.23 раніцы.

## Вокны ў Полацку

**З 18 студзеня да 17 лютага ў Полацкім Нацыянальным гісторыка-культурным музэі-запаведніку будзе працаваць міжнародная выстава графікі "Вокны аднаго гораду".** Вокны Мюнхену, Варшавы, Горадні і Менску пабачылі ўжо менчукі і магіляўчане, цяпер чарга жыхароў Полацку.

## Францускае кіно

**Ужо амаль тыдзень у менскіх кінатэатрах паказваюць сучасныя францускія фільмы.** У найбліжэйшы час можна будзе пабачыць кінастужку Жана-П'ера Жанэ "Амэлі" — найлепшы эўрапейскі фільм 2001 г. Гэткі тытул стужка атрымала ад Эўрапейскай кінаакадэміі разам з прэміямі за рэжысуру і апэратарскую работу ды прызам глядацкіх сымпатыяў. Апроч таго, стужка лічыцца "оскараўскім" фаварытам у катэгорыі "Найлепшы замежны фільм". Паглядзець "Амэлі" будзе цікава і тым, хто чакае ад кіно гісторыяў (тут ёсьць прывабныя героі, займальны сюжэт, каханьне, гумар), і тым, хто шукае найперш эстэтычнае асалоды. У пятніцу, суботу і нядзелю фільм будзе ісьці ў кінатэатрах "Масква" (16.40, 18.50, 21.00; на выходных — ільготны сэанс ў 14.30) і "Кастрычнік" (18.30, 21.00; субота і нядзеля — а 16-й ільготны). Паказ сучаснага францускага кіно працягнуць стужкі "Відок", "Хамэлеон", "Бэльфэгор. Прывід Люўру".

**В.Г.**

## Навагрaдзкі замак – 2



**Навагрaдзкі райвыканкам дазволіў правесьці ў горадзе Другі Сярэднявечны фэст "Навагрaдзкі замак".** Фэст адбудзецца 29–30 чэрвеня 2002 г. – у апошнія выходныя месяца. У праграме – Турнір Караля Міндоўга, тэатралізаваная пастаноўка "Каранацыя Міндоўга", інсцэнаваная бітва за Навагрaдак у XIV ст., сярэднявечны кірмаш, вялікія канцэрты, бугурты, паказальныя выступы й шмат іншага. Падаць заяўку на ўдзел у фэсьце альбо атрымаць дадатковую інфармацыю можна ў Аргкамітэце фэсту ў Менску: т./факс: 220-68-74, e-mail: siver@folk2.lingvo.minsk.by

**Ігар Міхна**

# Друкаваны пернік

**Алесь Марціновіч. Сімяон, сын Полацку. — Менск: "Юнацтва", 2001. Для малодшага школьнага веку.**

Кніга гэтая зарыентаваная на дзяцей малодшага школьнага веку і мусіць служыць мэтам адукацыі. Між тым, можна з пэўнасьцю сказаць, што самому аўтару кнігі бракуе элемэнтарных ведаў зь беларускай гісторыі, агульнай гісторыі й гісторыі беларускай літаратуры. Так, спасылаючыся на "Сімяона...", дзеці змогуць цалкам упэўнена даводзіць сваім настаўнікам гісторыі, што фэдэрацыйныя часткі Рэчы Паспалітай па-простаму называліся "Карона" і "Каралеўства" (с.9). Як княства зрабілася каралеўствам — загадка, адказ на якую ведаюць толькі аўтар ды рэдактары кнігі.

А на с.28 аўтар мала таго што згадвае нейкі твор Сакрата, дык яшчэ й называе яго "выдатным узорам красамоўства". І гэта пры тым, што Сакрат, як вядома, нічога не запісваў: усе філязофскія сэнтэнцыі мудраца дайшлі да нас у выглядзе анэкдотаў ці ў пераказе Плятона. Іншаму знакамітаму грэку не пашанцавала зь імем. У інтэрпрэтацыі Алеся Марціновіча яно гучыць як "Дамасфэн" (с.79). Здаецца, суцэльнага аканьня ў запазычаных словах у нас пакуль што няма... Але куды ж у такім разе падзелася "э" ў першым складзе? Ствараецца ўражаньне, што імёны ды назвы выклікаюць у аўтара найбольшую складанасьць: "Назва "езуіты" паходзіць ад лацінскага слова "Іезус", што ў перакладзе азначае Ісус Хрыстос..." (с.51). Вычарпальны камэнтар, нічога ня скажаш...




Такіх хібаў можна было б пазьбегнуць, каб быў у кнігі абазнаны навуковы рэдактар. Ён бы патлумачыў аўтару, што галоўны герой кнігі наўрад ці мог у маленстве трымаць у руках "Слова пра паход Ігаравы" (с.23), знойдзенае праз 100 гадоў пасьля сьмерці Сімяона Полацкага. Патлумачыў бы, што "Полацкі" — гэта не псэўданім манаха Сімяона. Што ня ўсе выпускнікі брацкіх школаў "у далейшым зьвязвалі свой лёс са служэньнем Богу" (с.28). Што ў XVII ст. дыялектыка і філязофія былі якраз "багаслоўскімі навукамі", гэтаксама як царкоўнаславянская, грэцкая і лацінская мовы (с.93).

А некаторыя хібы маглі паправіць і звычайныя рэдактары. Напрыклад, заценіць, што псальмы — гэта вершы (с.88) і што гэта не патрабуе асобнага пацьвярджэньня. Адзначыць, што калі ўжо Самуіл Пятроўскі (будучы Сімяон Полацкі) уступіў у грэцка-каталіцкі ордэн базылянаў на старонцы 51, дык ня можа ён на старонках 61—63 пакутаваць: рабіцца праваслаўным манахам ці весьці сьвецкае жыцьцё?

Асобная гаворка пра хібы, выкліканыя прарасейскімі пазыцыямі, зь якіх напісаная кніга. Аўтар сьцьвярджае, што "Полацкага непакоіла засільле іншаземных выкладчыкаў" на Русі (с.92). А сам ён хто быў у той Маскові, як не іншаземец? Такі ж наежджы, як немцы, грэкі ды іншыя. (І дзяўблі ж яго там за лацінскія ўплывы ў разуменьні асноваў веры, вершаскладаньні!)

Неаднакроць у кнізе згадваюцца беларускія майстры: кафляры, разьбяры й інш., якія "пераехалі" ў Маскву пры цару Аляксею. Дык пераехалі самі ці ўсё ж былі вывезеныя?

Чытаецца кніга цяжка, няроўна: сказы то доўгія, груваcткія, малазразумелыя ў "малодшым школьным узросьце", то абарваныя, няпоўныя. Сустракаюцца русізмы, якія цяжка апраўдаць: слова "спазаранку" (с.16) у беларускай літаратурнай мове няма — ёсьць "з самага ранку", "зранку", "на досьвітку". Няведаньне некаторых рэаліяў прыводзіць да такіх казусаў, як, напрыклад, "друкаваны пернік" (с.70). На якім жа, цікава, варштаце друкавалі тыя пернікі? Пячатанымі яны заўжды зваліся, бо на іх быў малюнак, "пячатка".

А як рэдактару можна было прапусьціць у друк такую "пэрліну": "...зразумець вартасьць тых каштоўнасьцей, вартасьць якіх з гадамі не зьмяншаецца" (с.22)? І няўжо рэдактары й карэктары выдавецтва "Юнацтва" шчыра перакананыя, што слова "сьвятар" паходзіць ад слова "сьвет" і ў родным склоне будзе пісацца "сьветара" (с.70)?

...Вось такія ўражаньні пакінула ў мяне кніга "Сімяон, сын Полацку". Калі падагульніць адным сказам: "Адкрыў прыгожую вокладку, а пад ёй — Алесь Марціновіч".

**Ар.Шанскі**

# Чатыры кнігі пра нашы лапці

**Цітоў В. Этнаграфічная спадчына: Беларусь: Краіна і людзі. – 2-е выд. – Менск: Беларусь, 2001. – 208 с.: іл.**

**Цітоў В. Этнаграфічная спадчына: Беларусь: Традыцыйна-бытавая культура. – 2-е выд. – Менск: Беларусь, 2001. – 207 с.: іл.**

У апошнія гады цікавасьць да пытаньняў этнаграфіі вырасла, і гэта відавочна радуе. Дзьве манаграфіі аднаго аўтара ў форме навучальнага дапаможніка. Зьмест — асновы этнаграфічных ведаў пра беларускі народ і ягоную старажытную культуру, падзяляецца на главы і параграфы ў іх. У межах асобных падразьдзелаў — вызначэньне тэрмінаў і тлумачэньне зьяваў. Як напамін пра надакучлівыя школьныя падручнікі — пералік пытаньняў і заданьняў пасьля кожнае часткі. Такая падача матэрыялу можа паспрыяць лепшаму засваеньню новых ведаў — натрэніраваная школкамі падсьвядомасьць адгукаецца на знаёмую форму і дае сыгнал запамінаць.

Першая кніжка прысьвечаная агульным пытаньням беларускай этналёгіі і распавядае пра асабліваcьці нашага этнагенэзу, геапалітычнае становішча, міжэтнічныя адносіны зь іншымі народамі. Шмат у ёй лічбаў і фактаў, дзякуючы якім выданьне набывае даведачны характар. Другая кніга напісаная больш жывой мовай, распавядаецца ў ёй пра жытло, промыслы і рамёствы, ежу і харчаваньне, вопратку, транспартныя сродкі, звычаі і абрады беларусаў.




Добра чытаецца, калі ўпершыню адкрываеш для сябе побыт продкаў. Калі ж ужо штосьці ведаеш, застаецца адчуваньне "дэжа вю": дзесьці, мяркую, ужо чулі, нічога новага. Усьцешвае вялікая колькасьць ілюстрацыяў, шкада толькі, што не каляровых. Ёсьць таксама мапы й табліцы. Але інфармацыя насамрэч толькі агульная — неабходны мінімум навукова абгрунтаваных ведаў пра традыцыйную культуру. Чалавеку, які прагне заглыбіцца ў якое-небудзь адгалінаваньне гэтае культуры, варта пачытаць што-небудзь іншае.




**Васіль Ліцьвінка. Сьвяты і абрады беларусаў. — 3-е выд. — Менск: Беларусь, 2001. — 190 с.: іл.**

Гэтая кніга вызначаецца ў анатацыі як дапаможнік для настаўнікаў, выхавальнікаў дзіцячых садкоў і кіраўнікоў фальклёрных калектываў. Насьцярожана чакаеш расьпісаных да дробязяў сцэнароў, распытаўшы якія застанецца адно разьмеркаваць ролі да рабіць выгляд, што паўтарэньне прапанаваных радкоў тоеснае разуменьню глыбіннага сэнсу традыцыі.




Аднак кніга прыемна зьдзіўляе. Настаўнікі і выхавальнікі могуць хіба атрымаць тут парады, якія з варыянтаў сьвяткаваньня больш прыдатны для сцэны, або выкарыстаць у сваёй пастаноўцы фальклёрныя тэксты, якіх у кніжцы багата. Дый варыянты гульняў аўтар відавочна падбіраў такія, каб дзецям было цікава. У астатнім кніга ўяўляе сабой гадавы пералік асноўных каляндарных сьвятаў і абрадаў. Іх у выданьні чатырнаццаць. Побач з агульнавядомымі, такімі, як Вялікдзень, Купальле або Дзяды, распавядаецца і пра Грамніцы, Камаедзіцу, апісваюцца абрады пахаваньня стралы ды жаніцьбы Коміна. Паколькі традыцыйна розным мясцовасьцям уласьцівыя розныя сьвяты, асобныя зь іх могуць стацца адкрыцьцём для пэўнага кола чытачоў. Агульнае разуменьне месца сьвята ў календары і ў жыцьці людзей дапаўняецца апісаньнямі найбольш цікавых момантаў, рытуалаў, дзеяньняў у час таго ці іншага сьвята. Ніякіх штампаў і шаблёнаў: перад кожным, хто зацікавіцца, — спрадвечная аснова сьвята, вялікая прастора для ўласнае фантазіі ў кампанаваньні розных элемэнтаў і сьпіс дадатковай літаратуры ды аўдыё- або відэазапісаў. Застаецца толькі пажадаць уважліва ставіцца да традыцыі і не пераносіць сьвята або абраду ў неўласьцівую яму мясцовасьць. Прыкладам, ня варта гукаць вясну на захадзе краіны або валачобнічаць на Палесьсі.

**Народныя мастацкія рамёствы Беларусі / Уклад. Я.М.Сахута. – 2-е выд. – Менск: Беларусь, 2001. – 168 с.: іл.**

У адрозьненьне ад папярэдніх кніжак, гэта не манаграфія, а зборнік артыкулаў, у якіх аўтары дзеляцца з чытачамі сакрэтамі свайго майстэрства: пляценьня з лазы і саломы, вышываньня, выразаньня па дрэве, рабленьня выцінанак, ляпленьня з гліны, маляваньня пісанак і тканьня народных паясоў. Наўрад ці ў вас хопіць цярплівасьці й жаданьня займацца ўсімі рамёствамі адразу, але штосьці адно ўмець было б варта. З прычыны навагодніх ды калядных сьвятаў можна параіць пачаць з выцінанак. Усе мы ў дзяцінстве выразалі з паперак сьняжынкі ды гірлянды. Проста, прыгожа і, як высьветлілася, цалкам адпавядае народным традыцыям. Кніга пабудаваная такім чынам, што нават самымі складанымі з прапанаваных рамёстваў зможа авалодаць кожны чытач: пасьля зьмешчанага на пачатку агульнага апісаньня рамяства і яганае гісторыі ідзе падрабязны расповед пра неабходныя прылады, матэрыялы і тэхніку выканаваньня, прычым са схемамі і малюнкамі. Таму, калі няма магчымасьці вучыцца ад бабулі зь дзядулем, можна выкарыстоўваць гэты дапаможнік.




# Проза ад УП "Палёт душы"

**Міхась Южык. Мёртвае дрэва: апавяданьні, аповесьць. – Менск: УП "Палёт душы", 2001. – 264 с.**

Прозу Міхася Южыка, сабраную ў гэтай кнізе, можна ахарактарызаваць праз наступную трыяду: хрысьціянская мараль, псыхалягізм, простасьць. У выданьні сем апавяданьняў і адна аповесьць — з рознымі героямі й праблемамі, не зьвязанымі міжсобку падзеямі. Аднак кніга не ўспрымаецца як выпадковы зьвяз празаічных задумаў аўтара, бо ўсе творы аб'яднаныя пэўнай звышыдэяй, якую можна акрэсьліць як шлях герояў да сябе, да ўнутранай свабоды і чысьціні праз боль, страты, сутыкненьне зь несправядлівасьцю. Амаль кожнае апавяданьне сканчаецца маральнай сэнтэнцыяй, роздумам героя або аўтара пра сэнс жыцьця. Пры гэтым моцна адчуваецца аўтарская шчырасьць і ўпэўненасьць у тым, што ён кажа. Узрушвае аповесьць "Чую цябе" — гісторыя каханьня ў кантэксьце жыцьця беларускага студэнцтва канца 80-х мінулага стагодзьдзя. Чымсьці нагадвае Караткевічаву "Ў сьнягах драмае вясна", хаця ўсім былым студэнтам падасца хутчэй напамінам пра ўласныя прыгоды і хваляваньні. Кніга напісаная проста. Чытачу-гурману, выхаванаму на творах Джойса, Картасара або Павіча, ня будзе хапаць у ёй гульні, стварэньня іншых рэальнасьцяў, складаных сынтаксічных пабудоваў. Калі ў пачатку XXI ст. пытаньне, *пра што* расказаць, яшчэ можа быць больш важным за праблему, *як* гэта зрабіць, свайго ўдзячнага чытача, які з задавальненьнем перажыве з героямі іх праблемы і лёсы, кніжка Міхася Южыка знойдзе.

**Вольга Гурло**

падзеі культуры

# Гарадзенскія Каляды

**На праваслаўнае Раство ў Горадні зьбіралася сябрына, у якой шануецца постаць сьвятога Губэрта — патрона гораду.**



Спатканьне адбылося ў майстэрні Ірыны і Аляксандра Сільвановічаў: яна — гаспадыня прыватнай галерэі, ён — вядомы ў горадзе мастак. Публіка сустрэлася ўвечары ў Старым горадзе і з запаленымі ліхтарыкамі накіравалася ў майстэрню. Тамака іх чакала сьвяточная пачостка, зафундаваная грамадзкім аб'яднаньнем "Ратуша".

Напачатку гаварылі пра кельтаў, іхную спадчыну і калядныя вершы шатляндзкага паэта Джорджа Макея Браўна. Цытавалі ўрывак пра Куцьцю са "Шляхціца Завальні" Баршчэўскага.

Скульптар Уладзімер Панцялееў на просьбу зачытаў урывак з паэмы "Пра Панцялея-рыбака", напісанай сталічным тэатральным рэжысэрам Лагодам і выдадзенай кніжачкай. Акадэмік Панцялееў на сёньняшні дзень, бадай, адзіны з 300 тысячаў гарадзенцаў, якому прысьвечаная цэлая паэма. Напісаная яна па-беларуску й вызначаецца наяўнасьцю нелітаратурнай лексыкі.

Гаварылі й пра помнікі. Прагучала гісторыя пра тое, як гарадзенскія партыйныя ўлады прывезьлі з Масквы, з майстэрні савецкага мэтра Вучэціча, формы 8-мэтровай ленінскай статуі. Аднак высьветлілася, што ў формы няма рук, не захаваліся. А гарадзенскія скульптары прынцыпова адмовіліся рамантаваць форму. Тады ўлады паставілі азгураўскага Леніна.

Публіка ўспамінала й адзінага гарадзкога жабрака савецкіх часоў — Люціка, або Лютака. Спрачаліся, жывы ён ці памёр. Лютак стаў своеасаблівым сымбалем Старога гораду. Сёньня мастакі малююць яго на фоне старасьвецкіх камяніцаў.

А прысутным нават заманулася паставіць яму помнік. Існуюць жа, маўляў, неідэалягізаваныя скульптуры ў менскім Міхайлаўскім сквэры... Аднак пасьля Леніна ўлады не паставілі ў Горадні ніводнага помніка! Зьявіўся толькі бюст Адаму Міцкевічу, але выключна дбаньнямі Саюзу палякаў, ганаровы старшыня якога Тадэвуш Гавін, дарэчы, удзельнічаў у спатканьні сябрыны.

Хаця важней было б паставіць помнік сьвятому Губэрту і аленю, пагадзіліся прысутныя. А адзін зь іх пад воплескі часова пераўвасобіўся ў аленя сьвятога Губэрта. Сьвяточную імпрэзу наведалі таксама калядоўшчыкі, якія, як мае быць, сьпявалі і атрымалі дарункі.

**Сяргей Краўцоў, Горадня**

# Віктар Шніп

## Баляда Перамен

Вуліцы жадаюць перамен,
Ды плякаты мокрыя са сьцен
Абдзірае вецер на зямлю.
Мокры горад болей не люблю!
Ён як сьметніца, дзе сьпяць каты
Шэрыя, як на траве лісты,
Па якіх сьпяшаюся дамоў,
Нібы дым у неба ад кастроў,
Ля якіх бяздомныя сядзяць
І мне ўсьлед, нібы ваўкі, глядзяць.
Я таксама, нібы воўк, жыву,
Я таксама падаю ў траву,
Нібы ліст, які ляцець хацеў
І нічога ўсё ж не зразумеў
У сваім палёце на зямлю.
Я лісты на дрэвах больш люблю...
Вуліцы жадаюць перамен,
І плякаты мокрыя са сьцен
Пад нагамі чорныя ляжаць.
І няма каму і што казаць,
І я сьпяшаюся хутчэй дамоў,
Нібы дым у неба ад кастроў...

* * *

...У зіме адзінокія мы,
Як у вёсцы старыя дамы,
У якіх аніхто не жыве.
І самотна глядзім мы на сьвет,
Як глядзіць на чужы пісталет
На дуэлі няшчасны паэт,
У якога няма ў галаве
Думак сьветлых пра гэта жыцьцё.
І, як воўчае ў полі выцьцё,
Уначы пад акном гул машын.
А над горадам, нібы мурын,
Самалёт абгарэлы ляціць.
Ёсьць гарэлка, і можна запіць,
Каб забыцца, што сёньня зіма,
Што цябе тут са мною няма,
Нібы думак вясёлых пра сьвет,
Дзе з дуэлі няшчасны паэт
Адзінокім вярнуўся дамоў,
Нібы воўк, што ўцякаў ад ваўкоў...

## Баляда закаханага наркамана

Ты халодны, як камень, што ляціць у
акно,
Дзе красуня твая не з табою віно
Сёньня п'е і сьмяецца, і курыць гашыш.
Ты спакойны, як камень, як камень,
маўчыш.
Ты ляжыш у труне, што вязуць
на клады,
Ты ляжыш у труне, як салдат малады,
Што ня помніць вайны, хоць і быў на
вайне,
Ты ляжыш у труне, ты ляжыш у труне,
Як заўчора яшчэ на пасьцелі ляжаў
І красуню сваю, як агонь, цалаваў,
Цалаваў і гарэў і, як порах, згарэў
І, як попел, з акна на зямлю паляцеў
Ад цыгаркі, якую з красуняй курыў
І якой пра любоў, як пра рай, гаварыў.
І красуня адна засталася цяпер,
Ды цяпер да яе прыстае інжынэр
І каменьне, як кветкі, кідае ў акно,
Дзе красуня твая з афіцэрам віно
Сёньня п'е і сьмяецца, і курыць гашыш.
Ты ж спакойны, як камень, як камень,
маўчыш
І ляжыш у труне, што засыплюць
зямлёй,
І ніхто не прыпомніць, што ты быў
герой
Невядомай вайны, што мінула даўно...


УЛАДЗІМЕР СКАМАРОШЧАНКА

## Юлія Акунёва

* * *

Жыць як набяжыць
не хачу і ня буду,
пакуль розум ня згас,
пакуль сэрца жыве.
Гадоў шэсьць
на рахунку ў мяне,
можа, трохі і болей.
Яшчэ штосьці магчыма зрабіць,
калі з прагнасьцю жыць.
Хоць і шэпча ўпарта душа
досыць сумныя словы,
але мне не да іх,
мне зусім не да іх.
У нашым небе й цяпер
па-ранейшаму хмарна.
Дзесь далёка грыміць,
дождж ідзе,
а ў нас усё прыціхла, прылегла,
маўчыць.
Не павінна так быць,
каб столькі пакутавалі марна.
Загучыць, забурліць
і ў нашым краі,
загудзе.
Я ў нашчадках
і ў вершах сваіх
нейкі час на зямлі
існаваць застануся.
Вось тады буду жыць
ужо як набяжыць,
а на іншае што
аніяк не згаджуся.
Да апошняй хвіліны зямной
не істотай жывой —
чалавекам быць спадзяюся.

## Вінцэнт Апоныч

* * *

Праз мур не праточыцца голас,
Праз смутак не праточыцца думка...
Абудзі ў рэшце рэшт гэты глёбус,
З Воляй будзь у найлепшых
стасунках.

## Арцём Арашонак

* * *

Млечны шлях...
Сьлімак у начы
пакідае свой сьлед.

## Мікола Бугай

* * *

Я калыхаю цябе на руках.
Я напяваю табе "Пакрысе на
расе..."

Сынку,

ты не ўяўляеш яшчэ,
якое шчасьце —
засынаць у таты на руках.

## Яўген Буры

*СПОВЕДЗЬ*

Проста штосьці хочацца выпіць
І хочацца штосьці знайсьці
На тым дне, што ня здолееў бы
выліць...
На свой шлях, што ня здолеў
прайсьці.

Шлях пакут, адзіноты і волі
Згвалтаваных сэрцаў "нярускіх",
Якім вечна давіцца ад болю,
Пэўна, вызначыў Бог магутны.

Шлях тугі, перамог і каханьня
Да адзінай, вясковай, сваёй
Беларусі, што проста дазваньня
раскідаў хтосьць, вядома, ня свой.

Шлях забытых паданьняў і казак,
Шлях бясконцых блакітных палёў,
Дзе хаваецца Сонца, і разам
Зь ім нямы лябірынт каранёў.

Каранёў, што трымаюць зямліцу,
Каранёў, што трымаюць цябе,
Каранёў, якіх можам пазбыцца,
Толькі страціўшы сутнасьць сябе.

## Анатоль Гарачоў

*ОЙ, ЧАМУ Ж ЗВАНЫ НЯ ЗВОНЯЦЬ?*

Ой, чаму ж званы ня звоняць,
Не чутно набату?
Першы злодзей у раёне
Лезе ў дэпутаты.

Краў усё, што мог, ён чыста
І ў турму ня сеў тады,
Бо, як кожны з камуністаў,
Выйшаў ён сухім з вады.

А цяпер без партбілету
Яму стала выгадней:
Цягне тое, цягне гэта,
Гэтаксама, як раней.

А калі мандат мець будзе,
Красьці стане больш таго,
Бо ніхто ўжо не асудзіць,
Пальцам не тыкне ў яго.

Усіх абуў ён у галёшы...
Дык чаму ж ня грымне гром:
На якія гэта грошы
Ён будуе ў Менску дом?

Ой, чаму ж званы ня звоняць
І набату не чутно?
Першы злодзей у раёне
Ў дэпутаты лезе зноў.

## Павал Зьмітрук

*АБЛОГА*

...А ўсе, хто выжыў тут, —
Адыдуць, каб зноў вярнуцца,
Каб крыкам сваім уткнуцца,
Як дзідай, у наш рэдут.

Нас не баяцца яны,
Ім права няма — баяцца,
Адно яны прагнуць застацца,
Дзе маем застацца мы.

А мы не баімся ані,
Нам права няма — баяцца,
Мы проста мусім застацца,
Дзе прагнуць застацца яны.

І ў гэтых адхланьнях паўдня
Мы ў келіхі льем да краю —
За Бога, што нам выбірае
Ворагаў — нам раўня.

## Ясь К.

*АНАЛЫ*

Жыў-быў высокі цыбаты хлапец
З прычоскай гіпі наадварот,
Ён вешаў лапшу, бы вялікі спэц.
...Ішоў дзевяноста чацьверты год.

Ня хлопцу, вядома, — па
календару.
Юнак паглядаў ужо на дзяўчат:
Над верхняй губой якраз упару
Расквеціўся чорны вусаты сад.

Распушчаных дзеў у сяле не было
З часоў маладосьці матулі
хлапца,
І ў пошуках шчасьця пакінуў сяло
Гаротнік, узяўшы.няважкі пляцак.

Знайшоўшы месца, дзе дзевак
шмат
(Дзясяткі на кожныя мэтраў сто),
Чапляцца пачаў да файных
дзяўчат,
Але ж там яго ня ведаў ніхто.

Найбольш прыглянулася юнаку
Дзяўчо, што назвалі Русяй
бацькі,
І ён працягнуў сваю руку,
Каб дамагчыся яе рукі.

У Русі ж тады было жаніхоў,
Ой... даў Бог памяць... мо шэсьць
ці пяць,
І кожны хваліўся, крычаў, нават
роў,
Каб толькі Русю ў жанкі
атрымаць.

Найлепш зразумеў, што трэба ёй,
Юнак той вусаты і, бы Златавуст,
Акручваў яе ружовай хлусьнёй,
У мроях трымаючы Русін бюст.

Яшчэ яго вабіла Русіна бель,
Хоць арыстакраткай яна не была,
Ды лёгка згадзілася легчы ў
пасьцель:
Русіны продкі таксама зь сяла,

Таму ёй наіўнасьці не пазычаць,
І мо яшчэ добра, што толькі адзін
Яе падмануў. Астатнія ж пяць
Чакаюць лепшых сваіх гадзін.

Чакалі год, потым два і тры...
Пра белую Русю даведаўся сьвет,
Ажно закахаўся ў яе стары,
Што быў іх з усходняга боку
сусед.

Хоць Руся ня мела ўжо той
красы,
Што некалі вабіла жаніхоў:
Замучылі мужа-вар'ята вусы —
Яшчэ магла падабацца зноў.

І гэта вусач рашыў скарыстаць,
Шукаючы далей для цела выгод:
Ён жонку сваю, як апошнюю б...,
Здаваў у арэнду штодзень і
штогод.

Хлапец захацеў мець цэлы гарэм,
Дакладна такі, бы меў сусед,
Таму накладаў ён планаў і схем
І слаў у гарэм за букетам букет.

Найбольш дагадзіў ён казачцы
адной,
Хоць кожная з бабаў была не
супроць
Злучыцца з вусатым любою
парой
І тым задаволіць праклятую
плоць,

Якую даўно не чапаў стары.
Той толькі эўнухаў справна
мяняў.
А Русін мужык чакаў пары,
Калі прыступіў бы нарэшце да
спраў...

На гэтым пакінем злучэньня
працэс,
Дапіша яго гісторыі ход:
Пралез той хлапец у гарэм, не
пралез?
...Ішоў дзевяноста дзявяты год.

## літаратурны сэмінар

**Вольнаму Малышу.** У цябе цудоўны час — 15 гадоў! Мяркуючы па вершах, ты добра ведаеш краіну, у якой жывеш, і ты яе верны сын. Паэт зь цябе можа атрымацца... Пішы, чытай Багдановіча і Караткевіча.

**Крывічанцы.** У вершах пра каханьне шмат эмоцыяў, і ад гэтага яны губляюць.

**Зьмітраку Кацяшову.** Верш пра піва не атрымаўся. Зьбіты рытм, і з рыфмамі ня ўсё ў норме.

**Алесю Куліцкаму.** У вершы пра Курапаты ня ўсё даведзена да ладу. Варта было б пазбавіцца такіх словаў, як "абалонка", "папахана" і г.д.

**Алесю Халюкову.** Умееце бачыць сьвет вобразна, але больш зьвяртайце ўвагу на рытм у радках і не забывайцеся на рыфму, калі ня пішаце белым вершам.

**Віктар Шніп**

Беларусь праз сто гадоў

# Лідэр Паўночна-Эўрапейскага Альянсу



Пасьля трэцяй сусьветнай вайны, разьвязанай у выніку абмену міжкантынэнтальнымі тэрарыстычнымі ўдарамі, палітычная карта сьвету істотна зьменіцца і засьведчыць, што спадзяваньні на калектыўны цьвярозы розум чалавецтва зноў выявіліся марнымі. У пачатку XXII ст. Кітай будзе знаходзіцца ў стане паўраспаду, Расею вынікі вайны лякалізуюць у раёне Заходне-Сібірскай раўніны, ЗША будуць падзеленыя паміж Канадай, Мэксыкай, Кубай, Бразыліяй і Аргентынай. Індыя верне ў сваё ўлоньне Пакістан і будзе захоўваць узброены нэўтралітэт. У часе паваенных разборак курды ўтвораць сваю дзяржаву — Курдыстан, а Ірляндыя акупуе сумежныя зь ёю землі Брытаніі (рэшта ангельскай тэрыторыі будзе ўяўляць сабою атамны палігон).

Беларусь будзе сустракаць XXII стагодзьдзе як *цэнтар Паўночнай Эўропы*, утварыўшы геапалітычны Паўночна-Эўрапейскі Альянс, у які ўвойдуць Швэцыя, Нарвэгія, Данія, Польшча, Фінляндыя, Карэлія і пратэктарат "Прыбалтыя". Караблі беларускага ваеннага і гандлёвага флётаў будуць знаходзіцца ў Балтыцкім, Баранцавым, Паўночным, Нарвэскім морах і ў Батнічнай затоцы.

Пасьля трэцяй сусьветнай Беларусь будзе перажываць дэмаграфічны ўздым — нашых нашчадкаў ня спыняць эканамічныя праблемы. Наадварот, рост нараджальнасьці будзе абумоўліваць пэрспэктыву эканамічнага росту.

Навуковы патэнцыял краіны будзе захаваны. Працягнецца разьвіцьцё навукаёмістых тэхналёгіяў. Нашыя спадарожнікі будуць выведзеныя на арбіту Зямлі ды іншых плянэтаў.

**Унутраны палітыка-сацыяльны лад** будзе вызначацца наступнымі зьменамі. Да ўлады ў краіне прыйдзе *Беларускі Нацыянальны Кангрэс* і ягоны канцлер, а інстытут прэзыдэнцтва захавае пераважна прадстаўнічыя функцыі. Для вырашэньня пытаньняў нацыянальнага выжываньня і дзяржаўнай бясьпекі склікаецца Вальны Сойм Старэйшынаў. На пастаяннай аснове дзейнічаюць Верхняя Палата і Палата Прадстаўнікоў. Захоўваецца дaваенны адміністрацыйны падзел на раёны і вобласьці. Сваю асобную форму кіраваньня мае пратэктарат "Прыбалтыя", у які ўваходзіць і былая Калінінградзкая вобласьць. Ва ўмовах пастядравай адбудовы дзейнасьць наднацыянальных і небеларускіх партыяў і таварыстваў забаронена Канстытуцыяй.

**Мова і нацыянальная школа.** Разам з заняпадам Расейскай Фэдэрацыі спыніліся і экспансія расейскай мовы. Беларуская дзяржава абсалютна натуральна пачала вяртацца да сваёй. Нейкага асобнага нацыянальнага ўнівэрсытэту не пабудуюць: нацыянальнымі стануць ужо існыя ВНУ, ПТВ, ліцэі, а найперш дзіцячыя садкі ды ясельк і.

**Мэдыцына.** З-за росту сьмяротнасьці ад хваробаў, выкліканых радыяцыяй, заканадаўча замацавана права на эўтаназію. Усе цяжарныя ў абавязковым парадку праходзяць дыягностыку на наяўнасьць паталёгіі плоду. Дзяржава ўсяляк стымулюе нараджэньне здаровых дзяцей і не ўхваляе аборты.

**Рэлігія.** Ніякага агульнанацыянальнага веравызнаньня беларусы праз сто гадоў мець ня будуць — навошта? Больш за тое, хрысьціянства пасьля трэцяй сусьветнай будзе занепадаць. Пачне адраджацца інстытут Герояў. З рэнэсансу пагаництва паўстане рэнэсанс культуры. Культура перастане быць дзьвюхдушнай і двухмоўнай. З кантынэнтальнай Беларусь ператворыцца ў марскую дзяржаву. Беларуская нацыя, выйшаўшы ў воды Сусьветнага акіяну, адчуе сябе нацыяй сьвету, мужнай і самадастатковай. Мора вызваліць нашых нашчадкаў з палону прадзедавых комплексаў. Але аднойчы, уключыўшы сыстэму аўтапілёту дзесьці паміж Менскам і Бангалорам, малады беларускі штурман адкінецца на сьпінку крэсла і ўзгадае такія зямныя радкі:

хай дождж пральецца, і выйдуць пчолы,
і ў полі вырастуць камяні,
і зь неба промень пырсьне вясёлы
на кроны, краты і карані!

Бо і праз сто гадоў беларусы застануцца свабоднай *Нацыяй Паэтаў*.

**Славамір Адамовіч**

літаратура і мы

# Наша Бабілёнская бібліятэка

Адозва ўправы міжнароднага грамадзкага аб'яднаньня "Беларускі кнігазбор", зьмешчаная на сайце "БК" (www.bk.knihi.com), пачынаецца так: *"За шматвекавую гісторыю свайго існаваньня беларускі народ стварыў вялікую і самабытную літаратуру, адну з самых багатых у сьвеце. На жаль, яна ў сваім поўным аб'ёме ўсё яшчэ схаваная ад нас за сямю замкамі. Прыйшоў час адамкнуць тыя замкі..."*

Сапраўды, час. Аднак, аналізуючы выдадзенае "БК" за 5 гадоў, прыходзіш да высновы, што арганізацыя ня надта сьпяшаецца адмыкаць тыя замкі. Гучна заявіўшы ў пляне-каталёгу аб друкаваньні перакладнога рыцарскага і гістарычнага раману Беларусі XV—XVII ст., твораў І.Быкоўскага, М.Матушэвіча, М.К.Агінскага, Е.Фялінскай, Ю.Крашэўскага, І.Ходзькі, С.Акрэйца, М.Мойхер-Сфорыма, Я.Брайцава, Ф.Аляхновіча, Б.Мікуліча, А.Пальчэўскага, У.Случанскага, У.Самойлы, С.Пясецкага ды дзясяткаў іншых аўтараў, невядомых нават спэцыялістам, спадар Цьвірка і $C^{o}$ у апошнія гады "спаборнічае" з таннай "Школьнай бібліятэкай" і перавыдае Чорнага ды Мележа, якія залежваюцца на паліцах кніжных крамаў. Цяжка зразумець маркетынгавую палітыку "Беларускага кнігазбору": Цьвірка цудоўна ведае, як вокамгненна разышліся надрукаваныя ім "Беларускія летапісы і кронікі", выбраныя творы Ластоўскага й Жылкі, выдатна разумее, якой літаратуры прагне сёньня беларускі чытач. Ці то "Беларускі кнігазбор" — пры ўсёй павазе — з самага пачатку быў прыгожай мыльнай бурбалкай, бо ягонае кіраўніцтва ведала, што столькі таленавітых перакладчыкаў з лаціны, польскай, габрэйскай, старабеларускай ім не знайсьці. Ці то "кнігазбораўцы" ня хочуць раздражняць улады выданьнем літаратуры часоў Вялікага Княства і Рэчы Паспалітай, а таксама твораў пісьменнікаў-"нацдэмаў", рэпрэсаваных камуністамі, і таму мусяць друкаваць выдатных, але стратных сёньня клясыкаў беларускага сацрэалізму — да іхных юбілеяў "рэспубліканскага значэньня".

* * *

Беларускія літаратары правялі за кратамі і ў высылках *паўтара стагодзьдзя*. Сядзелі Дунін-Марцінкевіч, Вярыга-Дарэўскі, Гурыновіч, Гарун, Колас, Аляхновіч, Ластоўскі, Дубоўка, Дудар, Мрый, Чорны, Грахоўскі і шмат хто яшчэ. Дваццаць гадоў хаваўся на Ўкраіне ад арышту за ўдзел у антырасейскім паўстаньні Багушэвіч. Быў зьняволены на дзесяць месяцаў Славамір Адамовіч.

Сядзелі і сядзяць нашыя творцы ўсё за тое ж: за вольную Беларусь і прагу чалавечага жыцьця, свабоду творчасьці і мову. Як трапна адзначыў у сваіх "Турэмных дзёньніках" Адамовіч, *"за сваё, дзякуй Богу, за Бацькаўшчыну, не за ліхое"*.

У няволі ўсе яны — празаікі, паэты, драматургі — сумесна пішуць "Гісторыю зьняволеньня беларускай Музы". Пішуць сваімі жыцьцямі, уласнай крывёю. Хто паставіць кропку ў гэтым жудасным творы? Калі абарвецца тая жахлівая традыцыя нашага слоўнага мастацтва? Я пэўны: мужнасьць і сіла не пакінуць нашых літаратараў. І аднойчы палымяная слова аднаго зь іх спапяліць апошняга дыктатара Беларусі.

* * *

"Бязьлітасны мой воін" Алены Брава ("Крыніца", № 69, 2001) — аповесьць пра трагічнае безадказнае каханьне журналісткі да "опэра" — узор так званай "жаночай прозы", жанру, амаль не прадстаўленага ў сучасным беларускім пісьменстве, але вельмі папулярнага сярод нашых грамадзянаў, якія задавальняюць сваю чытацкую смагу дзякуючы расейскім кнігавыдаўцам. Танюткая 28-старонкавая аповесьць спадарыні Брава пераканаўча сьведчыць: беларуская масавая літаратура можа ствараецца ў нацыянальных формах. І на яе будзе попыт.

Пра саму аповесьць. У творы Алены Брава няма архідынамічнага сюжэту, інтрыгі, стралянiны, сэксу. Беларуская рэчаіснасьць у аповесьці пазначаная палітка-рэктна і нешматслоўна, пункцірам. Яна — толькі фон, на якім разгортваецца драма гераіні: дзялкі, што спрабуюць "загнаць" праз нашу краіну алюмін на Захад; дэпутат К., які заснаваў фонд з гучнай назвай "Шчыт" быццам бы дзеля барацьбы са злачыннасьцю; норавы ў Рэспубліканскім клінічным псыхіятрычным шпіталі; айчымсадыст, былы наглядчык на "зоне"; брудныя электрычкі і г.д.

У творы, які поўніцца філязофскімі развагамі пра каханьне, быцьцё чалавека ў Сусьвеце, праўдападобна, з тонкім псыхалягізмам намаляваны ўнутраны сьвет жанчыны, што спавядаецца, пакутуючы ад *"адсутнасьці неабходнай для жыцьця субстанцыі любові"*.

Не адна беларуска яшчэ пазнае ў ёй сябе.

* * *

9 сьнежня 2001-га споўнілася 110 гадоў з дня нараджэньня нашага Максіма Кніжніка. Тады ж адсьвяткаваў свой юбілей музэй Багдановіча, што ў Траецкім, які прыняў першых наведнікаў толькі ў 1991 г. Экспанаты да яго зьбіралі па драбніцах, пачынаючы зь сярэдзіны 80-х. І іх у залях музэю няшмат. Бо ніхто цягам сямідзесяці гадоў сьвядома, цішком ад улад, не зьбіраў, ратуючы ад забыцьця й праху, рэчы, да якіх дакранаўся Багдановіч. Ніхто, маючы супэрсучасную кампутарную тэхніку, да гэтага часу не паруліўся "пачысьціць" ягоны здымак, і "ЛіМ", не саромеючыся, друкуе мутнае фота паэта на ўсю першую паласу да ягонага юбілею (№ 49, 2001). Ніхто ня ўзяўся надрукаваць Максімаў дзёньнік, што ляжыць зараз у нейкай музэйнай скрыньцы, калі мышы яшчэ яго зьелі. Дасюль не ўсталяваная пліта на магіле Багдановіча ў Ялце — няма грошай. Затое на "зуброў" і налёпкі яны ёсьць.

Мы, беларусы, жывем днём сёньняшнім, і таму ў вечнасьці няма нічога для нас.

* * *

Побач з намі існуе паралельнае вымярэньне беларускае літаратуры, чароўная Шамбала. Там знаходзяцца тэксты, якіх мы ніколі не чыталі: творы Дуніна-Марцінкевіча, што згарэлі разам з домам у Люцынцы; вершы Багрыма ў чатырох сшытках, канфіскаваных у паэта; "Беларускія апавяданьні Бурачка" і "Скрыпачка беларуская" Багушэвіча, якія забараніла і згнаіла царская цэнзура; вершы, апавяданьні і п'есы самагубцы Палуяна, ня знойдзеныя дагэтуль; раман Зарэцкага "Крывічы", адабраны КДБ; ліставаньне Ластоўскага і Багдановіча, схаванае недзе ў патайніку. Усё гэта і многае іншае знаходзіцца ў паралельным сьвеце, у беларускай Бабілёнскай бібліятэцы.

Усё б аддаў, каб апынуцца там.

**Павал Абрамовіч**

## "Наша Ніва" 90 гадоў таму

**Лаўсьцікі, Гарадзенскай губ., каля Воўпы.** У нас да аднэй дзяўчыны прыехала чацьвёра сватоў з другіх вёсак, а хлопец са сваёй вёскі, каторы тую дзяўчыну любіў, сеў за печ і давай плакаць. Сваты паехалі ні з чым.

**А.Ш. 13 (26) студзеня 1912 г., № 2**

# Прэч

Калі спрабуеш разабрацца, чаму жыцьцё беларускай літаратуры ідзе амаль паралельна з жыцьцём грамадзтва, бяз пунктаў сутыкненьня зь ім, ахопліває адчай перад маштабам праблемы. Зашмат недахопаў.

Найноўшыя мастацкія тэксты з газэтаў ды часопісаў часта бываюць нецікавыя й маюць нізкі мастацкі ўзровень. Кастусь Травень ("Жыцьцё ніжэй ватэрлініі", "НН" ад 12 лістапада 2001 г.) ставіць пытаньне: "Што нам прапануе наша інтэлектуальная эліта?" Сп.Травень у сваім артыкуле дэманструе, што нават больш здольныя і таленавітыя беларускія пісьменнікі не зьяўляюцца носьбітамі перадавых ідэяў, патрэбных грамадзтву. Ужываньне да іх слова "эліта" ёсьць пакуль толькі пажаданьнем. Бяда ў тым, што пісьменьнікі Беларусі моцна прызвычаеныя да гэтага тытулу. Прыналежнасьць да літаратурнай карпарацыі шмат кім разглядаецца як агульнанацыянальны сэртыфікат элітарнасьці.

Аўтар празьмерна ўзвысіўся, і гэта адбілася на творчых выніках. Вельмі ўжо часта альфабэт пачынаюць чытаць з апошняй літары. Зірнем у апошні нумар "НН" за 2001 г., на тыя сем калядных апавяданьняў і адно эсэ, якія можна лічыць адмысловым зрэзам сучаснае літаратуры.

Пяць зь іх прысьвечаных жыцьцю сваіх аўтараў (пераклад з Картасара таксама кладзецца ў гэтае рэчышча). У сямі (выключэньнем — урывак з раману ўкраінскага пісьменьніка Аляксандра Ірванца) аповед вядзецца ад першай асобы. Толькі ў чатырох нешта, акрамя першай асобы, адыгрывае ў дзеяньні ня чыста службовую ролю, але ў аднаго Ірванца (ды мо яшчэ ў Адама Глёбуса) старонньня справы набліжаюцца па важкасьці да Яго — гаспадара мастацкае прасторы.

Так, так! Гаворка не пра ўмоўную фігуру апавядальніка, накшталт Уотсана з твораў Конан-Дойла. У "апавяданьнях" (большая частка тэкстаў выразна належыць да іншых жанраў) дзейнічае пазнавальны, зь любасьцю апісаны аўтар! Нават пераклад з Ірванца зроблены так, што ў кожным радку бачыш Уладзімера Арлова.

Канцэнтрацыя на Сабе не пакідае сумневаў наконт таго, як высока літаратары ацэньваюць свае пэрсоны, наколькі важнымі ім падаюцца ўласныя перажываньні і думкі з нагоды найдрабнейшых

Наталка Бабіна

# ЧАЛАВЕК НА СВАІМ МЕСЦЫ, або Закусь багоў



Жэнік Буд-Гусаім і быў падобны да татарына: невялічкі, з крываватымі нагамі, вузкімі раскосымі вачыма, учэпісты і моцны. Арганічна глядзеліся й жоўтыя вусы, што спускаліся аж на падбародзьдзе. Каб не мяккі, спакойны выраз твару, здавалася б, і не было гэтых некалькіх стагодзьдзяў — вось толькі што ён напіўся кумысу са скуранай біклагі, зьлез зь нізенькага калматага стэпавага коніка і агледзеўся — у якія краі занесла доля ваяра-качэўніка? Але, глянуўшы ў Жэнікавы вочы, можна было зразумець, што ні пры якіх абставінах гэты чалавек ня ўзьніме на дзіду хрысьціянскае немаўля і нават сьмяротна пакрыўдзіцца, калі яму намякнуць, што для ягоных продкаў гэта не было такой ужо вялікай праблемай.

Ці склалася жыцьцё Жэніка Буд-Гусаіма? Ясна, чаму ж не. Ён працуе мулярам у вялікай прыватнай будаўнічай фірме "Эльсан". Тут добрыя заробкі: прараб езьдзіць на працу на патрыманым мэрсэдэсе, галоўны інжынэр — на новай аўдзі, а дырэктар жыве ў катэджы за горадам. Зімой, пасьля сьнегападу, у катэджны пасёлак заўсёды пасылаюць з будоўлі экскаватар — чысьціць дарогу.

Жэнік таксама быў хацеў купіць машыну, але перадумаў: навошта яму дадатковы галаўны боль, калі і на тралейбусе ён зручненька дабярэцца, куды яму трэба? Тым больш што машына перашкодзіла б сяброўству. У Жэніка на рабоце сябры.

Кожны дзень пасьля працы Жэнік зь сябрамі выпівае ў бытоўцы. Паколькі ўсе яны няблага зарабляюць, то часьцей за ўсё закусваюць саламі, хоць часам здараецца, што на нармальную закусь не стае. Аднойчы ўсіхных грошай хапіла толькі на лімон, але майстар Пятровіч, перасмыкнуўшы ад кіслага плячыма, аптымістычна зазначыў:

— Закусь багоў!

Ды гэта не галоўнае. Галоўнае для сяброўскай бяседы — гарэлка, а на яе хапае заўсёды, дзякуй дырэктару.

Быў час, калі Жэнік задумваўся пра сваё жытло, але, як ні круціў, выходзіла, што пабудаваць сабе кватэру ён ня зможа. Нерэальна. Таму ён задавальняецца інтэрнатам, тым больш што тут у яго таксама сябры. У інтэрнаце Жэнік сустракаецца з Валяй. Калі яна прыходзіць, абодва хлопцы, ягоныя суседзі, далікатна зьнікаюць.

Валя таксама працуе ў "Эльсане", у брыгадзе тынкоўшчыкаў. Здымае пакойчык разам зь дзьвюма каляжанкамі. Валя адразу спадабалася Жэніку. Кругленькая ўся, маленькая, зграбненькая. І носік бульбінкай, і прыскі*, і вочкі — усё кругленькае. І спаднічкі яна носіць такія, каб абцягвалі, як аблівалі. Маўклівая. Гэта калі Жэнік пачаў сустракацца з Валяй, калі зразумеў, што яна стала дарагой яму, задумаўся ён пра кватэру. Але хутка зразумеў, што нічога не атрымаецца. Як ні добра ён зарабляе, як ні добра зарабляе Валя — кватэры яны не адужаюць. І перастаў пра гэта думаць.

А Валя маўклівая, спакойная.

Праўда, апошнім часам яна неяк спала з твару, зьбялела, аднойчы раптам расплакалася, лежачы каля Жэніка. Жэнік тады аж перапалохаўся, але, як ні стараўся, так і не дазнаўся, чаго ж яна плача.

...А Жэнік, няма сумневаў, добра ўладкаваны і паважаны ў гэтым жыцьці. Аднойчы да іх на будоўлю прыходзіла журналістка — дзівачка ў капялюшыку ды з торбачкай. Прараб прывёў яе да Жэніка, і яны з гадзіну прагаварылі ў бытоўцы, а потым у газэце зьявіўся артыкул — "Чалавек на сваім месцы" — і фота Жэніка Буд-Гусаіма на тле пад'ёмнага крану. Яны тады яшчэ добра выпілі на рабоце з нагоды таго, што Жэнік праславіўся на ўсю Беларусь, потым у інтэрнаце выпілі яшчэ.

А неўзабаве пасьля гэтага кашаль, што даўно ўжо назаляў Жэніку і перашкаджаў начамі спаць ягоным суседзям, узмацніўся настолькі, што адцягваць паход да доктара стала ўжо нельга. І Жэнік трапіў у Бараўляны.

Валя прыходзіла да яго, змарнелая, бледная, і аднойчы прызналася, што чакае дзіця.

Кашаль па-ранейшаму душыў Жэніка, таму ўначы, каб не будзіць суседзяў у палаце, ён часта выходзіў у далёкі кут калідору, і там, ухапіўшыся за шпінгалет аконнай рамы, бухаў і бухаў сабе на прасторы. Так было і ў ноч пасьля прызнаньня Валі. Прываліўшыся да акна, каб ня ўпасьці, Жэнік глядзеў на засьнежаны бараўлянскі лес, абыякавы да яго, Жэніка, дый да ўсіх людзей. Абыякавы месяц узыходзіў над лесам, халодны вецер трос рамы.

Хто гэта будзе, хлопчык ці дзяўчынка? Як Валя сама дасьць рады дзіцяці? Пэўна, паедзе да сваіх, у вёску. Ні пра які аборт яна ня думала, гэта ясна, дый у Жэніка такая думка мільгнула толькі аднойчы, у першы момант ад нечаканасьці і ўзбуджанасьці. Углядаючыся ў ноч, Жэнік раптам зразумеў, што ён шчасьлівы, шчасьлівы, як ніколі, ад таго, што там, далёка ў горадзе ёсьць такая Валя, і ў ёй, усярэдзіне, жыве маленькі, маленькі Буд-Гусаім.

Ці пабачыць сам Жэнік дзіця?

Што ён зможа пакінуць яму ў спадчыну?

Пра гэта Жэнік ня думаў. Прыпаўшы лобам да халоднага шкла, ён глядзеў у ноч, але бачыў ясны дзень, сябе хлопчыкам: цьвілі вербы, першыя пчолы гулі над іхнымі жоўтымі коцікамі, ён пхаў свой плот па разліве Шчары, а зь берага, жоўтага ад лотаці, маці ў хустцы, завязанай па-палеску, крычала яму:

— Не плыві ў бухту, Генику! Не плыві на глыбокае, сынку! — і зьзяла цёплае сонца.

Так разьвітваўся з жыцьцем — ці прывітаўся зь ім — невялічкі татарын, муляр, чалавек на сваім месцы, Жэнік Буд-Гусаім — закусь багоў.

* — поўныя шчочкі (паўдн.-зах.)

# німбы!

водгук

справаў (мо самы паказальны тут тэкст Сяргея Астраўца).

Між тым, падзеі, якія абіраюцца для апісаньня, характар удзелу аўтара ў іх не заўсёды заслугоўваюць надзвычайнае ўвагі *іншых людзей*. Ацэнкі, якія шчодра раздаюць творцы, характарызуюць хутчэй іх саміх, чым навакольны свет. Вось і Зьміцер Бартосік ("НН" ад 17 сьнежня 2001) прысьвяціў свае падарожныя запісы ня столькі таму, што чуў і бачыў, колькі таму, што яны з Арловым з гэтай нагоды зрабілі ды падумалі.

Добра было б зьнізіць каштоўнасьць асабістага ўдзелу творцы ва ўласных апавяданьнях. Засталося б болей месца на важкія для грамадзтва абагульненьні. Больш было б магчымасьцяў разважаць над нашымі супольнымі праблемамі.

Гэта дапамагло б запоўніць нішу ў агульнанацыянальным падзеле працы, якая належыць інтэлектуальнай эліце. Калі пазьнікаюць саматужныя німбы з грэшных галоваў працаўнікоў пяра, тады й пабачым, што яны нам прапануюць і хто зь іх сапраўды належыць да эліты.

Сёньня сам факт літаратурнае працы ацэньваецца празьмерна высока. Галіна Дубянецкая ("Крыніца", № 9, 2001) гаворыць пра *свой* пераклад верша Поля Вэрлена ці не паэтычней, чым пра сам верш (засеў у памяці выраз, што ейны тэкст яшчэ не астыў ад "зорных бяссоньняў"), і гэта не выбіваецца з агульнага стылю пісьменьніцкіх размоваў пра сваю працу.

Мо таму пісьменьнікі непатрабавальна ставяцца да зьместу й ідэйнай скіраванасьці твору (на што справядліва наракае Кастусь Травень), што для іх уласная ўвага да зьявы, зьмяшчэньне яе ў мастацкі тэкст адназначна сакралізуюць гэтую зьяву? Яны спадзяюцца задаволіць чытача ня зьместам ці формай, але самім фактам пісаньня.

Пісьменьнікі памыляюцца, прымяншаючы ўзровень адукацыі й шырачэзныя магчымасьці выбару (якія, на жаль, амаль цалкам ляжаць па-за межамі беларускамоўнай прасторы) сваіх патэнцыйных чытачоў. Ці не таму чытачы й застаюцца патэнцыйнымі?

Эліта — гэта ня тыя, хто любіць гаварыць, нават ня ўсе тыя, каму ёсьць што сказаць, а тыя, каго будуць слухаць. (Гэта тычыцца, безумоўна, ня толькі пісьменьнікаў.) Літаратурныя здольнасьці дазваляюць лягчэй прыцягваць увагу да сваіх словаў, дапамагаюць трапіць у эліту, але не вызваляюць ад абавязку думаць, перш чым выказвацца.

Эліта па вызначэньні ёсьць лепшаю *часткаю* чагосьці. Людзі з эліты працуюць з ідэямі больш за сярэдняга чалавека, але без акцэптацыі *ім* хаця б асноўных канцэпцыяў згадваць пра элітарнасьць ня варта.

Сп.Травень прапануе выдатную праграму: "Сучасная проза павінна вучыць сучаснага чалавека аналізаваць, уносіць сыстэматычнасьць у ягоныя думкі, распрацоўваць мноства варыянтаў жыцьцёвых шляхоў, што вядуць да посьпеху... і, галоўнае, абуджаць смак да жыцьця".

Каб выканаць гэтую нялёгкую праграму, трэба мець пачуцьцё еднасьці з аўдыторыяй, разглядаць чалавека як сябра, а не як ворага; як чалавека ў патрэбе, а не як вычварэнца, дэгенэрата і няўдачніка; як сваяка і калегу, а не як паддоследную жывёлу, чые рэакцыі (прыкладам, на нязвыклую гаворку) вывучае дапытлівы "элітарый".

Праблема беларусаў у ізаляванасьці элітаў ад большай часткі грамадзтва. Тыя, хто сёньня авалодаў маёмасьцю ды ўладай, у значнай ступені пазбыліся адказнасьці за рэшту насельніцтва.

У пісьменьнікаў — патэнцыйнай інтэлектуальнай эліты — іншы лёс. Ранейшая ўлада перарвала іхныя небясьпечныя сувязі з народам, кінуўшы для кампэнсацыі сурагатны німб сакральнасьці й сякую-такую магчымасьць выжыць ды пабачыць свае словы надрукаванымі. Пісьменьніцкая эліта ня здрадзіла народу канчаткова — ня мела такой магчымасьці, бо ня мела адпаведнай ступені свабоды.

Сёньня перад пісьменьнікамі выбар. Кастусь Травень гаварыў пра тое, што яны павінны даць народнай аўдыторыі. Я перакананы, што тыя, хто ня мае літаратурных здольнасьцяў, але можа сфармуляваць патрэбы грамадзтва, мусяць надалей ісьці пісьменьнікам насустрач, даводзячы ім свае жаданьні. Гэта будзе маленькім элемэнтам таго, што нам зараз вельмі патрэбна, — працэсу нацыянальнага яднаньня. А німбы пакінем Небу.

**Даніла Жукоўскі, Горадня**

абразкі і абрэзкі

## Ільготы для воінаў-нацыяналістаў

У краме вісіць аб'ява зь пералікам тых, хто мае права на абслугоўваньне без чаргі: удзельнікі, інваліды, "інтэрнацыяналісты" і г.д. Даўно зьнік СССР, а да нас так і не дайшло, што ёсьць толькі адзін спосаб зьняць праблему — не пладзіць "вільготы" і "вільготнікаў", а зрабіць столькі тавараў і крамаў, каб не было ні чэргаў, ні дэфіцытаў. А то, глядзіш, праз 20 год будзе вісець аб'ява: "Без чаргі абслугоўваюцца ўдзельнікі супраціву 1994—2001 г., ахвяры лукашызму, інваліды першага і другога рэфэрэндумаў, воіны-нацыяналісты..."

На падлозе вакзалу ляжыць амаль новая дзесяцірублёвая купюра. Людзі абмінаюць яе, але ніхто не падымае. Эх, знаў бы гэты чырвонец, які "важкі" ён бы быў на пачатку 90-х, як кінуліся б да яго: мільён "зайцоў"! — гэта ж сапраўднае багацьце! А сёньня нават бомж ня хоча яму пакланіцца, бо і "зайцы", і " зубры" тыя даўно падохлі, а 10 рублёў гэта... *O tempora, o infljacia!*

**Васіль Аўраменка**

казкі жыцьця

# Дзіва дзяцей



**Вочкі, насок, раток. Шырокі лоб думаньніка. Вялікая галава... І позірк, што лазэрным промнем пранікае ў душу. Акрэсьленая схільнасьць да экспэрымэнту, дасьледчыцкай дзейнасьці, клапатлівага зьбіраньня інфармацыі.**

Дзеці! Сапраўдныя выведнікі! Засланцы. Прыхадні. Японцы называюць іх гасьцямі з будучыні (а японскія астравы ў акіяне культуры — сапраўдны дзіцячы Эдэм).

У дні навагодніх сьвятаў я думаю пра дзіва дзяцей. У беларускай мове слова "дзіця" і "дзіва" маюць агульны гукавы, а значыць, і матэрыяльны пачатак, агульную крыніцу — з празрыстай халоднай вадою, у якой нібыта дзінькаюць ільдзінкі: дз-дз!.. Дзівоснае нараджэньне дзіцяці-бога — цэнтральны сюжэт многіх рэлігіяў сьвету.

Пісьменьнік Алесь Чобат назваў беларускую нацыю "тлумам дзяцей". Кожны на сваім грунце будуе канцэпцыю сьвету! Але мне чамусьці хочацца гэты зручны вобраз, устойлівы фразэалягізм разабраць ці замяніць на іншы — "дзіва дзяцей". Нацыя, як дзіця, зьдзіўляе мяне, а не раздражняе... Гэтак беднае малое, хістаючыся, мерае сьпярша бацькавы, пасьля матчыны боты, што стаяць на парозе.

У дзэн-будызьме ёсьць цікавая загадка-практыкаваньне для вучняў мудрацоў: "Усе чулі воплеск дзьвюх далоняў. Але ніхто ня чуў воплеску аднае далані". (Такая вось дзіўная матэматыка!) Загадка тычыцца і дзіва зьяўленьня дзіцяці на сьвет — праз мужчыну і жанчыну, бацькі і маці. Аднак тэхналёгія кланаваньня, нядаўна выкрадзеная ў багоў, хутка дазволіць нам зазірнуць у сьвет "воплеску аднае далані" (ня дзіва, што ў некаторых краінах вопыты з кланаваньнем прызнаныя дачаснымі і амаральнымі). Кланаваньне, безумоўна, паспрыяе разбурэньню рэлігіяў і традыцыйнае веды.

Дзеці — такія, як яны зараз ёсьць, — нашае традыцыйнае дзіва. Энэргетычны патэнцыял грамадзтва! Штогод назіраю гэты сьвяточны рух: на Новы год дарослыя цягаюць дзяцей па ранішніках — з бліскучымі ёлкамі, Дзядамі Марозамі, аленямі-санкамі, спаўненьнем неверагодных жаданьняў. Нібыта ў саміх дарослых абуджаюцца старыя-старыя ўспаміны... Аскепкі забытага вобразу пачынаюць рухацца, набліжацца адзін да аднаго і зьбірацца ў прыгожую празрыстую вазу *Nordica*. Рызыкну вызначыць Новы год як эўрапейскія Дзяды.

Новы год — гэта дзівосная сустрэча мінулага з будучыняй, Дзядоў зь Дзецьмі. Цяпершчына — мы — як бы зьнікае... Растае сьняжынкай над полымем.

**Людка Сільнова**

# Паважанаму Начальніку “Нашай Нівы” ад гаспод Ера (Ъ) і Хера (Х)

Мы вельмі просім Вас разьдзяліць нашу вялікую азабочанасьць з прычыны хуліганства Вашага аўтара псэўдапісецеля Граждана, каб не сказаць — фальсыфікатара ісьціны і сьвятой праўды. А дзела ў том (карыстаемся ягонай стылістыкай), што чыста саўковымі мэтадамі ён падмяняе рэчышчы плоскасьці, у якую і пераводзіць гаворку, каб кінуць цень на пазыцыю Вашай газэты, якая, мабыць, цалкам справядліва адмовілася друкаваць ягоны опус пра нейкую Шахеразаду, інакш кажучы ягонай жа лексыкай,— падмяняе дрысьню залатухай ды яшчэ бярэ ў сьведкі паважаную расейскую газэту *КоммерсантЪ*, у якой у задзе стаіць ніякі ня “херъ”, а наадварот жа — “еръ”. А Вы моўчкі глытаеце гэтую хярню (зь ягонай лексыкі слова!) і зь ім згаджаецеся, а таварыш Жандар, замест таго, каб рашуча зачыніць і сканфіскаваць Вашу газэту, тэндэнцыйна маўчыць. Маўчыць і Віця Шніп. Дакуда ж гэта будзет прадалжацца?!

Цяпер, калі газэта Ваша патаўсьцела, Вы маглі б апублікаваць той хвалёны Гражданоў твор, каб усе пераканаліся ў яго бяздарнасьці і ня думалі на Вашу газэту чортведама чаго, што нібыта Вы засісакаеце рот свабодзе слова і культуры мысьлі. А мы ўжо пабачым, што там стаіць у канцы: “херъ”, “еръ” ці, як сваім часам, намякаючы на беларускі апостраф, велягурыста выславіўся расейскі экс-прэзыдэнт, — “*такая вот загогулина получается*”! Гэта аскарбляет нацыянальнае ліцо беларусаў! І каб жа толькі ліцо — талерантна ўцерліся б, бо і не такое цярпелі. Давайце ўжо нешта адно, альбо-альбо, бо такі ж “еръ” з “загагулінай” ні хяра не інтэгруюцца, як жа нам жыць далей?!

**З пашанай, Ваш Еръ і Ваш Херъ**

**ЦЫТАТЫ**

## Маразы ідуць

**Сярэдняя месячная тэмпэратура паветра (норма) складае -50С на паўднёвым захадзе, да -80 на паўночным усходзе.** Тэмпэратура паветра ноччу складае -7—120С, але пры халодных уварваньнях з Арктыкі магчыма паніжэньне да -20—260. Абсалютны мінімум роўны -33—410С.

**Паводле www.belgazeta.com**

Б'ючыся галавой аб сьцяну, можна губляць 150 калёрыяў у гадзіну.

¾ усёй вады, што выкарыстоўваецца на хатнія патрэбы, ідзе на змыцьцё ўнітазу і прыняцьце душу.

Марка прэзэрватываў *Ramses* названая ў гонар эгіпэцкага фараона Рамзэса II, у якога было 160 дзяцей.

***Советская Белоруссия*, 5 студзеня 2002 г.**

**Ісус сказаў яму: “Я і дарога, і праўда, і жыцьцё. Ніхто не прыходзе да Айца, калі ня цераз Мяне”. Іаан. 14:6**
**БЕЛАРУСКАЯ ЭВАНГЕЛЬСКАЯ ЦАРКВА**
**Набажэнствы штонядзелю ў Менску а 10-й: Любімава 21-56. Т. 279-71-31, 270-89-87. Штонядзелю ў Асіповічах а 17-й: Леніна, 40. Т. 28-250. Штовачцьвер у Барысаве: Ватуціна 38-45. Т. 54-908; штовачцьвер у 17.30 у Маладэчне: Асіпенкі 54. Т. 3-18-76**

*Найлепшую беларускую пісьменьніцу нашай эры Еву Вежнавец — з Днём нараджэньня! Жыве Беларуская літаратура!*

*Калега па цэху*

## Прыватныя абвесткі



### вітаньні

**Сям'ю Ягоравых з Калядамі!** Зьдзяйсьненьня мараў, посьпехаў ва ўсіх справах. Колбіны, Крукавы

**Віншую Анатоля Кудраўца, Зьмітра Марозава й Міколу Трафімчука** з Днямі іх народзінаў. Зьміцер

**Галіну Лебедзь!** Любую маму з Днём народзінаў, моцнага здароўя і ўсяго найлепшага! Міхась, Сьвета

**З Калядамі і Новым годам** усіх, хто нас ведае! Жыве Беларусь! Міхась, Вэраніка Лебедзі

**Віншуем усіх чытачоў** “Нашай Нівы” з Новым годам і Раством Хрыстовым. Кастрычніцкая Рада МФ

**Рэдакцыі газэты “Гэта мы”** найцяплейшыя ў сьцюдзёную пару віншаваньні ад Кацярыны Церскай. Вальжыне — прывітаньне!

**Віншуем рэдакцыю “НН”** з Калядамі. Моладзевае аб'яднаньне “Вольны Край”

**Віншуем нашага сябра Ф.Ф.** з Днём народзінаў. Моладзевае аб'яднаньне “Вольны Край”

**Сябры з Горадні й Віцебску!** Віншую з Новым годам! Спадзяюся, што гэты год будзе добрым. Алена

**Міколу Крывальцэвіча** з Днём народзінаў! Зьдзяйсьненьня ўсіх задумаў, асабліва наконт Інстытуту археалёгіі. Лебедзі

**“Нашу Ніву”** з Новым годам! Лепшай якасьці, лепшага зьместу, большага кола чытачоў! Лебедзі

**Са сьвятамі віншую** настаўнікаў Стахавіцкай (былой), Лышчанскай ды Гатаўскай СШ. Будзьма аптымістамі! Міхась

**Беларускіх гісторыкаў і археолягаў** з надыходам Новага году! Адкрыцьцяў і вынаходзтваў! Лебедзі

**Са сьвятам віншуем** выкладчыкаў і аднакурсьнікаў гістфаку БДУ. Міхась, Вэраніка Лебедзі

**Аляксандру Якаўлеўну Прыгодзіч** віншуем з праваслаўным Раством і з Новым годам! Лебедзі

**Настачка!** З 21-м! Жадаем гожа і шчасьліва ўсё жыцьцё сваё пражыць і людзям блізкім і знаёмым сьвятло душы сваёй дарыць. Лебедзі

**Усіх вернікаў** са Сьвятам Божага Нараджэньня! Уладзіслаў Жыгалка

**Балаханава Аляксандра Лаўрэнавіча** з 48-м Днём народзінаў віншуюць дзеці й жонка. Так трымаць!

**Сашонку!** Найясьнейшы пане! Віншую зь зімовымі сьвятамі цябе і тваю жонку. ШУ

**Алесю**, навошта зьдзекавацца зь сябе? Я ж ведаю, што ты неабыякавы да мяне. Віншую! Кацярына

**Яўгіньку з yauhinka@tut.by** з Калядамі. Яскравага й бясконцага зьзяньня. “Ахоўніца цнатлівасьці” Кацярына

**Стася Басава!** Віншую з Новым годам і Раством Хрыстовым! Усяго найлепшага ў новым годзе. Алесь

**Наталечка!** Безь цябе ўсе бээнэфаўцы — кадэбісты, адраджэнцы — грантасосы, патрыёты — здраднікі. Будзьма разам! Сяржук

**Наталачка-Купалачка!** З народзінамі цябе! Па-ліцэйску зычым наяданьня, высыпаньня ды каханьня! 51 група

**Віншую Анатоля Чачотку** з Днём народзінаў. Посьпехаў, здароўя, аптымізму. Шалахоўскі Аляксей

**Усіх жаўнераў 4-га батальёну** войскаў МУС (Ваўкавыск) прызыву І-2000 віншую з насталым дэмбэлем! Вучыцель

**Усіх сваіх вучняў і вучаніц** віншую з пачаткам трэцяе чвэрці!!! Вы адпачылі?! Настаўнік гісторыі й геаграфіі

**Перадаю вітаньне той**, што заве сябе ў нэце Рагнедай! Калі што, я сам здыму чаравікі. Skirhaj

### ідэі

**Сп.Мухін, вядома**, добры крытык. Аднак хамства не найлепшая рыса ў гэтай справе. Крыху больш добразычлівасьці нікому яшчэ не зашкодзіла. У.С.

**Алесю Чобату.** Ваш артыкул... Нават няма словаў! Проста вялікі й шчыры дзякуй. Зьміцер

**Мне не хапае “Нашай Нівы”** менавіта па аўторках! Як “Наша Ніва” не разумее? Уладзіслаў Жыгалка

**Я лічу Бога вышэйшым за Сябе** — таму заўсёды пішу слова Бог зь вялікай літары!!! У адрозьненьне ад “Нашай Нівы”, *Прессбола* і іншых газэт...

**“Вольны Край”** у Internet: www.vkraj.narod.ru. E-mail: vkbel@tut.by

**“Сьвятая Дуброва — Крыўскі Пяроспар”** — дахрысьціянская традыцыя, геапалітыка, нацыянальная ідэя, этнагенэз, этнакасмалёгія й невядомая мінуўшчына. http: www.dubrova.cjb.net

### калекцыя

**Прадаю калекцыю** паштовых капэртаў СССР (300 штук за 9000 руб.) і паштоўкі зь відамі гарадоў і музэяў (400 штук за 1000 руб.). Пісаць: а/с 21, Віцебск-21, 210021

### кантакты

**Алесю Краўцэвіч!** Вас шукае Батал Кабахія. 384900, Рэспубліка Абхазія. Т.: 220-13. E-mail: batalkob@yahoo.com

**Піяніст Віталь Стахіевіч.** Т.: 262-81-06. E-mail: stachv@hotmail.com, http://sta-vit.narod.ru

**Аляксандар, 28 год,** прывабны, добры, клапатлівы, інтэлігентны, спакойны, вельмі надзейны, шчыры, прыстойны, ня здольны на падман, здраду, з в/а, бяз шк/зв, жанаты ня быў, судзімы ня быў, небагаты, люблю прыроду, кнігі, хатнюю ўтульнасьць. Ствару сям'ю з простай, вернай дзяўчынай 18—30 год, бяз шк/зв, сьціплай, шчырай, хатняй. А/с 21, Віцебск-21, 210021

**Шукаю сябра** да 20 год. Мне 25. В/а. Захапленьні: прэса, тэатар, падарожжы. 220073, Менск-73, а/с 71

### кватэра

**Віцебск на Менск.** 1-пакаёвую прыватызаваную кватэру 4/5-павярховага новага дому, 37/19/9, палепшанага пляну, вялікі балкон, санвузел разьдзельны, мяняю на жытло. Дапамагу з дастаўкай рэчаў. А/с 21, Віцебск-21, 210021

**Мяняю 2-пакаёвую кватэру**, 3/5-павярховага дому ў прыватным сэктары Рыгі на Менск. А/с 21, Віцебск-21, 210021. Таццяне

### кнігі, музыка

**Сп.Лосік**, Ваш “Маладзік” мне не аддаюць, гэтак спадабаўся. Дзе можна набыць колькі томікаў? Т.: 257-26-57. Паліна

**Вельмі танна прадаю** цудоўныя кнігі з хатняй бібліятэкі на розныя тэмы ў добрым стане. Укладзіце капэрту, вышлю каталёг. А/с 21, Віцебск-21, 210021

**Новыя альбомы “Хавайся ў бульбу”**, “Цацачная крама”, “Магутны Божа” ёсьць у Гомелі. Т.: 45-11-51

**Кнігу М.Ермаловіча “Беларуская дзяржава ВКЛ”** (2000 г. выданьня) можна набыць у Гомелі.Т.: 45-11-51

### праца

**Гэй, Беларусікі!** Няўжо ў цэлай Сталіцы для Адамовіча ня знойдзецца работы? E-mail С.Адамовіча: Slavamir@tut.by

**НАША НІВА — КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

**Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537**

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________



УЛАДЗІМЕР СКАМАРОШЧАНКА

# СУЧАСНЫЯ САГІ

## СТАНЦЫЯ

Станцыя наша ня надта вялікая. Аднак на ёй спыняліся ўсе чыста пасажырскія цягнікі. Брацы яны нікагуські ня бралі, ды ўсё ж зь некаторых вагонаў высоўваліся праваднікі зь ліхтарыкамі. З гэтае аказіі сталі карыстаць тутэйшыя заблудоны. Ледзьве праваднічка выткнецца з вагону, яе мітулем хапалі ды цягнулі ў найбліжэйшую *пякелку* (дом распусты ў нас называлі словам, якое фіксуе і слоўнік Насовіча). З жанчынак багата згаворлівых ставала, усе былі задаволеныя й нікуды ня жаліліся. Ды аднойчы ўсяму курвельству гэтаму канец прыйшоў. Мужыкі нарваліся на чэсную дзеўшку, якая заявіла ў міліцыю ды засадзіла колькі валачашчых за краты. Дый ці ня тым самым часам цягнікі ў нас перасталі спыняцца зусім. Але ж весела бывала на станцыі.

## ЗАХОДЗЬЦЕ...

Стрэў я раз файную дзяўчынку, і мы адно аднаму спадабаліся. Пасьля кавярні пратусаваліся да яе дадому. Сямейка ейная кудысьці матлянулася на ўік-энд, і кватэра была цалкам у нашым распараджэньні. То ж мы не праміналі зможнасьці нацешыцца сытуацыяй — кулдыкаліся ўсю ночку, толькі зорачкі ўвачу зіхацелі. Раным-рана я, як быў безь нічога, пайшоў у прыбіральню. Аж чую — званок у дзьверы, кватэра напаўняецца галасамі. Сяджу 5 хвілінаў. 10... 15... Галасы ня зьніклі. Я здолеў разабрацца, што вярнуліся ня толькі бацькі дзяўчыны, а яшчэ бабуля зь дзядулькам і малодшая сястра. Надчэквацьдалей не было клёпу, і я, незважаючы на сваю галізну, выйшаў да ўсёй сям'і, якая пачала высьвятляць прысутнасьць у доме чужых мужчынскіх рэчаў. Выйшаў я моўчкі з годна ўзьнятай галавою. Узяў найперш гадзіньнік і пачаў доўга й нудна яго надзяваць на руку. Сямейка анямела, і толькі тады, калі я завязаў шнуркі і пасунуўся да выхаду, мама маёй каханкі прамовіла: “Заходзьце яшчэ, малады чалавек, будзем вельмі радыя”.

## КРЫЎДА

Варачаўся я неяк поначы дахаты. Іду пустою вуліцай, аж чую: паклаў мне хтосьці руку на плячо. Я абярнуўся й адразу атрымаў у морду, не пасьпеўшы разгледзець, ад каго. Ачомаўся толькі на сьвітаньні без абутку й яшчэ колькіх нятанных шмотак. Ды ня гэта мяне пакрыўдзіла, а тое, што паскуда гэная зрабіла свой удар негабляванай дошкаю. Мала што ўся пыса ў сіняччы была, дык яшчэ й стрэмкі зь яе выцягваць давялося. Гіцаль...

## АДЛЯТАЮ-ТАЮ

Калі я служыў пад Менскам, былі ў мяне два “дзяды” цікавыя. Як надаралася жаданьне пакінуць рэчаіснасьць, а гарэлкі “духі” дастаць не маглі, яны гатавалі адмысловыя бутэрбродзікі. Скібкі батону мазалі крэмам для абутку, сушылі на сонейку, страсалі чарнату й спажывалі. “Адлятали” “дзяды” ад такога ласунку ўмэнт, а нам даводзілася бегчы ў Менск па “дагонку”, бо нашыя праблемы іх пераставалі турбаваць.

**Сяргей Балахонаў**

***Наступны нумар “НН”***
**выйдзе 18 студзеня, у пятніцу.**
**Бо “НН” будзе выходзіць у пятніцу. У Менску ў продажы — з чацьвярга абеду.**

**У нумары:**

Эсэ **Алеся Чобата** “Беларусь у Эўропе”

**Алесь Эроціч**: Развітаньне мужчын са сваёй няпэўна ўцямленай мужнасьцю, ці Нямецкая жанчына, хто яна?

Гутарка з ізраільскім пісьменьнікам **Этгарам Керэтам**

## Паштовая скрынка



**Івану З. з Пружаны.** Вы ў сваім лісьце перапісваеце кавалкамі артыкул Алеся Чобата, але не аспрэчваеце яго. Адно прыканцы заначаеце, што ўсё гэта лухта і няпраўда. А трэба ж нейкія контраргумэнты прыводзіць. Былі б яны — з прыемнасьцю надрукавалі б Ваш ліст.

**А.Г. зь Менску.** Газэта імкнецца даводзіць да ведама чытача розныя погляды.

**Барт. Г. з hotmail.com.** Ня ўсе Вашы моўныя парады слушныя, таму ліст перадамо мовазнаўцу для камэнтару.

**Паўлу К. з belcaf.com.** Пастараемся дабіцца, каб і тэлепраграма глядзелася гарманічна, хоць канчаткова гэта стане магчымым толькі па стварэньні паўнавартасных беларускіх каналаў.

**НАША НІВА**
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары “Нашай Нівы”:**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| мастацкі рэдактар | Андрэй Кузьнечык |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| выдавец | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32, (0296) 13-32-32.**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://niva.s5.com**


8 палос фарматам А2. Друкарня РУП “Выдавецтва “Беларускі Дом друку”. Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.
Наклад 3800.
Нумар падпісаны ў друк 11.01.2002.
Замова № 144.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а